© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# КРЫНІЦА

*Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс*

**10(56)-1999**





© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015




# КРЫНІЦА № 10(56) 1999

Штомесячны
літаратурна-культуралагічны часопіс
Выдаецца са студзеня 1988 года

Заснавальнікі:
калектыў рэдакцыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года



Галоўны рэдактар
Галіна БУЛЫКА

Рэдакцыя:
Валянцін АКУДОВІЧ, Уладзімір АРЛОЎ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ, Алесь РАЗАНАЎ,
Анатоль СІДАРЭВІЧ, Юры СТАНКЕВІЧ,
Вольга ШЧАДРЫНА (нам. галоўнага рэдактара)

Мастацка-тэхнічная група:
Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ, Кастусь ВАШЧАНКА,
Кастусь ДРОБАЎ, Ірына КЛІМКОВІЧ,
Марыя МАЛЕЦ, Галіна УЛАСАВА



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва,11**

**Званіце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з арыгінала-макета 25.10.99. Фармат 60x84 1/16.
Афсетны друк. Папера газетная. Ум.-друк.арк. 11,16.
Ум.фарба.-адб. 11,27. Ул.-выд.арк. 11,2. Кошт дагаворны.
Тыраж 600 экз. Зак. 3002.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва
«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.


**© «Крыніца», 1999.**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





# Аркадзь КУЛЯШОЎ

*Мне кожны год,*
*нібы жыццём другім,*
*Жыць у дваццаты век наш*
*давялося...*
*Я – акіяна жытняга калоссе:*
*Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,*
*Яшчэ да дна не вычарпаным, лёсе...*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Пра Мяне

***6 лютага 1914 г.*** *– У в. Саматэвічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і школьнага настаўніка нарадзіўся Аркадзь. Маці – Кацярына Фамінічна, бацька – Аляксандр Мікалаевіч.*

*Да 1924 года родныя мясціны будучага паэта ўваходзілі ў склад Расіі.*

*Ужо з дзесяці гадоў вясковы падшыванец чытаў вершы Янкі Купалы са зборніка "Шляхам гадоў", што з'яўляўся хатняй рэліквіяй – дырэктар мясцовай школы, які вучыўся ў Пецярбурзе на агульнаадукацыйных курсах А.С. Чарняева разам з Янкам Купалам, падараваў гэтую кніжку бацьку Куляшова. Праўда, у хаце-чытальні Аркадзь прачытаў і "ўсяго Дзям'яна Беднага".*

*Неўзабаве ён і сам пачаў складаць вершы. Спачатку па-руску. Калі набралася два сшыткі, аб'яднаў іх пад назвай "Собрание сочинений Кулешова-несчастного".*

***1926 г.*** *– У Клімавіцкай акруговай газеце быў надрукаваны верш "Ты, мой брат" пад псеўданімам Аркадзь Дуда.*

***1928—1930 гг.*** *– Вучоба ў Мсціслаўскім педтэхнікуме, дзе паэт прымае актыўны ўдзел у рабоце мясцовай студыі літаратурнага аб'яднання "Маладняк", заводзіць сяброўства з Астапенкам і Таўбіным.*

***1930 г.*** *– У Мінску выходзіць першы зборнік вершаў "Росквіт зямлі", але паколькі М.Чарот здымае з кніжкі практычна ўсю лірыку, падзагаловак "першая кніга" Куляшоў зробіць для свайго другога зборніка.*

***1932 г.*** *– вучыцца на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута. Выдае на працягу года два зборнікі вершаў – "Па песню, па сонца..." і "Медзі дождж".*

*Разам з Таўбіным і Астапенкам наймаюць адну кватэру на час вучобы. Вось як згадвае*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*расклад іх дня А.Кучар, які часта наведваў іх:*

*“З раніцы да абеду праца, пісанне вершаў, паэм, перакладанне кніг, потым абед у Доме пісьменнікаў, па абедзе зноў праца. Увечары да іх прыходзілі госці – Лужанін, Хадыка, Зарыцкі і некаторыя іншыя – разам чытаць Блока, Цвятаеву, Ціханава, Пастэрнака, Ахматаву, Маякоўскага, Асеева, з маладзейшых – Пракоф'ева, Саянава, Кірсанава. Захапляліся Купалам, Багдановічам”.*

***1934 г.*** *– Знаёмства з Аляксандрам Твардоўскім, які прыязджаў са смаленскімі пісьменнікамі ў Мінск.*

***1938 г.*** *– Выходзіць зборнік вершаў “Мы жывём на граніцы”.*

***1940 г.*** *– Выдае паэтычную кніжку “У зялёнай дуброве”.*

***1941 г.*** *– Вайна застае паэта ў Мінску. Ён дабіраецца да Оршы, адтуль – у Калінін, дзе ўступае ў шэрагі РСЧА. Праходзіць курс ваенна-палітычнай падрыхтоўкі ў вучылішчы пад Ноўгарадам і атрымоўвае прызначэнне ў якасці карэспандэнта армейскай газеты “Знамя Советов”.*

***1942 г.*** *– З-пад пяра Куляшова выходзіць паэма “Сцяг брыгады”.*

***Жнівень 1942 г.*** *– Друкуецца “Балада аб чатырох заложніках”. “Такі выключны паэтычны цыкл, да якога можна яшчэ далучыць напісаны пазней па заданні палітаддзела 11-й арміі на аснове канкрэтнага факта верш “Камсамольскі білет”, стварыў Куляшоў у ліпені-жніўні 1942 года”, – пісаў у 1983 годзе беларускі крытык Варлен Бечык.*

***1943 г.*** *– Паэма “Сцяг брыгады” друкуецца ў перакладзе Міхаіла Ісакоўскага ў часопісе “Знамя”. Паэма мела шырокі водгук. Пра яе пісалі Твардоўскі, Асееў, Пастэрнак, Ціханаў, Фадзееў, Луконін.*

*Трэба зазначыць, што падчас вайны А.Куляшоў пісаў, “у якасці пісьменніка-франтавіка”, і вершы на рускай мове для армейскай газеты.*

***1943–1945 гг.*** *– У Беларускім штабе партызанскага руху.*

***1945–1946 гг.*** *– Галоўны рэдактар газеты“ ЛіМ”.*

***1948 г.*** *– піша паэму “Новае рэчышча”, даволі слабую нават па ацэнках таго часу, з уплывам “тэорыі бесканфліктнасці”. Папрокі ў гэтым зрабіў Куляшову ў сваёй рэцэнзіі ў “ЛіМе” К.Крапіва (11 сакавіка 1950 г.).*

***1950 г.*** *– Піша паэму “Толькі ўперад”.*

***1951 г.*** *– Выйшла з друку кніжка “Камуністы”, “у якой, – як пісаў ужо згаданы намі Варлен Бечык, – было змешчана ўсё лепшае, што напісаў Куляшоў за пас-*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*ляваенны час. У вершах, напісаных на парозе 50-х гадоў, выразна бачыцца імкненне паэта да маштабнасці, да высокага публіцыстычнага пафасу. Разам з тым вобраз аўтарскага "я" нярэдка, як бывала ў тую пару не толькі з Куляшовым, а з многімі паэтамі-сучаснікамі, губляў душэўна-псіхалагічную канкрэтнасць".*

***1953–1956 гг.*** *– Піша паэму "Грозная пушча", сюжэтная схема якой, як зазначыў А.Твардоўскі, "была излишне отяжелена переплетениями различных ходов, отношений, судеб и так далее", а "прозаическая распространенность и детализация повествования сами по себе даже интересные и выразительные – часто вступали в явные противоречия с возможностью стиха, который предназначен, по Гете, "собщать предметам мощь и крутизну".*

*Цяжкімі і напружанымі былі творчыя пошукі паэта ў 50-я гады.*

***1957–1967 гг.*** *– Працуе на "Беларусьфільме".*

*1964 г. – Выходзіць у свет "Новая кніга" і ў тым жа годзе выдаецца ў Маскве ў перакладзе Я.Хелемскага. "Паэт дасягнуў у ёй вышынь ёмкага філасофскага асэнсавання сучаснасці, яе вызначальных гістарычных і сацыяльна-палітычных тэндэнцый, яе новых прасторава-часавых уяўленняў і гуманістычных перспектыў", – піша В.Бечык. І дадае: "Вядома, у Куляшова, калі мець на ўвазе "Новую кнігу" і наступныя за ёй творы, ёсць вершы, што не пазбягаюць адкрытага разважання і не звязаныя непасрэдна з прадметным светам. Але і такое абагуленае перажыванне не губляе ўнутранай пластычнасці, яно паўсюль захоўвае сваю душэўную канкрэтнасць".*

***1968 г.*** *– Піша паэму "Цунамі". Прысвоена званне народнага паэта Беларусі. Узнагароджаны прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі.*

***1970 г.*** *– З-пад пяра Куляшова з'яўляецца аўтабіяграфічная паэма "Далёка да акіяна".*

*Выходзіць у свет кніжка "Сасна і бяроза".*

***1972 г.*** *– Пішацца паэма памяці А.Твардоўскага "Варшаўскі шлях".*

*Варлен Бечык зазначае, што чытаючы ў яго прысутнасці гэтую паэму, Куляшоў распавёў наступнае:*

*– Аляксандр Трыфанавіч лічыў, што я хваравіты і слабейшы за яго. Аднойчы, калі ачуняў пасля хваробы, нават сказаў: "Ах, Аркадий! Какие я на твою смерть собирался стихи написать..." І вось цяпер не ён пра мяне, а я пра яго пішу...*

***1973 г.*** *– Адказвае на Нарачы на пытанне В.Бечыка: ці пішацца?*

*– Здаецца, гатоў пісаць, але не пішацца. Для вершаў трэба, каб нават арганізм біялагічна саспеў.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*А так – быццам нейкіх солей не хапае...*

*І яшчэ:*

*– Адмовіўся я выступаць з адным крытыкам. Не разумее паэзіі. Бывае так: разумны чалавек, а да паэзіі абсалютна глухі, і нічога не зробіш...*

***1975 г.*** *– Заканчвае паэму "Хамуціус" пра Кастуся Каліноўскага.*

***1976 г.*** *– Выдае кніжку паэзіі "Хуткасць".*

***1977 г.*** *– Дае сваё апошняе інтэрв'ю Варлену Бечыку для Агенцтва друку "Навіны". Чытачы газеты "Голас Радзімы" чыталі яго ў дзень смерці паэта...*

*– Якія вашы планы?*

*– Буду пісаць паэму пра Дзяржынскага, чэкістаў...*

*– А вершы?*

*– Вершы мне, мусіць, ужо не трэба пісаць. Пара кінуць. Узрост ужо не дазваляе...*

*Бечык дадае, што гаварылі і пра смерць. Смерці ён (Куляшоў. –* ***Л.Г.****) не баяўся, казаў: галоўнае – трэба ўсё рабіць добра, жыць добра трэба...*

*(Нагадаю чытачам, што і сам Бечык памёр у 1985 годзе, не дажыўшы да сарака шасці...)*

***4 лютага 1978 г.*** *– У Нясвіжы, на лячэнні ў санаторыі, паэт Аркадзь Куляшоў памірае...*

*На стале засталіся чарнавікі вершаў і накіды новай паэмы...*

*Наастатак – яшчэ з напісанага пра А. Куляшова Варленам Бечыкам у 1983 годзе.*

*"Куляшоў – сын свайго часу, паэт-камуніст, чалавек з мужным і чулым сэрцам, годны пераемнік традыцый Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, і сапраўдны майстар-наватар, адкрыцці якога пашыраюць духоўныя далягляды народа.*

*Вялікім укладам Куляшова ў беларускую літаратуру з'явіліся яго шматлікія пераклады, адзначаныя высокай культурай і натхнёнай дакладнасцю. Сярод іх – "Яўген Анегін" і другія творы Пушкіна, вершы Лермантава, "Энеіда" Катлярэўскага і "Песня пра Гаявату" Г.Лангфела...*

*...Вялікая шматгадовая літаратурна-грамадская дзейнасць Куляшова была высока ацэнена савецкім урадам. Ён двойчы быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР. Яго пераклады адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы. З першых пасляваенных гадоў да канца жыцця паэт быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. У 1968 годзе яму было прысвоена ганаровае званне народнага паэта Беларусі.*

*Паэзія Аркадзя Куляшова – вялікі агульнанародны набытак. Ярка і своеасабліва адлюстраваўшая дзесяцігоддзі народнага жыцця, яна належыць да самых значных з'яў савецкай паэзіі".*

**Падрыхтаваў**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Хуткасць думкі. Хуткасць ракеты. Хуткасць дарогі. Хуткасць плуга ў баразне. Спазнаўшы іх, усвядоміўшы іх адноснасць, араты лёг на ўскрайку поля і спакойна заснуў. Каб бачыць доўгія-доўгія сны пра тое, што яму давялося пражыць.

Цэласнасць. Завершанасць. Строгасць. Гармонія. Класічныя крытэрыі, якімі мы амаль перасталі карыстацца. Бо кідаюць плугі аратыя.

"Вот и всё. Смежили очи гении. И когда померкли небеса, словно в опустевшем помещении, стали слышны наши голоса".

Але пачакаем прыбядняцца. Часу без імёнаў не бывае.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

А.Куляшоў жыў у абставінах, якія мала спрыялі творчасці. А між тым ён быў адным з нямногіх паэтаў, каго Бог надзяліў не толькі здольнасцю лёгкага рыфмавання, але і маштабнасцю светабачання, магутнай фантазіяй і аналітычным розумам. На жаль, гэты вялікі патэнцыял у многім застаўся незрэалізаваным.

**Галіна ТЫЧКА**

Куляшову заўсёды было ўласціва памкненне да новага і глыбіннае, па-мастацку свежае адчуванне яго ў жыцці, у часе. Таму так напружана глядзеў ён уперад. Таму рашуча пераменьваў лад сваіх твораў, так прыкметна змяняўся і далёка сягаў.

**Варлен БЕЧЫК**

## ЦЫТАТНІК

У паэзіі А.Куляшова ў адно зліты і ўспаміны аб мінулым, і справы сённяшнія, і

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



накіраванасць у будучыню. Гераіка, рамантыка – гэтая адметная рыса паэзіі А.Куляшова – нараджаецца з адчування руху наперад – праз страты, памылкі, гора і радасці, але – “толькі ўперад”.

**Алесь АДАМОВІЧ**

У чалавеку, на думку Куляшова, спалучаюцца гісторыя і сучаснасць, першая і другая прырода, натуральнасць і культура, зямля і космас, – яго паэзія напоўнена роздумам пра адносіны гэтых катэгорый у духоўным свеце чалавека, які ўяўляецца аўтару складанай, “шматпавярховай” сістэмай. Глыбокая сувязь са сваім часам – гэта разам з тым і сувязь з усімі часамі. Яна памножыла маштабы асобы паэта і яго героя, абумовіла вострую надзённасць яго творчасці...

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

З’явы, пра якія думае паэт, і само мысленне, калі ў думцы, выказанай у радку, вычытваецца яшчэ дзесятак, глыбокіх, сучасных, трывожных і радасных, дазваляюць гаварыць пра паэта як пра чалавека эпохі, якому відна ўся яна – ад асветленых сонцам чалавечай праўды пікаў да атручаных паняволеннем нізін.

**Максім ЛУЖАНІН**

...спасціг – адкрыў для сябе! – адну заканамернасць, пра якую дыскутавалі А.Куляшоў з З.Азгурам: кожны від мастацтва вымагае, каб яго тлумачыла слова. Нават музыка, якую, здаецца, разумеюць усе без слоў. І – жывапіснае палатно. Сцэнічная пантаміма... І – скульптура таксама! Паглядзеўшы на статую, чалавек уголас або толькі для самога сябе складае пэўную літаратурна ясную “праграму” мастацкага твора, пэўнае “лібрэта” мастацкай кампазіцыі, складае рэестр каларыту, акцэнтаў, настрою – і ў батальнай карціне, і ў лірычным пейзажы... І нават парыцарску высакародная паэзія то, бывае, злуецца на балбатлівую крытыку-тлумачальніцу, то прагна чакае яе водгуку, і тады вельмі ж крыўдуе, калі тая маўчыць... “Лепш дубінкай хай размахвала б, толькі б не маўчала...” – гэтая грэшная думка трывожыць нават і таго, чыя галава ўпрыгожана лаўравым вянком.

Гэтак гаварыў Куляшоў.

**Барыс БУР’ЯН**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## ДА ПАЭЗІІ

Я – вязень твой, а ты – мая турма,
Асуджан я любоўю пажыццёва.
Зняволенне маё датэрмінова
Ты скараціць спяшаешся дарма.

Дарэмна, заняволіўшы другога,
Ты варту памяншаеш мне ўдвая –
Не мае сэнсу гэта засцярога
І гэтая прадбачлівасць твая.

Я не збягу, пазбаўлены нагляду,
Не перастану ланцугом грымець,
Штодзень хадзіць на шпацыр па
раскладу,
Галадаваць і ў карцэры калець.

Не можаш ты мяне пазбавіць мовы,
Змяніць мой лёс уладаю сваёй,
Не ты мяне абрала – вязень твой
Абраў цябе на тэрмін пажыццёвы.

*1960 г.*

***

Мне кожны год,
нібы жыццём другім,
Жыць у дваццаты век наш
давялося...
Я – акіяна жытняга калоссе:
Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
Яшчэ да дна не вычарпаным, лёсе,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Не золатаздабытчык і не бос –
Дваццатым векам вызвалены атам,
Жылплошчу пазычаю я ў нябёс,
Каб быць для іх таварышам і братам.
Але і гэта не апошні лёс,
Які мне векам суджаны дваццатым.

Ператварацца буду зноў і зноў
З ідэі ў плоць,
з жыцця ў жыццё другое...
Жыву, і пачуццё ў мяне такое,
Як быццам мне не пяцьдзесят гадоў,
А пяць стагоддзяў – самае малое.

*1962 г.*

***

Не бачыўся я ўсё жыццё амаль
З сябрамі незабыўнымі маімі.
Зноў выклікае на размову з імі
Навекі разлучыўшая нас даль.

Каня свайго сядлаю і ў дарогу,
Цяжэйшую з усіх былых дарог,
Кіруюся адзін, – як маналог
На пошукі жывога дыялогу.

Але ці след спяшацца мне, калі
Цень падаўжэў,
конь пакалечыў ногі
І там, куды я еду, дыялогі
Спяць вечным сном,
набраўшы ў рот зямлі?

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Не прыпыняйся, не жахайся, слова!..
Хай адвячорак доўгім ценем лёг –
Магчыма немагчымая размова
Датуль, пакуль магчымы маналог.

*1964 – 1965 гг.*

***

Хваробу, што здароўе падкасіла,
Нібы быка, за рогі мы бяром,
Пакуль жыве ў нядужным целе сіла
З уладай таямнічай над пяром.

Лепш цяжка жыць,
чым быць бадзёрым трупам –
Гарэць агнём, якога ўжо няма,
Былой уладай пахавальны марш
Забараняць іграць крытычным трубам.

Лепш вечны сон, чым гэткай явы сны.
Хай на парозе небыцця такога
Мяне ў калыску з труннае сасны
Кладуць жывога так, як нежывога.

Нашто мне зрок, навошта гучны крок,
Хвілін імклівасць, цішыні хвіліны,
Турботы дня, апошнія навіны,
Крывёй не перагнаныя ў радок?

*1964 – 1965 гг.*

***

Ёсць у паэта свой аблог цалінны,
Некрануты прастор для баразён,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Дзе ён працуе з першае хвіліны
І да апошніх вечаровых дзён;

Ёсць думак прагавітае насенне,
У жменю назбіранае з дарог,
Што спелага чакае ўвасаблення,
Заліўшы хваляй жытняю аблог;

Ёсць сэрца маладое, без якога –
Без палкага, жывога пачуцця –
Няма ў яго нічога: ні аблога,
Ні плённых дум, ні самага жыцця;

І ёсць адказнасць перад строгім
вершам,
Перад яго пачаткам і канцом –
Каб баразну,
радком пачаўшы першым,
У сноп звязаць шаснаццатым радком.

*1962 г.*

***

За годам год ляцяць дзесяцігоддзі,
Як дождж, як пыл, як снег на галаву,
На той зямлі, дзе змалку я жыву,
Дзе аддаю, з календаром у згодзе,
Свой час сяўбе гарачай і жніву.

Стаіць ужо, з цапамі і мятлою,
Час малацьбы каля маіх дзвярэй...
І, што ні дзень, да той пары бліжэй,
Калі зямля, як сказана не мною,
Мяне ў свой змрочны прыме
маўзалей,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Дзе прагных дрэў старукае карэнне
Абмацвае сляпое сутарэнне,
Шукаючы вады сваім ствалам.

Там буду я, і плён мой будзе там,
Калі не ператворыцца ў насенне,
А пойдзе на спажыву ветракам.

*1962 г.*

***

Шторм акіянскі стрэў
на трэці дзень я,
Пакінуўшы чужыя берагі
Амерыкі Паўночнай.
Для натхнення
Сцягам патрэбен вецер, мне – сцягі.
Але не тыя, што на літасць сцюжам
Здаюцца, сустракаючы зіму...

Ні перад злом,
ні перад крывадушшам
Сцяг белы я ніколі не ўзніму.
Ні перад хваль пагрозным
хваляваннем,
Ні перад смерцю, ні перад каханнем,
Калі мяне не мужным мараком
Яно захоча бачыць, а рабом.

Няхай злуюцца хвалі. Выклік смелы
Я пасылаю сам насустрач ім –
Свайго жыцця чырвоны сцяг.
А белы –
Я пакідаю ворагам маім.

*1962 г.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



***

Праз дзесяць год ты з'явішся
з-за хмары,
Закончыўшы касмічны свой палёт,
А на зямлі, па вылічэнні мары,
Гадоў міне не менш як восемсот.

Не знаю я, што, прыляцеўшы з неба,
Вачыма новых дзён убачыш ты,
А толькі не шукай, шукаць не трэба,
Сярод магільных пліт маёй пліты.

Лепш завяжы любімую хусцінку,
Сатканую з праменняў і нябёс,
І хай нясе цябе, сваю дзяўчынку,
На лёгкіх крыльцах неўміручы лёс.

Нясе на месца тое, дзе спатканне
У нас з табой апошняе было –
Там будзе спачываць маё каханне,
Што без кахання век свой пражыло.

*1962 г.*

***

Палын не трэба ні млынам,
ні зводкам.
Нядолі дар,
ён быў адвечным сродкам
Гаротных жней, якія ад грудзей
Гаркотаю адваджвалі дзяцей, –
Каб стаць хутчэй маглі яны на ногі,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Каб адкрывалі, з дапамогай рук,
Хат курадымных бітыя парогі...

Я з ім жыццё прайшоў –
былы хлапчук –
Ад першых крокаў пад бацькоўскай
лавай
Да баявых сцягоў, што мы са славай,
Не падаючы, неслі праз вайну, –
За гэта ўсё мы ўдзячны палыну!

Палын – і клопат матчын, і дарога,
І слёзы, і ўспамін сіроцкіх меж,
І горыч малака таго, якога
Ніякай смагай з вуснаў не сатрэш.

*1963 г.*

***

Не сустракацца
мне больш ніколі
З маім маленствам
у чыстым полі,
З маім юнацтвам
у лесе цёмным,
З маім ваенным
жыццём бяздомным.
Па ціхіх вулках,
па трактах гулкіх
Прайшлі маленства,
юнацтва леты
І,
перакуленыя ў рачулках,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Сплылі з вадою
на край планеты.
Яны ўжо –
кропля святла ў сусвеце.
А я, не вечны
і нецярплівы,
Чакаць не згодны,
што нехта, недзе
Праявіць некалі
іх негатывы.
Мне б хуткасць думкі,
бляск уяўлення,
Каб мог я словам
дагнаць праменне
І нечаканым
спыніць экранам
Гады былыя
на вокамгненне.
Я б галавою
прыпаў ссівелай
Тады б да ног іх,
ад шчасця плакаў
У чыстым полі
паперы белай,
У цёмным лесе
чарнільных знакаў.

*1969 г.*

***

Сноп апошні залатога жыта
Застаецца ў памяці палос...
Гэтак і цябе не скосіць лёс –
Мною ты не можаш быць забыта.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Нават і тады, калі б імгла
Вочы мне засыпала зямлёю,
Калі б я забыты быў табою,
Мною б ты забыта не была.

*1967 г.*

***

Пашанцавала тройчы мне,
Я тройчы, выпрастаўшы рукі,
Ляжаў не ў ложку, а ў труне...
Я знаю, што такое мукі.

Пад сэрца ледзь улоўны стук
За хвіляй хвілю адзначала
Хвароба крыжыкамі мук –
І страшным могільнікам стала.
А я, між яваю і сном
Час перабыўшы, ставіў коску –
Цярпліва, як за косткай костку,
Нябыту кідаў дзень за днём.
Адбыўшы восень і зіму,
Я ўстаў, вясны пачуўшы гукі.
Яны гучней чуваць таму,
Хто знае, што такое мукі.

Не горка мне было ў труне
Ляжаць відовішчам маркотным,
А горка, калі свет засне
У хатнім ложку сном смяротным.
Навокал сонца я лячу
Зямлі кругазваротным шляхам,
Лячу, бо я яшчэ хачу

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Быць самаго сябе працягам.
Яшчэ адзін, другі віток
Рабі па правілах навукі,
Зямля – жыцця майго выток...
Я зведаў, што такое мукі.

Я нарадзіўся зноў на свет...
Як свет пасля цяжкой хваробы –
Кійком, абмацваючы тропы,
Пішу трывожны запавет,
Пішу: я ўстаў не для таго,
Каб дыхаць пыльным тлом
магільным,
А каб, мінаючы яго,
Сачыць за смерцю вокам пільным.
Пішу: я, сведка ўсіх падзей,
Сірочых слёз, вайны, разлукі,
Жадаю шчасця для людзей...
Я знаю, што такое мукі.

*1967 г.*

## САСНА І БЯРОЗА

Трымаюць Зямлю
без падважнікаў тых,
Без мудрага троса
Жывымі рукамі карэнняў сваіх
Сасна і бяроза.

Ад дыму да пары
ў пякельных катлах
Судна, паравоза

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Прайшлі яны поруч гарачы
свой шлях –
Сасна і бяроза.

Лягла на іх плечы цяжарам вайны
Акопная проза:
Служыла салдатам сасна –
для труны,
Для крыжа – бяроза.

Знікала з тузоў,
гандляваўшых крывёй,
Пыхлівая поза,
Калі перад імі ўставалі з пятлёй
Сасна і бяроза.

Ад явы крывавай не вынайшлі лек...
І ўзнікла пагроза,
Што могуць пад крыжам
закончыць свой век
Сасна і бяроза.

Ужо на насенне, якое ў раллі,
Паглядваюць коса
Аратыя смерці, каб больш не раслі
Сасна і бяроза.

Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза...
А што, як Зямлю нашу выпусцяць
з рук
Сасна і бяроза?

*1968 г.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



***

Я хаце абавязаны прапіскаю –
Калыскаю, падвешанай пад столь.
Я маці абавязан кожнай рыскаю,
Драўлянай лыжкаю,
глінянай міскаю –
Усім, чым працы абавязан стол.

Я – матчын спеў,
я – матчыны трывогі,
Я – матчын гнеў, які ўставаў на ногі,
Гнаў смерць на Захад –
у нару з нары –
Тратылаваю пугай перамогі.
Дыміліся сямі франтоў дарогі
За мной, як дынамітныя шнуры.

Пазбавіўшы ад грознага відовішча
Свет, не дазволю я, каб дым і пыл
Зямлю ператварылі ў бамбасховішча,
Мільярд прапісак –
у маўклівы прысак,
Мільярд калысак – у мільярд магіл.

*1963 г.*

## ХУТКАСЦЬ

Ёсць хуткасць гуку,
ёсць – звышгукавая,
Ёсць хуткасць зор,
прыкметная для ўсіх.
Яшчэ ёсць хуткасць думкі,
хуткасць тая,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Што, як святло, стагоддзе абганяе,
З тысячагоддзем размаўляе ўслых.
О, таямніца кніг, скажы, з якіх
Людскіх глыбінь ты цуды
здабывала?

Твой зачынальнік слоў не знаў і мала
Свет разумеў, не меў матык і сох,
Маўчаў, як сом,
пакуль бяда не ўзяла
За шчэлепы яго і на пясок
Не кінула, пакуль сярод начы
Яго душы нямой, сканаць гатовай,
Не загадала: – Дыхай, плач, крычы,
Нябыт цяжкі пазбудзь
не рыб'яй мовай.

Свет будзе пець, смяяцца, слёзы ліць
Датуль,
пакуль на свеце людзям жыць.
Сабрат мой па пяру, на суд іх смела
Вынось усё, што ў сэрцы набалела.
Слёз не стрымаеш –
плач, але не тою,
Пад пачуццё падробленай, слязою,
А той, што смех вяртае з небыцця.

Смяяцца хочаш – смейся, як дзіця.
Перад сабой і светам
будзь праўдзівы.
Прымай, як дар,
жыццём пасланы дзень,
І, можа, кніга гэта век імклівы
Дагоніць і абгоніць,
як прамень.

*1974 г.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



***

Зайздрошчу я мастам,
не іх канструктарам,
Дарогам, па якіх да нашых дзён
Імчаць саставы з посвістам
і грукатам,
Не помнячы праслаўленых імён.

Хачу, каб так і слова –
не жалезнае,
Знаёмае з пакутай і слязьмі, –
Ад славы і імёнаў незалежнае,
Трымала сувязь з часам і людзьмі.

Хачу, каб слёзы,
што ў душы радзіліся,
Жыццём сваім асобным зажылі,
Каб так, як дождж па шкле,
яны каціліся
І па шчацэ, і па шляхах зямлі.

Хачу,
каб не прылізаным і чысценькім
Быў сэрца боль, каб пёк ён і смылеў,
Каб не прыкрыт быў грэх
прыстойным лісцікам,
Смех – гулкім рэхам быў,
абвалам – гнеў.

А аўтар хто? Дзе рос?
Як празываецца?
Ёсць весткі, альбо там яны ляжаць,
Дзе ўжо нічога ўслых
не вымаўляецца? –

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Знаць важна,
　　　　　　але можна і не знаць.

Вы мне даруйце сёння,
　　　　　　　　　　суддзі строгія,
Што мой і смех і гнеў не быў такім
І што, на жаль, пад імі,
　　　　　　　　　　як і многія,
Я прозвішчам падпісваўся сваім.

*1973 г.*

## БЫВАЙ...

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая.
Чаму так горка, не магу я зразумець.
Шкада заранкі мне,
　　　　　　　　што ў небе дагарае
На ўсходзе дня майго,
　　　　　　　　якому ружавець.

Ці помніш
　　　　першае нясмелае прызнанне?..
А ў небе жаўранкам
　　　　　　　　звінеў і плакаў май.
Назаўтра золкае, туманнае світанне,
Суровы позірк твой
　　　　　　　　і мой нямы адчай.

Пайшла ты, любая,
　　　　　　　пад гоман жоўтых сосен,
Пайшла, маўклівая,
　　　　　　пад хваль жытнёвых шум,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Туды, дзе гойдала зялёнае калоссе
На сцежках ростані мой адзінокі сум.

Пайшла за ціхія, далёкія прасторы
Світальнай зоркай ты,
што гасне ў сіняве.
Душы пакрыўджанай
гарачыя дакоры
Слязой халоднаю застылі на траве.

Пайшла,
пакінуўшы мне золкі і туманы,
Палынны жаль
смугой ахутаных дарог,
Каб я, хвілінны боль
і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы
заглушыць сваім не мог.

Пайшла,
ніколі ўжо не вернешся, Алеся,
Бывай, смуглявая, каханая, бывай.
Стаю на ростанях былых,
а з паднябесся
Самотным жаўранкам
звініць зялёны май.

Бывай, абуджаная ў сэрцы, дарагая.
Твой светлы вобраз
панясу я па жыцці.
На ўсходзе дня майго
заранка дагарае,
Каб позна вечарам на захадзе ўзысці.

*1928*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## НА ПАЎМІЛЬЯРДНЫМ КІЛАМЕТРЫ

Жыццё маё на хуткасць гуку
Памнож і множанне правер.
Вось ты і адкажы, навука,
Адкуль вяртаецца цяпер

Лясной вяшчунні кукаванне,
Што, абудзіўшы першы сон,
Калісь пазвала ў вандраванне
Мяне на многа тысяч дзён?

Зайшоўшы ў векавыя нетры,
Стаю, зачараваны ім,
На паўмільярдным кіламетры,
Паміж наступным і былым.

Пакліч – былое адгукнецца
Жалейкаю за хваіной;
Скраніся – і важкой хадой
Наступнае ў паход кранецца.

Пяройдзе шлях у новы шлях,
Расстанне – ў новае спатканне,
Напеў жалейкі – ў труб гучанне,
Выток жыцця – ў жыцця працяг.

*1961*

***

Парушыўшы законы прыцягнення,
Планетамі сярод другіх планет
Існуем мы з табой як выключэнне,
Мая любоў, – як свет і антысвет.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Ніколі мы адной не ходзім сцежкай,
Не дзелім хлеб і дзелім толькі соль,
Ты сустракаеш смутак мой усмешкай
І смуцішся, калі міне мой боль.

Адказваеш на мой сардэчны захад
Нязгодай, самай крыўднаю з нязгод.
Здаецца, павярніся я на захад,
Як тут жа ты павернешся на ўсход.

Аднак зямля б мая асірацела
І ўвесь сусвет ахутала б імгла,
Каб, выбухнуўшы раптам, адляцела
Ты ў невядомасць з хуткасцю святла.

*1962*

# ЯГО БЕСЯДЗЬ ЗАЎСЁДЫ ЧЫСТАЯ

Бесядзь… Вось я зноў напісаў дарагое мне слова і задумаўся. Задумаўся не толькі таму, што яно абудзіла ў маёй памяці мноства асацыяцый і родных сэрцу вобразаў. Не толькі таму, што “птушкі помняць гнёзды свае”, хоць гэта і святая праўда.

Я раптам адчуў, што ў маёй свядомасці даўно ўжо жывуць дзве Бесядзі: адна з іх – рака майго маленства, а другая – вось ужо колькі гадоў жыве ў нашай літаратуры. Прачытайце творы А.Куляшова, М.Сяднёва, І.Чыгрынава, А.Русецкага, В.Хомчанкі, П.Прыходзькі, Л.Д.Левановіча, і вы пераканаецеся ў гэтым. Але будзем паслядоўнымі…

Бесядзь, як сведчыць БелСЭ, – “рака, левы прыток Сажа (бас. Дняпра). Даўжыня 261 км. Пачынаецца ў Смаленскай вобласці, цячэ ў Магілёўскай, Бранскай і Гомельскай аблас-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



цях. Шырыня рэчышча ад 10—20 м у верхнім цячэнні да 30—40 м у ніжнім, на асобных участках да 100 м".

Не, так, відаць, у нас наўрад ці што атрымаецца — адсунем убок салідны том энцыклапедыі, бо яе сухая навуковая даведка гаворыць усё і ў той жа час — нічога. Прынамсі, у ёй няма ні слова пра самае істотнае: Бесядзь — адна з самых чысцейшых рэк у Беларусі. Далёкая ад прамысловых цэнтраў і густанаселеных гарадоў, яна захавала надзіва чыстую і празрыстую, аж да крынічнасці, ваду. Нават у летні спякотны дзень яна не губляе прыемную, трохі калючую, прахалоду. А цяпер ва ўсё гэта ўдыхніце жыццё, дайце ўволю святла і сонца, уявіце крутыя стромістыя берагі з карабельнымі соснамі і старымі, як свет, дубамі, з аднаго боку, і шырокімі паплавамі са шматлікімі старыцамі — з другога. Дадайце да гэтага гарэзлівых ластавак, што жывуць па-над самай вадой у пячорах абрывістых берагоў, не забудзьце руплівых пчол і басавітых чмялёў, якія непадалёк ладзяць свае гнёзды... Я не памятаю, каб прыбяседскія мужчыны, ідучы касіць, бралі з сабою збанкі з вадой — касцы пілі проста з рэчкі. Але затое я добра помню старога Гарашчонка, які, калі верыць мясцовым рыбакам (на Бесядзі ці не ўсе рыбакі), адпускаў злоўленых акунёў назад у ваду і пры гэтым скептычна моршчыўся: "Чысціць кепска..."

Прыблізна такой, толькі, відаць, больш паўнаводнай, а значыць і больш прыгожай, упершыню ўбачыў Бесядзь Аркадзь Куляшоў, якому рака абавязана сваім другім жыццём і сваёй шырокай вядомасцю: у 1940 годзе 26-гадовы паэт піша першы варыянт знакамітага верша "Мая Бесядзь". Памятаеце?

*Я ўпарты, не кіну пачатае справы,*
*Каменне крышу, разграбаю пяскі.*
*Пад кпіны аматараў лёгкае славы,*
*Капаю рэчышча ўласнай ракі.*
*З надзеяй гляджу на крыніцу*
*спатканную,*
*Хачу, каб яна разлілася ракой...*
*Не Волгай магутнай,*
*Не нават Камаю,*
*Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.*

У гэтых радках увесь Куляшоў! З яго няўрымслівым характарам, з яго вялікімі патэнцыяльнымі магчымасцямі. "Мая Бесядзь" — не проста эстэтычная праграма патрабавальнага да сябе паэта, сэрца якога "абпалена смагай радка", не проста жыццёвае крэда, але і вернасць сваім караням, сваёй зямлі. І разам з тым у будучага Майстра ўсё яшчэ наперадзе, ён з надзеяй глядзіць "на крыніцу спатканую". Заўважце, рака Бесядзь таксама пачынаецца з крыніцы... Магчыма, нехта іранічна ўсміхнецца: "Пашчасціла ж Бесядзі... На яе беразе нарадзіўся Куляшоў". Так, сапраўды пашчасціла! Але будзем справядлівымі — пашчасціла абодвум. І паэту, і рацэ. Уздзеянне прыроды на чалавека, на яго лёс, на фарміраванне яго як асобы, наогул цяжка пераацаніць — гэта

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



аксіёма. А калі чалавек яшчэ і паэт...

Пра тое, што Бесядзь, Прыбяседдзе значылі для Аркадзя Аляксандравіча, вельмі цёпла расказвала маці пісьменніка Кацярына Фамінічна Ратабыльская, незабыўную сустрэчу з якой падарыў мне лёс улетку 1981 года. Кацярыну Фамінічну я застаў жывой-здаровай у Хоцімску – маляўнічым гарадку па-над Бесяддзю – за спрадвечным сялянскім заняткам: 89-гадовая жанчына, былая настаўніца, жала ячмень у сваім клапатліва дагледжаным садзе. Помніцца, першае, што мільганула ў памяці: "Я маці абавязан кожнай рыскаю". Настолькі відавочным аказалася падабенства маці і сына. У нас на Магілёўшчыне ў такіх выпадках кажуць: як выкапаны. Уразіла і яшчэ адна акалічнасць – маці паэта жала залітую сонцам палоску. Я б не здзівіўся, каб не ведаў, што тэма жніва – адна са скразных тэм у лірыцы позняга Куляшова. Гэта і "Адзіны серп на сённяшнім жніве", і "Сноп апошні залатога жыта", і, вядома, вось гэтае, класічнае:

*І ёсць адказнасць перад строгім вершам,*
*Перад яго пачаткам і канцом,*
*Каб баразну радком пачуўшы першым,*
*У сноп звязаць шаснаццатым радком.*

– Сын вельмі любіў гэтыя мясціны, любіў тутэйшых людзей, іхнюю гаворку, – расказвала Кацярына Фамінічна, – заўсёды сюды імкнуўся. Тут яму добра думалася і лёгка пісалася. Падабалася на Бесядзі і Аркадзевым сябрам. Юлька і Змітрок часта ў нас гасцілі. Юлька дык той нават верш пра нашага Дуная склаў:

*Мой махнаты Дунай б'е хвастом*
*ля парога,*
*На прыганку завіўся пукаты гарох...*
*За парканам удаль пралягае дарога,*
*А за даллю ёсць многа прыгожых дарог.*

Юлька і Змітрок... Так па-свойму, па-мацярынску ласкава, называла яна мсціслаўскіх паэтаў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку, якія часта бывалі ў доме Куляшовых.

Усё помніць сэрца маці... І пра сына, і пра яго таварышаў яна гаварыла цёпла і спагадліва. Як пра жывых. Я слухаў яе зусім нестарэчы голас, і ў мяне міжволі нараджалася адчуванне іхняй прысутнасці: быццам яны толькі што былі тут.

Помніцца, у той вечар я з хваляваннем і новым разуменнем перачытаў куляшоўскі "Маналог", прысвечаны памяці любімых сяброў, рэпрэсаваных у чорныя трыццатыя... Я зразумеў, які неймаверны боль, якую незагойную рану насіў паэт у сваім сэрцы праз усё жыццё. Сёння, калі пра сталінскія рэпрэсіі мы даведаліся горкую і страшную праўду, "Маналог" успрымаецца яшчэ больш балюча, гучыць яшчэ больш трагічна:

*Адзін памёр ад тыфусу брушнога*
*За кратамі, сярод мурой сырых.*
*Без стужак, без вянкоў, без некралога,*
*З кляймом абвінавачвання цяжкога,*
*Згубіўся ён сярод магіл чужых.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Гэта – пра Юлія Таўбіна.

*Другі на фронт з таежнага барака*
*Шчаслівы ўцёк. За валам агнявым*
*Яго салдацкі штык вяла атака,*
*Там ён на смерць пад прозвішчам сваім*
*Хадзіў і пахаваны разам з ім.*

Гэта – пра Змітрака Астапенку.

*Хай згублены сляды іх захавання.*
*Не страчаны іх сувязі з зямлёй,*
*Яны для іх – не вечны супакой,*
*А месца пасмяротнага спаткання,*
*Прызначанага ў памяці маёй.*
*Пакуль жыву, яны жывуць са мной.*

А гэта пра іх і пра сябе.

Думаецца, няцяжка здагадацца, што кожны прыезд на малую радзіму быў для паэта шчымлівым спатканнем з маладосцю, а значыць, – і з імі.

...Па-ранейшаму, як і пры Куляшове, імкліва бяжыць празрыстая Бесядзь. Бяжыць праз лясы, праз лугі. Усё гэтак жа блішчаць-пераліваюцца на яе пясчаным дне адшліфаваныя вякамі каменьчыкі. Але касцы ўжо ніколі не будуць піць яе ваду, як пілі ў гады жыцця Куляшова. Чарнобыльская бяда закранула сваім страшным крылом і Бесядзь, а родныя сэрцу паэта Саматэвічы ўвайшлі ў радыяцыйную зону.

Не, невыпадкова хваляваўся і непакоіўся паэт, раздумваючы над шляхамі цывілізацыі, над заўтрашнім днём чалавецтва:

*Зноў прыпадае з жалем Бесядзь родная*
*Да каранёў дуброў, да ног сяліб –*
*Хвалюецца, што нечысць вадародная*
*Даверлівых яе атруціць рыб.*

І калі, вы думаеце, гэта напісана? У 1963 годзе! Тут ёсць над чым падумаць і ёсць чаму здзівіцца, і ўсё ж здзіўляцца, відаць, не варта – вялікі паэт заўсёды прарок!

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

# ЗОЛАТА ПАЭЗІІ І МЕДЗЯКІ РЫТОРЫКІ

Аркадзь Куляшоў быў надзелены выдатным мастакоўскім талентам, які выразна адчуваўся ўжо ў самых ранніх творах паэта. Ён заяўляў пра сябе неардынарнасцю мастацкіх дэталяў, за якімі праглядваўся жорсткі, бязлітасны да чалавечага лёсу час, напоўнены крутымі пераменамі, нечуванай раней індустрыяльна-тэхнічнай і сацыяльнай ломкай, якую на ўсе лады славіла савецкая літаратура. “Ён жыў невялічкаю кропляю соку // У целе цякучай жалезнай крыві...” Гэта сказана пра стары ржавы цвік, які атрымаў новае жыццё пасля пераплаўкі ў вялікай

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



домне (верш "Цвік"). "А мае ж вы татулечкі, // Схапіў маю палоску і панёс", – так галасіла вясковая цётка з верша "Першая стрэча з трактарыстам Анісам", рэагуючы на "рэвалюцыйны паход" магутнага трактара, што руйнаваў яе гаспадарку, а ў канчатковым выніку і ўвесь традыцыйны, некалі надзвычай устойлівы ўклад сялянскага жыцця.

Рамантычная мара летуценнага юнака пра выхад за зямныя межы, у сусвет, пра жывыя кантакты з яго магчымымі насельнікамі, мара, якая атрымала другое дыханне, стала вельмі актуальнай ужо ў канцы 50-х і ў 60-я гады, натхнёна паэтызавалася ў вершы "Астраном":

*Як толькі замаўкаюць за брамай гудкі*
*І ночка маўчыць за акном,*
*Я зноўку выходжу глядзець на блакіт,*
*На зоры далёкія зноў.*

*Ці можна таемнасць у іх разгадаць?*
*Яны за арбітай зямлі*
*Праз дальнія далі, праз сінюю гладзь*
*Плывуць, як плывуць караблі.*

*Плывуць у эфіры... Знікаюць міры*
*Праз мора далёкіх агней...*
*І там у каго-небудзь сэрца гарыць,*
*Як сэрца гарыць у мяне!*

Пазней паэт неаднаразова правіў гэты верш, напісаны ў 1929 годзе. Але і ў цытаваным тут раннім варыянце была і застаецца высокая паэзія, падмацаваная празорлівасцю аўтарскага погляду, яго скіраванасцю ў будучыню.

Ёсць немалыя паэтычныя здабыткі і ў ранніх куляшоўскіх паэмах, створаных у самым пачатку 30-х гадоў. Так, у паэме "Крыўда" (аўтарская датыроўка – 1930 – 1931) і сёння ўражвае адлюстраванне пакутаў ахвяр першай сусветнай вайны:

*Жыццё іх сумнейшае за лістапад, –*
*Бязногія, бязрукія, сляпыя,*
*Ляжалі яны ў лазарэтах і больніцах,*
*Кульгалі яны па дарогах знаёмых*
*І цела кіямі сваё падпіралі...*
*Ляжалі яны на шляхах і вылі пад*
*Ветрам, пад снегам,*
*пад дымам,*
*пад пылам.*

Цікавы твор і ў фармальна-выяўленчым плане. Звыклая для нашай паэзіі строфіка з таксама звыклай перакрыжаванай рыфмоўкай ("Дзесятаму дрэнна і сумна, // Усё сніць ён жніво і снапы, // І думае іншыя думы // Дзесяты іх сябра сляпы..."), тут раз-пораз саступае месца ўзорыста-складанай арганізацыі тэксту, пры якой цэментуючым фактарам выступаюць і анафарыстычныя нагнятанні паўтораў, і рыфмоўка аддаленых радкоў. Пры гэтым рыфма пераважае прыблізная. Але дзякуючы ёй істотна пашыраліся магчымасці вершаванай мовы. Вось адзін з характэрных у гэтых адносінах прыкладаў:

*... І чулі балоты прэсныя,*
*І чулі ўсе птахі лясоў,*
*І чулі азёры і долы,*
*На вёсках бабулі старыя,*
*І чулі ўсе травы дзікія*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*Салдацкую сумную песню,*
*Паходную песню шляхоў –*
*І песню салдацкае долі,*
*І песню салдацкае крыўды,*
*І песню салдацкай радзімы.*

Рыфмуючы *прэсныя – песню, лясоў – шляхоў, долы – долі, старыя – крыўды, дзікія – радзімы,* паэт выразна суадносіць, як бы накладваючы адну на другую, дзве часткі вялікай страфы, моцна звязваючы яе і праз канцавыя сугуччы, і праз пераклічку лексічных анафар, кожная з якіх надзейна трымае сваю частку страфічнай канструкцыі.

Арыгінальнасць Куляшова ў гэтых адносінах чула адзначалі даследчыкі яго творчасці Н.Перкін, Р.Бярозкін і В.Бечык, які ў сваёй вельмі змястоўнай, цікавай і сёння кнізе "Шлях да акіяна" (Мн., 1981) пісаў, маючы на ўвазе якраз "Крыўду": "Мастацкі лад твора, пры ўсіх агаворках пра асобныя пралікі і недакладнасці, вызначаецца выяўленчым багаццем, яркай вобразнасцю, смеласцю і самастойнасцю вобразнага мыслення. Вар'іруюцца спосабы і віды рыфмоўкі, выкарыстоўваюцца самыя розныя сугуччы: і надзвычай багатыя па агаласоўцы, і знарочыста бедныя, і аманімічныя... паэт чуе слова ў самых розных – "прыглушаных" і вельмі выразных перагуках".

Плённасць куляшоўскіх пошукаў у галіне вершаванай мовы, распачатых у паэме "Крыўда", пацвердзіла пазнейшае літаратурнае развіццё. Пра гэта асабліва пераканальна сведчыць творчасць такіх савецкіх паэтаў, як Андрэй Вазнясенскі, Эдуардас Межалайціс і наш Анатоль Вярцінскі. Яны ўжо ў 60-я і пазнейшыя гады з вялікім поспехам распрацоўвалі стылістыку асацыятыўна-лагізаванай паэзіі, якая шмат у чым трымаецца і на такіх, як у ранняга Куляшова, нагнятаннях паўтораў, і на гнуткай, як у яго, рытміцы віртуозна вар'іраванай фразы, і на нязвыклай для класічнай традыцыі вынаходлівасці рыфмы.

Яшчэ больш смела, чым у "Крыўдзе", эксперыментаваў Куляшоў у паэме "Аманал" (1931–1932). Вядома, у праблемна-сэнсавым плане тут было шмат таго, што належыць толькі свайму часу і *ніяк не можа хваляваць цяпер.* Ды што цяпер! Крытыкуючы сюжэтныя нагрувашчванні ў "Аманале", Р.Бярозкін, які быў выдатным даследчыкам паэзіі ўвогуле і куляшоўскай творчасці ў асаблівасці, яшчэ ў 50-я гады зазначыў: "Усё гэта да такой ступені надумана і наіўна, што ў нас, сённяшніх чытачоў "Аманала", натуральна ўзнікае пытанне: няўжо Куляшоў сур'ёзна пісаў гэтую рэч?" І сам жа крытык падкрэсліваў, што сур'ёзнасць у Куляшова была.

Паэт сапраўды на поўным сур'ёзе выкрываў шкодніцтва, якое многім тады мроілася ўсюды і ва ўсім. Таму і куляшоўскі бухгалтар Жыгнер імкнецца шкодніцтвам падарваць калгасную моц. Праўда, ён робіць гэта вельмі своеасабліва, прапагандуючы, напрыклад, замест трактара электрычныя

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



плугі, хоць пэўныя надзеі на іх ускладаў і сам Ленін, які, вядома ж, не збіраўся дыскрэдытаваць сацыялізм. Ён жа, той дзівакаваты бухгалтар, патрабуе ад дачкі, каб яна знарок выклікала ў свайго мужа, старшыні калгаса, рэўнасць, маўляў, гэта будзе выбіваць яго з каляіны і тым самым, зноў жа, шкодзіць калгаснай справе.

Заходзіць у паэме гаворка і пра злачынныя дыверсіі. Адна з іх рыхтуецца ажно на шахце ў Данбасе, хоць галоўныя падзеі разгортваюцца ў Беларусі, яўна на радзіме паэта. Але тая дыверсія вялікага эфекту не дае, бо адважны камсамолец (зноў жа, з Магілёўшчыны) Калужны выпадкова чуе, як рабочыя-шкоднікі ў вагоне цягніка адкрыта дамаўляюцца здзейсніць злачынства. Зразумела, ён своечасова трапляе на шахту і дапамагае знайсці пад вадзянымі пластамі падрыхтаваны да выбуху аманал. Гэты вынесены ў загаловак твора *аманал* і ёсць сімвал шкодніцтва, якое нібыта ўяўляла галоўную небяспеку для бальшавіцкай дзяржавы.

У дасведчанага чалавека гэта можа выклікаць сёння хіба што ўсмешку, вядома, сумную. А тагачаснай афіцыёзнай літаратуры, у рэчышчы якой працаваў і Куляшоў, было не да смеху. Яна, паўтару, усур'ёз нагнятала жахі. Вымушаны былі гэтак рабіць і вельмі таленавітыя людзі, у звычайным жыцці зусім памяркоўныя і па-чалавечы спагадлівыя. Той жа Уладзімір Хадыка, які сам хутка стаў ахвярай дзікіх рэпрэсій, у вершы "Паходным спевам" (1931) кляйміў "здраднікаў вучоных, цывілізаваных бандытаў", хоць на самой справе з такім ярлыком гінулі лепшыя сыны Беларусі, сапраўдныя інтэлігенты. Ён жа, далікатны Хадыка, спрабуючы ўратавацца, выкрываў хутаранцаў, вінаватых перад савецкай уладай толькі за тое, што яны хацелі прыстойна жыць і, як правіла, умелі працаваць:

*Аж гудзяць прыклады,*
*І сабакі спушчаны...*
*Хутар таўстазады*
*Абвалокся пушчамі.*
*І павіс над краем*
*Барадой-рагожаю –*
*Старадаўнім баем,*
*Мордаю варожаю.*

**(Верш "З дарогі", пазначаны дзвюма датамі – 1931, 1935).**

Нават баяў знайшоў у Беларусі паэт, хоць не мог не ведаць, што ў нас іх ніколі не было...

Ды і сам Янка Купала, які тады ўжо на ўласным вопыце спазнаў, з якою лёгкасцю ўзводзіліся ў нас хлуслівыя абвінавачванні, напісаў у 1937 годзе: "Мала іх павесіць // На сухой асіне, // Бо нават асіна // Ад сябе адкіне". Гэта самы пачатак доўгага верша "Мала іх павесіць...", напісанага як водгук, вядома, вымушаны, на працэс над людзьмі, якіх знішчалі па палітычных матывах іхнія былыя паплечнікі па руйнаванні "старога свету".

Жахлівы час! Жахлівыя па-



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



радкі! Яны вымушалі шчыраваць і Куляшова ў распісванні нібыта ўсюдыіснага шкодніцтва. Але ж было ў "Аманале" не толькі гэта. Уласна мастацкія, жанравыя і стылёва-выяўленчыя, пошукі, якімі тут заняўся паэт, аказаліся ў канчатковым выніку вельмі перспектыўнымі і з цягам часу далі багаты плён. Нездарма ж Якуб Колас хоць і моцна крытыкаваў паэму за мастакоўскія пралікі, але ўсё ж зрабіў вывад: "Куляшоў у паэме "Аманал" ідзе нейкім новым, сваім шляхам, шукае новых сродкаў для рэалізацыі сваіх творчых замыслаў. Ён стараецца адысці ад тых прыёмаў і сродкаў літаратурнага арсенала, якія сталіся ўжо звычайнымі, трафарэтнымі. Ён хоча ўнесці ў мастацкую літаратуру нешта сваё, арыгінальнае. Няхай яго намеры не поўнасцю ўдаліся, але важна ўжо тое, што Куляшоў сур'ёзна становіцца да пытанняў творчасці, стараецца ўнікаць літаратурных шаблонаў".

Нязвыкласць у мастацкай структуры "Аманала" сапраўды кідаецца ў вочы. Само жанравае вызначэнне *аповесць*, якое меў "Аманал" у першых публікацыях, улічвала і падкрэслівала моцную празаізаванасць твора, якая праяўлялася не толькі ў многіх пластах ягонай стылістыкі, але і ў шматпланавай разгалінаванасці сюжэтнага дзеяння, уласцівай звычайна вялікай празаічнай форме і ўсё больш рэдкай у тыповай сучаснай паэме. А побач з гэтай празаізаванай прыземленасцю ўжываліся сімвалічнасць і алегарычная шматзначнасць, якія Якуб Колас не без падстаў звязваў з мастакоўскім вопытам Леаніда Андрэева і Марыса Метэрлінка.

Але суседствам алегарычных і яўна сімвалічных вобразаў з вобразамі рэалістычна-канкрэтнымі і відавочна празаізаванымі не вычэрпваецца арыгінальнасць твора. Яе дапаўняе наяўнасць у "Аманале" элементаў кінасцэнарыя і драматычнай паэмы. Паэт выкарыстоўваў такія прыёмы, характэрныя для сцэнічных твораў, як дыялог, аўтарскія рэмаркі ў дыялагізаваным тэксце, якія акрэсліваюць месца і ўмовы дзеяння, даваў спісы дзейных асоб з іх кароткай характарыстыкай, як гэта прынята ў п'есах. Прычым і аўтарскія рэмаркі, і характарыстыкі дзейных асоб даюцца то ў празаічнай, то ў вершаванай форме.

Агульную даволі стракатую і груваскую структуру "Аманала" ўскладнялі і вершаваныя зноскі, якія да Куляшова спрабаваў прымяняць Дубоўка ў цыкле "Крыху восені і жменька кляновых лістоў" і ў паэме "Штурмуйце будучыні аванпосты!".

Абодва творы датуюцца 1929 годам. Хоць паэма была надрукавана толькі ў 60-я гады, у літаратурным асяроддзі яе добра ведалі і раней, адразу пасля напісання. Магчыма, што Куляшоў сваімі вершаванымі зноскамі імкнуўся парадыраваць ужо рэпрэсіраванага Дубоўку. Да гэтай думкі схіляе і тая акалічнасць, што куляшоўскі бухгалтар Жыгнер аб'яўляе сябе яшчэ і чалавекам мастацтва, яко-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



га “апанавалі лірычныя кругі”. Відаць, гэта таксама быў парадыйны намёк, цяпер на Дубоўкаву паэму “Кругі”, якая тады, калі пісаўся “Аманал”, афіцыйна лічылася шкодным творам, варожым савецкай уладзе. Таму бухгалтар-шкоднік і выходзіў на гэтыя загадкавыя па-за літаратурным кантэкстам часу *кругі,* быў апанаваны імі.

Як вядома, “Кругі” – паэма пераважна лірычная па сваім характары (адсюль менавіта лірычныя кругі і ў Жыгнера). Яна распачынае паэтычную трылогію Дубоўкі, у якую ўваходзяць таксама паэмы “І пурпуровых ветразей узвівы” і “Штурмуйце будучыні аванпосты!”. Гэтая трылогія ў розныя часы шмат крытыкавалася за многае, у тым ліку за празмерную складанасць мастацкай формы. А між тым Дубоўка не толькі заклікаў іншых штурмаваць аванпосты будучыні, але і сам глядзеў у яе. Ён інтуітыўна адчуваў патрэбу літаратурных жанраў ва ўскладненні мастацкай структуры. Куляшоў жа ў сваім “Аманале”, незалежна ад таго, ці сапраўды ён (па матывах ідэалагічных) спрабаваў парадыраваць свайго папярэдніка, фактычна прадоўжыў тыя пошукі ў фармальным кірунку, якія распачынаў Дубоўка. Зноў спрацоўвала мастакоўская інтуіцыя, чуццё ўжо маладзейшага паэта, якое, як і Дубоўку, штурхала яго на шлях эксперыменту.

Эксперыменты абодвух паэтаў не былі пустой забаўкай. Яны, паўтару, мелі скіраванасць і ў будучыню. Гэта засведчыў час, паказалі такія творы ўжо 80-х гадоў, як “Ягадны Хутар”, “Прызнанне вачамі” і “Зорная паэма” Яўгеніі Янішчыц або “Фуку!” Яўгена Еўтушэнкі. З Дубоўкавай паэтычнай трылогіяй і куляшоўскім “Аманалам” іх збліжае падкрэсленая ўскладнёнасць мастацкай структуры або наяўнасць розных, знарок вылучаных, выяўленчых пластоў. Так, у вельмі маштабнай паэме Еўтушэнкі, у якой аўтарская думка “чапляецца” за вельмі многія падзеі і нават сягае з кантынента на кантынент, жанравую структуру вызначае складаная мазаіка з вершаў і прозы, прычым празаічны тэкст нярэдка выглядае нават мацнейшым за тэкст вершаваны. Выразна вылучаны розныя выяўленчыя пласты і ў паэмах Янішчыц. Ёсць у іх і празаічныя ўстаўкі або напісаныя вершам кавалкі, яўна стылізаваныя пад прозу. Яны ў такіх выпадках і падаюцца як проза, без вылучэння вершаваных радкоў.

Самога ж Куляшова ягоныя эксперыменты ў галіне мастацкай формы, асабліва рашучыя ў “Аманале”, аднак жа характэрныя і для іншых ранніх твораў, выводзілі з цягам часу і на лірыку ваенных гадоў, і на “Сцяг брыгады”, і на “Новую кнігу”, і на драматычную паэму “Хамуціус”, і на іншыя вяршынныя дасягненні паэта, якія станавіліся прыкметнымі вехамі беларускай, а часта і ўсёй савецкай паэзіі.

Цалкам меў рацыю Міхаіл Луконін, калі, разважаючы пра ары-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



гінальнасць "Сцяга брыгады", зазаначаў: "Многія паэты адкідвалі свае даваенныя назапашванні майстэрства, удачы пошукаў, адмаўляліся ад сваіх асаблівасцяў дзеля праматы і прастаты.

І вось паявілася паэма, складаная, вялікая, прыгожая, з цудоўным, уласцівым толькі Куляшову рытмам, цалкам завершаная і адшліфаваная. Дыхнула паэзіяй з кожнага радка... Уся паэма пранізана чыстым промнем невычарпальнай любві да беларускай зямлі". І гэтае высакароднае, шчымліва-кранальнае ў сваёй непадробнасці пачуццё дазволіў захаваць у ягонай першароднасці гнуткі куляшоўскі верш, які забяспечыў, па словах Луконіна, "прастату і натуральнасць размоўных інтанацый" у творы, рытмічную свабоду і ёмістасць яго паэтычнага радка, здольнага ўмясціць вельмі многае.

Такая ёмістасць, сапраўды, выпрацоўвалася гадамі ўпартай працы, шматлікімі эксперыментамі, у тым ліку і рызыкоўнымі, як кажуць у спорце – на грані фолу. Куляшоў падыходзіў да гэтай грані і балансіраваў на ёй у сваіх творах даваеннай пары неаднойчы. Але яго ў канчатковым выніку ўратавала аглядка на вопыт літаратурнай класікі – "Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пушкіна і Някрасава" (пералік куляшоўскі, таму і падаецца ў двукоссі). А яшчэ – на здабыткі нашай народнай паэзіі, на меладычнасць беларускага фальклору. Гэтая аглядка прыкметная ў многіх вершах другой паловы 30-х гадоў, у тым жа славутым цыкле "Юнацкі свет", і асабліва ў паэме "У зялёнай дуброве", творы па змесце прыгладжана-ідылічным, яўна лакіровачным, але вельмі важным для выпрацоўкі той паэтычнай формы, у якой размоўная свабода і гнуткасць верша спалучаюцца з добрай меладычнасцю і песеннай у сваёй аснове шматгалосасцю, хораша праяўленых і ў "Сцягу брыгады".

Сапраўдны гімн рытмічнай арыгінальнасці паэмы праспяваў ужо ў 60-я гады Пятрусь Макаль, які ў прадмове да чатырохтомнага Збору твораў паэта напісаў: "Яе трапяткі раскалыханы рытм не ўкладваецца ў традыцыйныя класічныя вершаваныя памеры, выплёскваючыся з іх берагоў, дактылічная ўрачыстасць радка нечакана змяняецца энергічнай пругкасцю анапеста, фраза доўгая мнагастопная чаргуецца з аднастопнай, кароткай, як стрэл... Прычым гэтая рытмічная стыхія настолькі арганічная, што нельга нават і ўявіць па-за ёю разгарнення дзеяння твора, праўдзівага паказу грымотнай хады яго падзей".

Зрэшты, "Сцяг брыгады" здзіўляў і радаваў многіх пісьменнікаў. Пра яго захоплена выказваліся Іосіф Уткін і Міхаіл Ісакоўскі, які вельмі аператыўна пераклаў паэму на рускую мову, Міхаіл Дудзін і Канстанцін Сіманаў, Кайсын Куліеў і Радаван Зогавіч – чарнагорскі паэт, які ў гады другой сусветнай вайны быў югаслаўскім партызанам і ў барацьбе з нямецкім фашызмам натхняўся ку-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ляшоўскай паэмай, чытаў яе ў рускім перакладзе таварышам па зброі.

Знамянальна і тое, што сярод самых першых і самых гарачых прыхільнікаў “Сцяга брыгады” быў Аляксандр Твардоўскі, сяброўствам з якім вельмі ганарыўся наш паэт. Яно адыграла выключную ролю ў мастакоўскім станаўленні Куляшова і ягоным далейшым творчым росце. У спецыяльным грунтоўным артыкуле пра “Сцяг брыгады” Твардоўскі назваў твор “народнай паэмай”. Пахвала найвышэйшая. І яна асабліва важкая, бо зыходзіла ад выдатнага мастака, які славіўся сваёй патрабавальнасцю ў дачыненні да літаратуры.

Трывалай была ў нас традыцыя ставіць “Сцяг брыгады” побач з “Васілём Цёркіным” Твардоўскага, вылучаючы гэтыя два творы як самыя значныя дасягненні савецкага паэтычнага эпасу ваенных гадоў. Думаецца, што і сёння няма падстаў адмаўляцца ад гэтай традыцыі, хоць ужо раздаюцца і крытычныя галасы, нараканні на жорсткасць герояў паэмы Заруднага і Алеся Рыбкі, маўляў, яны чыняць самасуд над Мікітам Ворчыкам, усё злачынства якога было толькі ў тым, што ён спрабаваў уцячы ад вайны. А вунь у Хемінгуэя ў рамане “Бывай, зброя!” героі таксама ўцякаюць ад вайны, няхай сабе і іншай, але аўтар, у адрозненне ад Куляшова, іх не судзіць, а наадварот, спачувае ім. Ды і ў раманным цыкле Івана Чыгрынава ягоны Чубар шмат пакутуе ад таго, што ў ваеннай сумяціцы 1941 года застрэліў аднаго такога ўцекача, праўда, па сутнасці псіхічна хворага, бо той “быў у стане моцнай душэўнай дэпрэсіі”. А ў Куляшова ні Зарудны, ні Рыбка і не думаюць каяцца...

Але ў гэтых акалічнасцях (іншая вайна ў герояў амерыканскага пісьменніка і псіхічная дэпрэсія ў чыгрынаўскага персанажа) уся справа. А што да Заруднага і Рыбкі, дык яны і сапраўды жорстка, вышэйшай мерай, караюць Ворчыка. Але гэтую жорсткасць прадыктаваў той час, калі пісалася паэма і адбываліся адлюстраваныя ў ёй падзеі. Ён ад кожнага чалавека, здольнага трымаць зброю, патрабаваў выкладвацца да канца, цаной і ўласнага жыцця бараніць краіну ад нямецкага фашызму, які тады стаў галоўнай небяспекай для чалавецтва. Гэты час, яго дух, сама яго атмасфера, яго трагедыйная афарбоўка ўзноўлены ў “Сцягу брыгады” з вялікай мастацкай сілай, якая і забяспечыла суровую і горкую праўдзівасць твора. І таму паэма, думаецца, заўсёды будзе хваляваць чулыя людскія сэрцы.

Праўда, у паэме ўсё ж ёсць, як мне ўяўляецца, асобныя недакладныя дэталі, звязаныя з акупацыйным жыццём, якое паэт не мог ведаць ва ўсіх падрабязнасцях тады, калі пісаў свой твор. Вось у паказе Куляшова былы “вораг народа” Мядзведскі, як вялікай удачай, пахваляецца тым, што акупанты зрабілі яго сельскім старастам. “Салаўкі мяне вывелі ў людзі”, – гучна

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



паўтарае ён, прызнаючыся, што нібыта і сапраўды шкодзіў калгасу – падпаліў у свой час птушкаводчую ферму. Але, як ужо гаварылася, так званае шкодніцтва ў нас страшэнна перабольшвалася, звычайна яно выдумлялася, знарок прыпісвалася незгаворлівым, каб нейтралізаваць тых, хто ўпарта не хацеў ісці ў калгас, або абвяшчалася з мэтай апраўдання розных гаспадарчых непаладкаў, што тлумачыліся больш проста – няўменнем весці справу. Сапраўдныя ж злачынцы менш за ўсё крычаць пра свае злачынствы, тым больш такія, як знішчэнне *агульнага* дабра. Ды і пасада старасты пры акупантах, якіх людзі ўспрымалі як чужынцаў-дачаснікаў, не давала асаблівых падстаў для радасці, а, наадварот, таіла ў сабе сур'ёзную небяспеку. Таму, напрыклад, у нашай мясцовасці пацярпелыя ад бальшавікоў не рваліся на службу да немцаў. Да акупантаў часцей ішлі колішнія савецкія актывісты, якія імкнуліся дагадзіць і новай уладзе, каб яна не карала іх за ранейшае шчыраванне.

І яшчэ адна недакладнасць. Мядзведскі ў паэме прымушае маладую дзяўчыну ісці за яго замуж "пад смяротнай пагрозай" даносу, што яе брат-камуніст "б'ецца з ворагам... у чырвоным войску". Такая пагроза на самой справе не магла напалохаць, бо акупанты пры ўсёй іхняй лёгкасці на расправу, асабліва жорсткую ў дачыненні да сем'яў партызан і падпольшчыкаў, не помсцілі тым, у каго сваякі, няхай і члены партыі, ваявалі на фронце. Помста сем'ям франтавікоў закранула б амаль усё насельніцтва акупаваных тэрыторый, а адразу настройваць яго супраць сябе ў разлікі заваёўнікаў пакуль не ўваходзіла – самую крутую разборку з беларусамі яны адкладвалі надалей.

Сапраўднай трагедыяй, прывід якой мог зламаць волю многіх, была адпраўка на катаржную працу ў Нямеччыну. І гэтую трагедыю выдатна адлюстраваў Куляшоў, але не ў "Сцягу брыгады", а ў "Лісце з палону", дзе магутна прагучаў адчайны плач беларускай дзяўчыны, якую напаткала страшная доля:

*Я рабыня, рабыня,*
*Я чорная, чорная, чорная,*
*Любы мой, не з табой,*
*А з праклятай бядой*
*Заручоная...*

Здаецца, што сам верш з яго падкрэсленай алітэрацыяй на "р", "б" і "ч" рыдае невыносна горкім рыданнем, несуцешным, як на хаўтурах, галашэннем.

Горы паперы спісалі нашы пісьменнікі, праслаўляючы пасляваенны дабрабыт тады, калі ім яшчэ і не пахла. Куляшоў на гэты конт грашыў мала і, як правіла, паспяхова пазбягаў лабавой дэкларатыўнасці нават у творах вельмі мажорнай, падкрэслена аптымістычнай танальнасці. Адзін з такіх твораў – выдатны верш "Колас" (1946), эпіграфам да якога ўзяты танкаўскі радок "Коласу – вырасціць жменю зярнят". Пра тое, як пра-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



цавіты колас ажыццяўляе гэтую пастаўленую перад ім прыродай і пасляваеннай разрухай місію, Куляшоў сказаў з зайздросным майстэрствам, у аснове якога ляжыць глыбокае асэнсаванне па сутнасці асацыятыўнай мастацкай дэталі: мокры ад ранішняй расы колас успрымаецца паэтам менавіта як працаўнік, "мокры ўвесь ад поту":

*Ён ловіць сонечны прамень,*
*Нябеснай рад вадзе ён,*
*Так напрацуецца за дзень,*
*Што ночку ўсю пацее.*
*Ні днём, ні ноччу ад турбот*
*Спакою ён не мае.*
*А раніцою з твару пот*
*Ён сонцам выцірае.*

Канцоўка проста бліскучая. А сонцу з апошняга радка ўвогуле няма цаны, бо за ім паўстае ўжо касмічны размах жэста.

Між іншым, ключавы вобраз, на якім трымаецца куляшоўскі верш (колас, *спацелы ад працы*), атрымаў у нашай літаратуры цэлы шэраг, можа, і міжвольных варыяцый. "Выступіць, як пот, з яе смала", – гэта са славутага верша Міколы Аўрамчыка "Беларуская сасна" (1947), у якім наша лясная зямлячка таксама пацее ад працоўнага напружання – яна выконвае вялікую работу ў данецкай шахце, трымаючы тысячагадовыя пласты грунту "на паўкіламетра таўшчынёй". У Броўкавым вершы "Замалёўка" (1960) ужо "рачулка ў чаратах" "так напрацуецца да поту, што ўранку ажно пар над ёй". "Цёплае ў вільготнай імгле, нібы спацела", і калоссе пшаніцы ў Брылёвай "Галі" (1953).

На працягу ўсёй сваёй творчасці, пачынаючы ад ранняга верша "Бывай", цяпер добра вядомага як песня "Алеся", і канчаючы паэмай "Далёка да акіяна", Куляшоў пісаў пра нешчаслівае каханне, здабываючы і ў такім паварoце вечнай тэмы высокую паэзію. Але ёсць у яго і верш "Вяселле". Ён, зноў жа, здзіўляе магутным размахам вобразнасці. Тут і само вяселле, што "вясёла кацілася па зямлі, покуль воку відно", і ветракі, якія спынялі кругаварот сваіх крылаў, каб не напрарочыць закаханым кручанае жыццё, і вецер, які сціхаў, каб "разам з жытнёвымі хвалямі" паглядзець на шчаслівую пару.

*Нат на момант зямля прыпынілася*
*І на ўласнай застыла асі,*
*Каб запомніць: і як вам любілася,*
*І як лёгка вас коні вязлі.*
*Ўсё найлепшыя фарбы знаходзіла,*
*Перайначвалася на вачах.*
*Як раней толькі сонца ўзыходзіла,*
*Асвятляючы промнямі шлях.*

Гэта яшчэ 1946 год, а ўжо космас надзейна "ўвязаны" з чалавекам, зацікаўлена падключаны да ягонага лёсу. У такіх вершах ужо праклёўвалася куляшоўская "Новая кніга", што стала падзеяй у літаратуры 60-х гадоў, хоць і не атрымала тагачаснай вышэйшай дзяржаўнай узнагароды, якой безумоўна заслугоўвала. Гэтая кніга ўражвала тады, уражвае і цяпер сваёй філасофскай глыбінёй і дас-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



каналасцю вершаванай мовы, дзе строгая дысцыпліна мускулістага, нібы выкутага, паэтычнага радка, яго ўзважаная лаканічнасць і часта афарыстычнасць спалучаюцца з той жа маштабнасцю жэста, самой вобразнасці, за якою паўстае маштабнасць думкі і пачуцця. Вось які роздум абуджае ў паэта зязюліна кукаванне, што па законах фізікі павінна было б даўно знікнуць з хуткасцю гуку, а яно вяртаецца ў памяці праз шмат гадоў:

*Зайшоўшы ў векавыя нетры,*
*Стаю, зачараваны ім,*
*На паўмільярдным кіламетры*
*Паміж наступным і былым.*

*Пакліч – былое адкугнецца*
*Жалейкаю за хваіной,*
*Скранiся – i важкой хадой*
*Наступнае ў паход кранецца.*

*Пяройдзе шлях у новы шлях,*
*Расстанне – ў новае спатканне,*
*Напеў жалейкі – ў труб гучанне,*
*Выток жыцця – ў жыцця працяг.*

Можна сказаць, што думка пра сувязь мінулага, сучаснага і будучага, вытокаў жыцця і яго працягу – гэта чыстая філасофія. Але з якой мастацкай энергіяй, з якой паэтычнай сілай яна выказана! А паўмільярдны кіламетр паміж наступным і былым... Гэта ж зноў яўна касмічны размах! Тая ж размашыстасць відавочная і ў наступных туга спрасаваных радках з верша “Завея лісцяў у сняжынак пух”: “Хацеў бы век, які ўжо на зыходзе, // Забраць мяне з сабой, а я руку // Працягваю прыродзе – // З дваццатага ў трыццатае стагоддзе”. Такая размашыстасць раней пракідалася хіба што ў асобных купалаўскіх вершах з касмічнымі матывамі, у жартоўных панчанкаўскіх пасажах з “Іранскага дзённіка” ды ў Максіма Танка, які ў вершы “Зорным шляхам” (1957) таксама не без скрытай усмешкі выказваў жаданне “зачарпнуць сямізорным палоннікам на дарогу з Байкала вады”, маючы на ўвазе, вядома ж, коўш Вялікай Мядзведзіцы.

Глыбокі сэнс і вялікая маштабнасць думкі ёсць і ў адчуванні Куляшова, што за ім – “вякоў калыска”, “пяць стагоддзяў – самае малое”, а па сутнасці ўся гісторыя чалавецтва. Нездарма ж і звычайны чалавек бачыўся яму глабальна, як касмічны цэнтр, што “неба і зямлю ў сабе змяшчае і ў свет адзін злучае іх навек” (вершы “Сышлося неба з акіянам блізка”, “Мне кожны год, нібы жыццём другім”, “Нябёсы – акіян, я знаў даўно”).

Гэта ўсё аспекты філасофскія. Аднак вельмі істотным у “Новай кнізе” для Куляшова, раней песняра пераважна гераічнай тэмы, было прызнанне, што ў звычайным жыцці, “у імклівым карагодзе гадоў” чалавек бывае не толькі пераможцам, “зернем на таку”, але і пераможаным, “пылам” і “трухой”, што яго “яшчэ не хутка шторм дзесяцібальны... насіць пакіне на зямлі”.

Адкрыта і шчыра, з ёмістай метафарычнасцю гаварыў паэт і пра

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



свае ўласныя памылкі, пралікі, расчараванні:

*Лясы б маіх блуканняў высеч,*
*Распяцца б на крыжы хвзін*
*За сотні дзён, за сотні тысяч*
*На вецер пушчаных хвілін.*

Гэта з верша “Перад падарожжам” (1961), дзе згадваюцца і “шуканні вернасці ў няверных, святой любові ў несвятых”. Што тут мелася на ўвазе? Раскайванне, што быў афіцыйным ці, як яшчэ кажуць, ангажаваным паэтам, славіў камунізм, Леніна? Ні ў якім разе! “Камуністы” – для яго вельмі ганаровае слова. І ён ці не адзіны з нашых паэтаў назваў ім некалькі сваіх паэтычных кніг, выдадзеных па-беларуску і ў рускім перакладзе. А тыя ж вершы “Жывы Ленін” (1949) ці “Камуністы” (1948), што перадрукоўваліся на розных мовах безліч разоў і служылі як бы візітнай карткай паэта, трэба прызнаць, напісаны моцна, сагрэты душэўным хваляваннем і шчырасцю веры, якая нараджае высокае натхненне.

Падманутыя масіраванай хлуслівай прапагандай, многія нашы людзі доўга верылі (ды далёка не адзінкі яшчэ вераць і цяпер) у камуністычную утопію, у высакароднасць Леніна, яго ўяўны гуманізм і чалавечую прыстойнасць. Пісьменнікі тут таксама не складалі выключэння. Нават яршыста-апазіцыйны ў глыбінным сэнсе сваёй творчасці, зусім не схільны да прыстасавальніцтва Уладзімір Караткевіч, творы якога набываюць усё большую папулярнасць, напісаў у 1960 годзе сентыментальны верш “Ленін калыша дзіця”, а годам раней – і рамантызавана-сусальнае апавяданне “Аліва і меч”, чамусьці не дапушчанае тады ў друк. У гэтым апавяданні славіцца дзяжурная ў савецкай літаратуры і мастацтве ленінская “дзіцячая ўсмешка”, “якой усміхаюцца толькі вельмі чыстыя і добрыя людзі”. Сёння аж не верыцца, што і ў Караткевіча Ленін паказваецца як вялікі прыхільнік культуры, клапатлівец пра таленавітых людзей і вышэйшую справядлівасць. “Лад, які знішчае таленты, душыць іх – такі лад не павінен жыць”; “Мы нікому нікога не дазволім крыўдзіць”, – заяўляе ў пісьменніка правадыр бальшавікоў, які ў рэальным жыцці, як цяпер стала добра вядома, здзекаваўся з інтэлігенцыі, сцвярджаў, што яна не мозг, а гаўно нацыі, сотнямі за адным заходам выганяў з краіны яе сапраўдных інтэлектуалаў, лічыў, што адукацыя простым людзям патрэбна “толькі для таго, каб кожны селянін, кожны рабочы мог самастойна, без чужой дапамогі чытаць нашы дэкрэты, загады, адозвы”. Мастацтва ён таксама разглядаў толькі як сродак палітычнай прапаганды, а галоўнае – стаў заснавальнікам таталітарнай дзяржавы, што знішчыла дзесяткі мільёнаў сваіх грамадзян, невінаватасць якіх мусіла з цягам часу прызнаць сама. І тое знішчэнне пачалося яшчэ пры Леніне, з яго адабрэння і па ягоным загадзе, хаця пры ім яшчэ не рас-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



стрэльвалі пісьменнікаў пачкамі, як гэта рабілася ўжо ў сталінскія часы, калі за адзін дзень 29 кастрычніка 1937 года расстралялі ажно дзевяць таленавітых майстроў беларускага слова ў самым творчым узросце (тады загінулі Анатоль Вольны, Платон Галавач, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот) і яшчэ шэсць пісьменнікаў яўрэйскіх, якія працавалі і на беларускую культуру (Ізі Харык, Зяма Півавараў, Майсей Кульбак, Арон Юдэльсон, Якаў Бранштэйн і Хацкель Дунец). Назаўтра, 30 кастрычніка таго ж года, склалі свае галовы пад кулямі чэкістаў Тодар Кляшторны, Янка Нёманскі і сябра Куляшова Юлі Таўбін.

Дык што, пішучы пра міфічную ленінскую дабрыню, фарысействаваў і Караткевіч? Вядома, не. Але падманутым быў і ён, як і ўсе мы, хто шчыра маліўся на Леніна, супрацьстаўляючы яго (па адпаведнай афіцыйнай падказцы!) Сталіну. Хоць той, як ён і сам сцвярджаў, працягваў ленінскую справу, толькі рабіў гэта яшчэ больш жорстка і бязлітасна-крывава, вынішчаючы і інтэлігенцыю, і сялянства, і вайскоўцаў, і сваіх паплечнікаў, ад якіх з маніякальнай падазронасцю чакаў небяспекі.

Аркадзь Куляшоў, як паказвае яго творчасць, таксама верыў у ленінскую чалавечнасць да канца сваіх дзён. Ужо ў 50-я гады, пасля афіцыйнага выкрыцця сталінскага культу, ён у вершы "Народжаны ў век наш гразовы" з той жа "Новай кнігі" напісаў: "Нікім не заменен, не заменен, // Навек занядбаўшы спакой, // Нязменна ўзначальвае Ленін // Нязменны прэзідыум мой". Думка напорыста падкрэсліваецца паўторам ключавых слоў. Але паэт тут не зусім дакладны, бо былі часы, калі ён пакланяўся не столькі Леніну, колькі Сталіну. Вось радкі з паэмы "Новае рэчышча", твора, як і "Сцяг брыгады", адзначанага Сталінскай прэміяй, толькі ўжо не першай, а другой ступені, але далёка не выдатнага. Больш таго, у Куляшова ён адзін з самых слабых і кан'юнктурных. З ухвалой апісваецца карціна мастака. "Сталін, Ленін глядзелі, // На нас з палатна. // Сталін быццам на працу // Паказваў рукой, // Быццам Леніну Сталін // Расказваў аб ёй, // Быццам шлях ён рукою // Паказваў святлу, // Каб ішло на сяло, // Каб свяціла яму. // Ён загадваў, і неслі // Святло правады, // Горад з вёскай // Злучаючы назаўжды. // Вось якую карціну // Прынёс нам мастак. // Мы глядзелі і зналі, // Што ўсё гэта так". Гэта паэт пісаў у 1948 годзе, не бянтэжачыся, што ў ягоным паказе без сталінскага загаду і электрасвятло не магло знайсці сваёй дарогі ў праводной сетцы. Атрымалася зусім як у парадыйнай рэпрызе А.Райкіна: "Партыя вучыць, што газы пры награванні расшыраюцца".

У вельмі цікавай, у многім унікальнай кнізе пра бацьку "Лясно-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



му рэху праўду раскажу...” (Мн., 1989) Валянціна Куляшова прыгадвае, што ў 1949 годзе беларускім паэтам было загадана (“даручана”, далікатна кажа аўтарка) “напісаць паэму на зададзеную тэму... пераможцам стаў Куляшоў, які выканаў заданне за апошнія некалькі дзён тэрміну. Плён яго працы быў надрукаваны ў снежаньскім нумары “Нового мира” за 1949 год”.

Валянціна Аркадзьеўна, здаецца, з прыемнасцю ўспамінае пра тую бацькаву перамогу, але назвы твора не дае. І не выпадкова, бо гутарка ідзе пра паэму-араторыю “Слова аб правадыру народаў”, якая, вядома ж, публікавалася не толькі ў рускім перакладзе, але і ў арыгінале – на беларускай мове. Гэта адкрыта рытарычны твор, у якім паэт зноў сцвярджае бадай што боскую ўсёмагутнасць Сталіна (“Яго законамі зямля свой працягвае рух”). Аб узроўні мастацкай арыгінальнасці араторыі сведчыць і тое, што Куляшоў не пагрэбаваў тут нават такой “паэзіяй”: “Сталін ёсць Ленін сённяшніх дзён”. Як той казаў, не да пацераў, калі хата гарыць. Не да майстэрства, калі загадваюць пісаць казённую оду, калі трэба ўціснуць у вершаваны радок стандартны набор абавязковых дэфініцый, што належалі тады ўсёўладнаму “бацьку вусатаму” (так называюць Сталіна ў творах Салжаніцына).

Яўная рыторыка з праслаўленнем цвёрдага парадку, які правадыр пры жыцці “трымаў у жалезных руках”, вызначае танальнасць куляшоўскага верша “У тыя мінуты”, напісанага ў сувязі са смерцю Сталіна і паездкай паэта ў Маскву на ягонае пахаванне.

А між тым былі ў Куляшова і таленавітыя творы, прысвечаныя Сталіну. Гэта і верш 1937 года “Бацька”, і такія радкі з напісанай таксама ў 1937 годзе паэмы баладнага характару “Баранаў Васіль”. Герою гэтага твора, параненаму японцамі савецкаму пагранічніку, у далёкаўсходняй тайзе мроіцца, што яго ратуе сам Сталін. “І вось нахіляецца нізка // Над ім чалавек дарагі. // Ішоў ён сюды праз мяцелі // Ад самай Масквы, // Ад Крамля. // Марозна. Вусы заінелі...// Шынелем акрыў Васіля. // Нясе ён яго праз гушчары // Да роднай зямлі, да жыцця. // Пад сэрца вялікага ўдары // Васіль засынаў, як дзіця”. Калі не ведаць, пра якога жахлівага тырана гэта напісана, дык можна і расчуліцца...

Куляшоў, безумоўна, ведаў, што тварылася тады ў краіне, бо і сам чакаў арышту. Ды ў той час ніводзін беларускі пісьменнік не мог быць гарантаваны ад расправы. А над Куляшовым яна навісала асабліва пагрозліва з-за блізкага сяброўства з Юліем Таўбіным і Змітраком Астапенкам, якія трапілі за краты яшчэ ў 1936 годзе, і з-за сваяцтва (праз жонку) з Платонам Галавачом, якому, аказваецца, “шылі” ўдзел у змове супраць самога Сталіна. Што ж, на шчасце для беларускай літаратуры, выратавала выдатнага паэта? Версія з

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



дэтэктыўным адценнем, што, прынамсі ў 1938 годзе, гэта зрабіў Панамарэнка, заступіўшыся за Куляшова непасрэдна перад Сталіным, цяпер абвяргаецца дакументальна. Дык, можа, дапамагло сяброўства з Алесем Кучарам, публікацыя ў сааўтарстве з ім (яшчэ да 1937 года) вульгарызатарскіх артыкулаў з абвінаваўчым ухілам? Гэта ратавала, але далёкі не ўсіх. Ці ўсё ж галоўным ратавальнікам стаў ужо згаданы верш "Бацька"? Ствараючы яго, паэт мог падзяляць распаўсюджаную аж да сярэдзіны 50-х гадоў версію, што жахлівыя рэпрэсіі твораца паміма волі мудрага і чалавечнага правадыра, з-за яго нейкага дзіўнага недагляду. Пранікнёнасць, з якою напісаны верш, дазваляе выказваць меркаванне пра веру пісьменніка ў невінаватасць Сталіна, у яго чалавечнасць.

У пазнейшых "культаўскіх" творах гэтая пранікнёнасць знікае, на змену ёй, паўтару, прыходзіць відавочная рыторыка. Зніклі ілюзіі ў самога паэта, бліжэйшым да ісціны станавіўся ягоны погляд на тырана? Зусім магчыма. А што праслаўленне Сталіна ўсё ж працягвалася, дык чаму тут дзівіцца? Ад гэтага ж не было як адмовіцца паэту, калі ён не жадаў кінуць адкрыты выклік уладзе.

Пра творчую несвабоду, з якою сутыкаўся і афіцыйна ўшанаваны Куляшоў, нямала гаворыцца ў кнізе "Лясному рэху праўду раскажу..." (згадкі пра спаленую паэтам п'есу, у якой, меркавальна, паказваліся без прыхарошвання "цяжкасці і няўвязкі" пасляваеннага жыцця, пра знішчаны артыкул з вострай пастаноўкай нацыянальнай праблемы і пра тое, што і за двухразовым сталінскім лаўрэатам сачылі добразычліўцы з карных органаў, і інш.). Шантажаваць паэта дазваляла і зусім караткачасовае, да таго ж па сутнасці вымушанае супрацоўніцтва ягонага бацькі Аляксандра Мікалаевіча з акупацыйнымі ўладамі. Яно скончылася, як піша Валянціна Куляшова, "нямецкай турмой", а потым высылкай, але па дзіка-абсурдных, непахісна-стандартных савецкіх мерках усё роўна разглядалася як незмывальная чорная пляма, якая кідае цень на песняра новай рэчаіснасці. Прыходзілася шукаць падтрымкі і абароны і ў Панамарэнкі, і потым у Машэрава. А тая падтрымка, няхай пачалавечы і шчырая, падмацаваная разуменнем і павагай да выдатнага таленту, абавязвала лічыцца з афіцыйнымі патрабаваннямі, адгукацца на іх. Што зробіш, і вялікім даводзіцца пакутаваць ад несвабоды.

Але Куляшову ўсё ж трэба аддаць належнае. Мужнасць чалавека і мастака ён праяўляў больш часта, чым многія ягоныя калегі. Ён ці не адзіны з нашых ангажаваных пісьменнікаў, што атрымалі прызнанне яшчэ ў даваенныя гады, мастацкім творам сказаў пра жахлівасць сталінскіх рэпрэсій, аплакаўшы ў скрушлівым лірычным "Маналогу" (1965) сваіх сяброў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку, загубленых савецкай уладай,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



якой яны верна служылі, не пабаяўся насуперак афіцыйнай апале, якая не здымалася і пасля фізічнай смерці рускага паэта, паказаць веліч Аляксандра Твардоўскага, памяці якога прысвяціў напоўненую глыбокім філасофскім зместам, роздумам пра час, жыццё, літаратуру, ролю ў ёй сапраўдных талентаў паэму "Варшаўскі шлях"; напэўна, нямала рызыкуючы, падтрымаў Васіля Быкава, калі таго асабліва моцна ціснулі казённыя дэмагогі; звычайна прыхільна ставіўся да добрых твораў многіх пісьменнікаў і сам да канца сваіх зямных дзён заставаўся выдатным паэтам.

Творчасць і ангажаваных, але сапраўды таленавітых мастакоў заўсёды шырэйшая за тыя ідэалагічныя і палітычныя дактрыны, на якія па добрай волі ці прымусова арыентуюцца майстры. Так было і ў Куляшова, які жыў літаратурай, укладваў у яе сваю трапяткую душу. Ён здолеў істотна ўзбагаціць самі выяўленчыя магчымасці беларускай літаратуры, асабліва нашай лірыкі і паэтычнага эпасу, вывеў на вышэйшы ўзровень перакладчыцкую культуру вершаваных твораў. Чыстае золата паэзіі ў яго толькі зрэдку падмянялася сцёртымі медзякамі вымушанай і таму вымучанай рыторыкі, якой ва ўмовах жорсткай таталітарнай дзяржавы не ўдавалася цалкам пазбегнуць ніводнаму афіцыйнаму творцу.

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

# СВЕТ І АНТЫСВЕТ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

Я настолькі высока цаню талент Аркадзя Куляшова, што гатовы "закрыць вочы" на ідэалагічную заштораннасць яго творчасці пры вызначэнні яго месца ў агульным кантэксце беларускай паэзіі. На гэтай "заштораннасці" і прыпынімся. Часам яна набывае вульгарныя формы. Асабліва прыгнятае сваім антыгуманным цынізмам "Балада аб чатырох заложніках". Тым, хто не чытаў, нагадаю сюжэтную лінію.

Фашысты ўзялі ў палон трох дзяцей вядомага партызанскага камандзіра бацькі Міная і яго родную сястру. Яны чакаюць расстрэлу ў падвале пад гітлераўскай вартай. За іх вызваленне фашысты патрабуюць выдаць ім бацьку Міная. Але той і сам не прыходзіць і не робіць аніякіх захадаў для іх вызвалення. Самы страшны тут дыялог меншага трохгадовага хлапчука з цёткай.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*...Сняцца краты меншаму сыну:*
*– Тут і мокрыя сцены,*
*і мышы.*
*Татка, татка... забыў нас... пакінуў.*
*– Спі, засні, – суцяшае кабета, –*
*Спі, сынок, не твая гэта справа.*
*Спі, наш татка не прыйдзе,*
*На гэта*
*Ён не мае бацькоўскага права.*

“Не мае бацькоўскага права”? Хто ж пазбавіў гэтага права бацьку Міная? Партыйная і ваенная дысцыпліна? Але кожны бацька ведае, што нават уласная смерць не можа пазбавіць яго гэтых правоў. Гэта можа зрабіць толькі смерць дзяцей... Куляшоў і не заўважыў, як трапіў у пастку партыйнага маралітэ. Ці прага творчага патрыятызму і гераізацыі настолькі абясцэньвалі чалавечае жыццё?

Мы не ведаем душэўных пакут і згрызот сумлення бацькі Міная. Ды і сам Куляшоў не дбае пра тое ані ў адным радку сваёй гераічнай балады.

А пасля расстрэлу заложнікаў, напрыканцы, яшчэ й пафасна-цынічна заклікае:

*Вось і ўсё.*
*Перад бацькам Мінаем*
*Станьце ўсе бацькі на калені!*

Не забудзем, што фактура балады абсалютна дакументальная. Безумоўна – вайна. І няхай “у войны не женское лицо”, а тым больш не дзіцячае і нават не чалавечае ўвогуле, а ўсё ж – людское... Бо справа не толькі ў бойні. Тут праектуецца пэўны лад жыцця і барацьба за такое жыццё. Барацьба дзвюх блізкіх ідэалогій – гітлераўскага нацызму і сталінскага камунізму...

Як яго, у дадзеным выпадку – камунізм, апявалі нашы народныя паэты-песняры! Колькі гадоў галодны, халодны і спрацаваны народ, лічы, адно і жывіўся іх камуністычнай рыторыкай.

Але за проста так не дадуць табе “сталінскую” шыкоўную кватэру, а то і маёнтак у цэнтры сталіцы, не ўзвядуць для цябе лецішча на самым беразе возера Нарач, не ачэпяць, як пудзіла, бляшанкамі партыйных узнагародаў... І многа-многа яшчэ чаго... Купала, Колас, Куляшоў, Танк, Панчанка... Усе яны ў свой час так і не змаглі пераадолець зямных чалавечых спакусаў... Памятаеце?

*Пока не требует поэта*
*К священной музе Аполлон,*
*В заботах суетного света*
*Он малодушно погружен;*
*Молчит его святая лира;*
*Душа вкушает хладный сон,*
*И меж детей ничтожных мира,*
*Быть может, всех ничтожней он.*

О, каб жа!.. А тут: “ни дня без строчки”. Куляшоў не толькі піша вядомы (бо ў школе ўсе мусілі завучваць яго напамяць) верш “Камуністы” у 1948 годзе, але, адразу ж пасля атрымання чарговай Сталінскай прэміі ў 1949 годзе, так называе і ўсю сваю новую кніжку вершаў.

Адпрацоўвае шчыра, па ўсіх

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



рахунках, на ўсю шырыню куляшоўскага магутнага таленту.

*Мы не верым ані ў бога, ні ў малітвы,*
*І няма для нас другіх свяцейшых слоў,*
*Апроч лозунгаў і заклікаў да бітвы,*
*Апроч песень, ад якіх бунтуе кроў.*

Няма нічога свяцейшага за бальшавіцкія лозунгі і заклікі да бітвы?! Няма аніякай іншай веры, апроч веры ў камунізм?!

І тут здзіўляе ўжо не столькі пазіцыя самога "тадышняга" аўтара, а сённяшняе стаўленне да гэтых вершаў нашых многіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў. "Балада аб чатырох заложніках", вершы "Камуністы" і "Камсамольскі білет" – паверыце ці не?! – увайшлі, як лепшыя творы Аркадзя Куляшова, у другі том трохтомнай "Анталогіі беларускай паэзіі", што пабачыла свет ужо ў незалежнай (дэмакратычнай?) Беларусі ў 1993 годзе. (Рэдакцыйную калегію ўзначальваў Р.Барадулін, а ўкладальнікам быў А.Лойка.)

Многія сцвярджаюць, што ўсё напісанае Куляшовым – гэта абсалютна праўдзівы стан яго душы і чалавечых паводзін, што камуніст ён быў "не роблены", а самы што ні на ёсць натуральны...

Мала сумняваюся ў гэтым і я, хоць і разумею, што самае страшнае для паэта – гэта трапіць у нерат якой бы там ні было партыйнай ідэалогіі.

Самае мужнае – застаецца на вяршыні Парнаса, як бы ні ўдушвала "атмасферным ціскам", як бы ні перахоплівала дыханне ад "недастатка воздуха"...

Як там у сучаснага паэта Ул. Някляева?

*Пазбыўшы нябыт, ты з'явіўся на свет,*
*Каб свету здзівіцца.*
*Калі ты званар ці калі ты паэт,*
*Жыві на званіцы.*

Бо самае балючае для сапраўднага паэта – гэта "зразуменне спустошанасці", калі ад былых пафасных слоў не застаецца нават прыглушанага часам, зваротнага рэха...

Мне здаецца, менавіта такі стан перажыў Аркадзь Куляшоў неўзабаве пасля XX з'езда КПСС. Прабачаюся за доўгую цытату, але не магу, у сувязі з вышэй сказаным, не прывесці тут чатыры страфы з верша "Перад падарожжам" (1961 г.).

*Лясы б маіх блуканняў высеч,*
*Распяцца б на крыжы хваін*
*За сотні дзён, за сотні тысяч*
*На вецер пушчаных хвілін.*

*Адзін здабытак мой – пакуты,*
*Што сівізной ляглі на скронь.*
*На лёд душы, а боль пякучы*
*Я ў прагны кідаю агонь.*

*Палю я рэшту дзён мізэрных,*
*Але не за цяжкія іх*
*Шуканні вернасці ў няверных,*
*Святой любові ў несвятых.*

*І не за тое іх палю я,*
*Што абпаліўся жорстка сам,*
*Што больш за марай не палюю,*
*Гадоў на марнасць не аддам...*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



І ўсё ж – Куляшоў паэт вялікі, без малога, на мой погляд, геніяльны, роўных якому ў філасофскім мысленні ў беларускай паэзіі пакуль не было. Хто ўважліва чытаў яго лепшыя творы, той не пасміхнецца з гэтых маіх бадай пафасных слоў.

І яшчэ, наастатак, трохі прыватнага. Мяне двойчы вылучалі на атрыманне літаратурнай прэміі імя А.Куляшова і двойчы гэтая прэмія мяне абыходзіла...

І – гэта справядліва, бо і ў гэтым ёсць сярмяжная праўда маіх няпростых стасункаў з паэтам Аркадзям Куляшовым.

*Парушыўшы законы прыцягнення,*
*Планетамі сярод другіх планет*
*Існуем мы з табой як выключэнне,*
*Любоў мая, – як свет і антысвет.*

Вядома, што ў гэтым сваім опусе я наўмысна засяродзіў чытацкую ўвагу на асобных і найбольш відавочных элементах куляшоўскага АНТЫСВЕТУ, бо са СВЕТАМ, дзе паэт жыў і тварыў па боскіх законах, я знаходжуся ў інтымных і паразумелых адносінах.

І СВЕТ той – непарушны.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# ЗАБЫТЫЯ ЎРОКІ КУЛЯШОВА

Апошняй звычайна называюць новую кнігу аўтара – тую, што выдадзена апошняй па часе. Але здараецца так, што чарговая кніга сапраўды становіцца апошняй, і тады мы з асаблівай пільнасцю ўчытваемся ў яе радкі. Такой кнігай у Аркадзя Куляшова з'яўляецца "Хуткасць". Яна выйшла ў 1976-м, а ў студзені 1978-га паэта не стала.

"Хуткасць" **кнігай паэзіі** (менавіта так азначаны яе жанр) можна назваць з пэўнай нацяжкай. Калі вершы і паэма "Варшаўскі шлях" складаюць адно цэлае, то "Хамуціус" – па сутнасці драматычная паэма – твор паліфанічны і выходзіць за межы задумы. Тым не менш, словы з ліста паўстанца ў пралогу гучаць шматзначна:

*"Мой родны брат! Я пакідаю свет.*
*Пішу табе не ліст, а запавет..."*

Такім запаветам усім нам можна лічыць і ўступны, праграмны, як казалі раней, верш, які даў назву кнізе. У ім Аркадзь Куляшоў

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



бліскуча выклаў сваё разуменне задач і прызначэння паэзіі:

*Свет будзе пець, смяяца, слёзы ліць*
*Датуль, пакуль на свеце людзям жыць.*
*Сабрат мой па пяру, на суд іх смела*
*Выносъ усё, што ў сэрцы набалела.*

"Выносъ усё" – гэта, вядома ж, паэтычнае перабольшанне. Усё не выносіць ніхто, тым больш у часы панавання сацыялістычнага рэалізму. Пры ідэалагічным уціску ўласная цэнзура бывае не слабейшай за дзяржаўную. Акрамя таго, у сапраўдных творцаў абавязкова дзейнічае закон мастацкага адбору: не ўсё з перажытага аднолькава істотнае, агульназначнае, вартае чытацкай увагі. Нарэшце, у аўтарскага Я ёсць магутны падсвядомасны пласт, які вызначае, што прытаіць і што дадаць у партрэт "лірычнага героя". З гэтага пункту гледжання паэзія ўяўляе цікавасць для псіхолагаў і псіхааналітыкаў.

Што ж тычыцца Куляшова, то ён у душы не столькі лірык, колькі эпік і філосаф, а гэта ўжо іншы від спасціжэння рэальнасці, іншае светаўспрыманне. Незадоўга да смерці паэт прызнаваўся Варлену Бечыку, што надумаў паэму, а вось вершы не пішуцца. "Для вершаў трэба, каб нават арганізм біялагічна саспеў, а так – быццам нейкіх солей не хапае..." На пытанне, што адчувае ён у працэсе творчасці, адказ такі: "Узнікае адчуванне руху, святла і ўсёабдымнасці. Здаецца, чуеш увесь акіян жыцця" (В.Бечык. "Прад высокаю красою". Мінск, 1984). Тады ж ён дзяліцца з крытыкам сваімі сумненнямі: "Вершы мне, мусіць, ужо не трэба пісаць... Пара кінуць. Узрост ужо не дазваляе...".

У нечым паэт меў рацыю. Звужанасць жыццёвай прасторы, непазбежная ў старасці, недахоп уражанняў прыводзяць да звужэння прасторы паэтычнай. Адсюль і перавага нейкай адной тэмы, аднаго матыву. У апошняй кнізе Куляшова дамінуе тэма паэзіі і творчасці. Яна прама ці ўскосна праходзіць у вершах "Хуткасць", "Пра славу", "Парада сабе самому", "Слова пра вала", у цыкле "Запісная кніжка". Апаэтызавана і перакладчыцкая праца, якой паэт аддаў шмат часу і намаганняў ("Пастух"). Вершы пра вершы – гэта міжвольная даніна літаратуршчыне ці ўсё-такі падсумаванне пройдзенага ў паэзіі шляху?

Мне думаецца – другое, інакш творы не былі б такія па-мастацку паўнакроўныя. У іх навідавоку зайздросная якасць куляшоўскай паэзіі – сінтэз думкі і пачуцця, кампазіцыйная завершанасць, гарманічны сплаў высокага і нізкага, выяўлены праз спалучэнне адцягненай і канкрэтнай лексікі. Пра наватарства паэта, "пераадоленне Купалы" пісаў Іван Навуменка, падкрэсліваючы, тым не менш, што Куляшоў як ніхто "ўзяў ад Купалы". Даследчык меў на ўвазе маштабнасць мыслення героя, глыбінную народную аснову яго паэзіі, багацце пераходаў, пераліваў пачуцця ("На стрыжні часу". Мінск, 1973).

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



"Галоўнае ўжо сказана. Што можна // Да сказанага некалі дадаць?" – так пачынаецца вершаваны цыкл "Запісная кніжка". Мне знаёмае гэтае адчуванне, калі гартаеш старую запісную кніжку і сустракаеш абрыўкі фраз, незавершаныя строфы, чужыя занатаваныя выслоўі... Для кожнага з пяці вершаў знойдзены свой вобразны ход; пачуццёвая палітра, як заўсёды, багатая.Тут і шкадаванне аб тым, што вынесена на людзі (бо яно адчужаецца, становіцца агульным здабыткам), і разуменне значнасці перажытага, здзейсненага надзіва, і радасць рупліўца-сейбіта: зярняты кінуты ў глебу, застаецца адно выцерці пот з ілба...

З пяці разгорнутых вершаў не ўзнікае ўражання зацягнутасці альбо штучнасці. Метафары натуральныя, сэнсава напоўненыя, думка разняволена сягае з аднаго вобразнага шэрагу ў другі.

*Ты, кніжка запісная, – дом, дзе свішча*
*Скразняк гадоў, віхор няспелых дум,*
*Кладоўка для зярнят і папялішча*
*Пачуццяў марных, кінутых на глум.*

*Ты – клінапіс з неразгаданай вяззю,*
*На турмы не падобная турма,*
*Дзе вобразам маім, забытым вязням,*
*Прызначанага тэрміну няма.*

Чытаю страфу за страфой і лаўлю сябе на тым, што мне ахвота не разбіраць далікатны механізм вершаў на калёсікі і вінцікі, а проста цытаваць. Як бы мы ні ставіліся да куляшоўскай спадчыны, але нельга не прызнаць: культура слова, тэхнічная адмысловасць, спалучаныя з багаццем душы і магутным інтэлектам, – гэта безумоўная каштоўнасць, а значыць – здабытак нацыянальнай культуры.

На аснове творчасці Куляшова ёсць сэнс паразважаць пра дух і душу ў паэзіі. Ёсць паэты (а найчасцей – паэткі), у вершах якіх шмат д у ш э ў н а с ц і і амаль не адчуваецца д у х о ў н а с ц і. (Розніца вялікая. Для тых, хто яе не адчувае, нагадаю: душа ёсцека і ў сабакі. Інакш як бы ён мог любіць гаспадара?) Пачуццёвасць разліваецца, як вясновая паводка, і гэтак жа імкліва сыходзіць, не пакінуўшы прыкметнага следу ў памяці чытача. Эмоцыі ўскіпаюць і сыходзяць бурбалкамі. Паэзія Куляшова, не пазбаўленая спавядальнасці, тым не менш, далёкая ад сантыментаў. Пачуцці ў ёй ураўнаважваюцца развагай, узнікае нейкае асаблівае напружанне, ток ад сэрца да сэрца – тое самае адчуванне "руху, святла і ўсёабдымнасці".

Асабістае ў творы толькі тады становіцца агульназначным, калі дасягнута неабходная ступень духоўнага засваення рэчаіснасці. Толькі пры гэтай умове ўсё, пра што піша паэт, становіцца часткай нашага ўласнага досведу. Пра чалавечнасць, духоўнае багацце Аркадзя Куляшова найбольш яскрава, як мне здаецца, сведчыць паэма "Варшаўскі шлях". Прысвечана яна памяці франтавога сябра, хоць прысвячэння – Аляксандру Твардоўскаму – у творы няма. Думаецца, яно было б не лішнім,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



бо за зваротам да другой асобы часам губляецца канкрэтны адрасат.

Лірычны герой паэмы ўяўляецца нам падарожнікам пры начным цяпельцы, які пры дарозе, у лясной цішыні, сам-насам згадвае перажытае. Нахлынулі ўспаміны, жаль па страчаным сябру, і іх трэба выплеснуць, занатаваць **цяпер** ("пасля не знаю, ці змагу").

Ён называе Твардоўскага земляком і, пазбягаючы факталогіі, без лішніх падрабязнасцяў і ўдакладненняў, пазначае асноўныя вехі ягонага жыцця. Самае балючае – заўчаснасць страты, няўмольнасць хваробы, што забівае марудна.

*Адкуль узяўся смертаносны вірус,*
*Прыстасаваўся да якіх умоў?*
*А можа ён з вайны той самай вырас*
*І смела па слядах яе пайшоў...*

Тут мушу зрабіць адно кароткае адступленне. У маі 1972-га года, успамінае В.Бечык, яго запрасілі на чытку паэмы на кватэру народнага паэта. Аркадзь Аляксандравіч паказваў аўтографы Твардоўскага, каменціраваў іх і ўспомніў такі эпізод. "Аляксандр Трыфанавіч лічыў, што я хваравіты і слабейшы за яго. Аднойчы, калі я падняўся пасля хваробы, нават сказаў: "Ах, Аркадий! Какие я на твою смерть собирался стихи написать!.." I вось цяпер не ён пра мяне, а я пра яго пішу..."

Дакладнымі тонкімі штрыхамі ў творы малюецца вобраз чалавека "з рукамі каваля, з душой жняі", які весяліў салдат на прывалах, плакаў разам з імі на свяце перамогі.

*Ён іх на подзвіг зваў сваёй прарочай,*
*Чорнарабочай*
*кнігай пра байца,*
*Не ўсімі дачытанай да канца...*

Несумненна, перад намі намёк на другую частку паэмы "Васіль Цёркін", якая доўгі час была забароненай.

Прыём звароту да Варшаўскай шашы, з якой звязана гісторыя перамогі, дазваляе паэту пашыраць паэтычную прастору. Ад прыватнага ён сягае да грамадскага, ад асабістага – да трывогі за чалавецтва.

*Хварэем мы, хварэюць нашы рэкі,*
*Хварэе час, што чыніць гвалт і здзекі,*
*Планета, што пазбавілася сну*
*Ад вечных дум: чым адхіліць вайну...*

Ад лёгкасці такіх пераходаў падчас займае дух! Незразумела, як удаецца паэту простай, стрыманай лексікай перадаваць і грамадзянскія пачуцці, і асабісты жаль па сябру.

У скрусе, у душэўнай горычы паэта прысутнічаюць, несумненна, і ноты развітання з жыццём: канец веку не за гарамі.

*Пара!.. Няўхільна падарожжа гэта...*
*Лячу, лячу, упэўнены амаль,*
*Што я навечна гэты боль і жаль*
*Пакіну на зямлі,*
*як гук*
*ракета.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



“Бывай, шлях”, – кажа аўтар, а за гэтым бачыцца іншае, прытоенае: “Бывай, сябра” і “Бывай, жыццё”.

“А можа сапраўды мне час дадому // Збірацца ўжо, як позняму гасцю?” – з лёгкай усмешкай пытаецца паэт. (Хоць і прызнаецца, што не верыць у замагільнае жыццё.)

Матыў развітання са светам адчуваецца ў многіх вершах кнігі. Агульнапрынятая думка пра страх смерці паэзіяй Куляшова не пацвярджаецца. Развітанне – гэта найперш самарэфлексія, падсумаванне набытку, наказ таварышам па пяру. Перагортваю старонкі “Хуткасці”, і зрок то тут, то там выхоплівае асобныя радкі, якія паза кантэкстам набываюць шмат значнасці і ўласны сэнс:

*Прымай, як дар, жыццём пасланы дзень...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Забудзь, што ўсё адгаманіла,*
*Адкукавала, адышло...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Не вечна ўсё...*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Ужо не абрусамі, а ўспамінамі*
*Сталы засланы, доўгія сталы.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Старэючы, і я сачу з трывогай*
*За часам, што мяне пераўжыве.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Я знаю, ты, мой шлях, пераўжывеш*
*Мяне, мой верш...*

Паэт не мог не думаць пра даўгавечнасць свайго слова. Што тварэнне пераўжывае славу творцы, ён добра разумеў. Канструктараў забываюць, аднак застаецца і служыць людзям матэрыяльны вынік іх высілкаў – магутныя масты.

*Хачу, каб так і слова –*
*не жалезнае,*
*Знаёмае з пакутай і слязьмі, –*
*Ад славы і імёнаў незалежнае*
*Трымала сувязь з часам і людзьмі.*

“Урокі Куляшова” – так называўся ўжо цытаваны мной пасмяротны артыкул пра паэта. (Варлен Бечык, да слова, быў не толькі крытыкам, але і ўдзячным, праніклівым чытачом куляшоўскай паэзіі, таму няма падстаў сумнявацца ў глыбіні і сумленнасці яго ацэнак і высноў.) Еднасць асабістага і грамадзянскага, з’яднанне вялікага і малога, мінулага і будучага, адчуванне галоўнага, стрыжнявога ў жыцці, вышыня ідэалаў, чалавечнасць – вось тое зыходнае, што характарызуе, на думку крытыка, творчасць А.Куляшова. “Куляшоўская паэзія з вялікай мастацкай сілай даводзіць нам, што духоўнае станаўленне і існаванне чалавека ў свеце немагчыма без неспакою, пошуку, драматычнага пераадолення жыццёвых перашкод, пачуцця вялікай адказнасці за сябе і за свой час...” Чаму ж тады, спытаемся, так рэдка ўспамінаем мы майстра і так мала здабылі з яго ўрокаў? Няўжо ідэалагічныя ці палітычныя схемы могуць быць мацнейшыя за тое жывое, сапраўднае, што ёсць у яго творчай спадчыне? Няўжо “Камсамольскі білет” здольны пераважыць класічнае, памятнае са

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



школы: "Я хаце абавязаны прапіскаю"?

Відаць, уся справа ў тым, што паміж **яго** і **нашым** часам яшчэ занадта малая адлегласць. У грамадстве няма адзінства адносна стаўлення да камуністычнага рэжыму, адносна яго сутнасці і наступстваў. А ў паэта, які мірна згас на бальнічным ложку, мала шанцаў на пасмяротную славу (М.Скобла). Мае месца тэндэнцыя С.Дубаўца і К° з вадою выплюхваць і жывое дзіця – адкідваць разам з аджылай ідэалогіяй і ўсё зробленае творцамі, якім **наканавана было нарадзіцца ў гэты час і ў гэтым месцы.** Няма дыялектычнасці ў такім падыходзе, няма нават пробліску метафізікі, бо не кожнаму суджана стаць **змагаром і пакутнікам...**

Мабыць, Аркадзь Куляшоў нарадзіўся са станоўчымі напрацоўкамі: змалку адчуў у сабе творчую іскру, пражыў жыццё ў пашане, у дастатку, у дружнай сям'і. І раздзяліў з сучаснікамі агульную ношу – страшную вайну, што стала для іх не проста старонкай біяграфіі, але і вогненным гарнілам для душы.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# "Мінулы час у новым часе"

Для майго пакалення імя Аркадзя Куляшова злучана найперш з непазбыўным, як камсамольскае юнацтва, "Сцягам брыгады", і *са старымі песнямі пра галоўнае* – "Алесяй", "Калі вясною закукуе зязюля...". Хрэстаматыйна-кананізаваны "Сцяг..." ператварыўся ў памяці ў сухое крыльца прэпараванага матылька. А песні ўсё гучаць, бо яны пра каханне, пра тое, што ў маладосці здавалася вечным.

Спроба "алгеброй гармонию поверить" – справа дарэмная і няўдзячная. тым не менш, лінгвісты і літаратуразнаўцы дакладна высветлілі, што вершаваныя творы, якія інтуітыўна ўспрымаюцца чытачом, як добрыя, абавязкова ўтрымліваюць у сабе вечную тэму. З дапамогай літаратуры людзі імкнуцца апынуцца па той бок дабра і зла, любові і нянавісці, міру і вайны. Існуе і самая вечная тэма. Думкі пра яе чалавек праносіць праз усё жыццё, а чалавецтва – скрозь усе цывілізацыі.

Водгулле старажытнарымскага memento

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



могі гучыць наўсцяж "Варшаўскага шляху" Аркадзя Куляшова.

*На могілках спрадвечных бачыў кожны*
*Чытаў на надмагільных камянях*
*Такі зварот: "Спыніся, падарожны!*
*Сваім маўчаннем ушануй мой прах.*
*Я дома, ты ж пакуль яшчэ ў гасцях."*

Твор мае сакральны сэнс. Ён гучыць як пераклічка з земляком Аляксандрам Твардоўскім, які ўжо на тым баку.

*А ўсё ж на сэрцы блага мне, і шкода –*
*І крыўдна ад вядомасці тае,*
*Што гэтак, як раней, жыве прырода,*
*Што больш не зможа ўбачыць ён яе,*
*Што больш яна з зямлёй і небакраем,*
*Не варухнецца ў ім радком жывым...*

Тэма небыцця натуральна лучыцца з тэмай творцы і творчасці: "Жыццё і смерць. Дуэль радкоў з крыжамі". Трагічны пафас імкнецца да лермантаўскага: "Волатаў скасіла паэзія, а ворагі – пасля".

Куляшоў ведаў, пра што пісаў, бо і ў ягонай душы віравала паэзія. Бог падараваў яму іскру, гаручае ж рэчыва дала культура. Тая, што, нібы тысячагадовы торф, складаецца з пакаленняў і пакаленняў. Учытайцеся ў мудрыя радкі:

*З зямлёю продкаў не жыві ў разладзе,*
*На пераклічцы мёртвых і жывых.*
*Яны – мінулы час у новым часе*
*І гарады ў вялікіх гарадах,*
*Што будаваліся на іх касцях.*

Перад абліччам неабсяжнай большасці паэт уступае ў спрэчку з вечнасцю:

*Я знаю, каб памёршыя знайшлі*
*Зваротную дарогу ў свет зялёны,*
*То адбівалі б толькі ёй паклоны,*
*Маліліся б шляхам сваёй зямлі.*
*Зямля для ўсіх, хто там, для ўсіх,*
*хто тут, –*
*Адзіная сапраўднасць і бясспрэчнасць,*
*У ёй адной – іх вечнасць і нявечнасць...*

Паэма "Варшаўскі шлях", пэўна, самы філасофскі твор паэта. Але і ў самотным прыцемку позняга перыяду творчасці, як і ў ранняй лірыцы, багата яскравых куляшоўскіх вобразаў. "Часу прысак", "арганнае рэха", "чарнарабочая кніга"... Эпітэты перагукаюцца з метафарамі, і "пералётны дым" у паэтычнай прасторы, "як малітва, ідзе ўгару, далоні склаўшы".

Паэма пачынаецца так:

*Пакуль у целе чуецца душа,*
*Не веру я ў таемны сэнс другога*
*Яе жыцця.*

Перад эпілогам паэт зноў паўтарае: "Не веру я ў той вечны дом".

Мы не маем права спрачацца з гэтай высновай. Няхай антытэзай прагучаць радкі бясконцага, як вечнае вяртанне, "Варшаўскага шляху". Вось што кажа пра Паэта твор:

*Такіх, як ён,*
*За ценевай мяжой*
*Адна зара перадае другой.*

**Галіна БУЛЫКА**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Паэма "У зялёнай дуброве" (дзеля прыкладу можна было б узяць іншую). Васіль кахае Хрысціну, а яна, нават не здагадваючыся аб гэтым, выходзіць замуж за Івана, едзе ў ягоную вёску, але праз нейкі ўжо месяц "на лета" вяртаецца ў бацькоўскую хату, каб дапамагчы роднаму калгасу сабраць ураджай. Муж яе з радасцю адпускае.

Усё чыста, да кананічнасці прыгожа. Чаму ж тады мая свядомасць малюе карціны, дзе Хрысціна, прыехаўшы да бацькоў і даведаўшыся аб пачуццях Васіля, здраджвае з ім мужу, дзе Іван, часова пазбавіўшыся апекі жонкі, успамінае былых каханак?

Хай гэта толькі маё хваравітае ўяўленне. Не будзем адступаць ад тэксту.

– Дадому прайдуся ("на лета", як сказана далей)! – гаворыць Хрысціна.

– Схадзі, маё сэрца.

Што можа сказаць свякроў, даведаўшыся аб ад'ездзе нявесткі ледзь не адразу пасля вяселля? Што скажуць Хрысцініны бацькі, сустрэўшы дачку на парозе роднай хаты? Узнікае яшчэ шмат і шмат пытанняў. Нават калі дапусціць, што Хрысціна не здагадвалася аб каханні Васіля, пэўна, у яе родным калгасе "Чырвоная зорка" не было чалавека, які б не ведаў аб гэтым.

***

У спадчыне любога паэта заўжды цікава адшукаць верш (ці вершы), у якім бы раскрывалася яго бачанне сувязі: творчая асоба – час. Можна знайсці такія радкі і ў А.Куляшова.

*Я сцежкай гадоў загартован не быў,*
*Не жыў, не рабіў за варштатам рабочым,*
*Таму так хачу не скаўзнуцца ў нябыт,*
*Таму так хачу не сарвацца, не збочыць*

**АСКЕПКІ**

*З дарогі, дзе людзі сцягамі шасцяць*
*І пройдуць, цябе не прыкмеціўшы, міма,*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*За песняй жыцця і за сонцам жыцця,*
*За новай дарогай і новай радзімай.*

*Я толькі паэт... Але я не адзін,*
*Са мною маё пакаленне і сіла...*

**(“Пра сябе”, 1930)**

Але і сучаснае, і мінулае, і наступнае – усе яны па вялікім рахунку не супрацьстаяць адно аднаму. І ўсім ім супрацьстаіць вечнае. І ці не вядзе сама дарога, апетая аўтарам гэтых радкоў, у нябыт?

*І будзе, таварыш,*
*Там жыта расці,*
*Што ў песнях яго*
*Не апішаш,*
*Вышэй, чым людзі*
*Бываюць ў жыцці,*
*І за жыццё наша*
*Вышай...*

**(“На зямлі”, 1929)**

Толькі праз шмат гадоў паэт свядома ці падсвядома пачынае раз-пораз сыходзіць з гэтай сцяганоснай дарогі, і тады нараджаюцца вершы кшталту: “Аб любові”, “Аб рэўнасці”...

*Дні юнацтва, як хуткія ветразі,*
*зніклі з вачэй.*
*Не, не тыя ўжо хвалі*
*і мора, што год, то цішэй.*

*Што ні год, то цішэй...*
*і ярчэй у ім з цягам гадоў*
*Выступаюць абрысы*
*жаданых даўно берагоў.*

*Зноў – зямля ты, я – мора,*
*і час разлучыць нас не змог:*
*Я на вольным прасторы,*
*шчаслівы ля ног тваіх лёг.*

**(“Ты і я”, 1950)**

***

Ваенная тэматыка. Тыя вершы, што былі напісаныя Куляшовым у трыццатыя гады, выглядаюць ледзь не пародыямі на быліны ці народныя паданні. Здаецца, што апісаныя ў іх падзеі аддаленыя ад нас не толькі прасторава (звычайна яны адбываюцца недзе на граніцы), але і ў часе.

Нягледзячы на тое, што з пачаткам Вялікай Айчыннай у баладах паэта з’явіўся непадробны драматызм, зрабілася сапраўды важкім слова, не пакідае ўражанне, што і ў гэты час ваенная тэматыка не стала ўласна ягонай. Яна выглядае “прышчэпленай”, здольнай нават прыносіць плады. Бывае такое (калі ўжо карыстацца садовай аналогіяй), што і пасля ўдалай прышчэпкі дрэва не перастае выпускаць “дзікія” парасткі. Іх абразаюць, а яны з’яўляюцца зноў і зноў. Так і ў творчасці Куляшова: які б не быў час, куды б свядома не “накіроўваўся” паэт, а раз-пораз узнікалі вершы (бывала, што толькі прысутнічаў матыў), сугучныя яго юначаму:

*Гармонік новы, басовы рып,*
*Ліпнёвы вечар у цвеце ліп...*

**Усевалад ГАРАЧКА**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# СУСТРЭЧА

Гэта было зімой 1946 года, адразу пасля вайны. З-за далёкай мяжы, дзе заканчваў вайну, я вярнуўся ў родныя мясціны. Наведваючы сваіх родных, блізкіх у вёсках Альшоў і Ліпаўка, я даведаўся ад іх, што бацькі Аркадзя Куляшова ў час вайны жылі на акупаванай немцамі сваёй зямлі – у Хоцімску. Хата іх згарэла, і яны засталіся жыць у маленькім цагляным буданчыку, што захаваўся на сядзібе ўскрай гарадскога пасёлка. Буданчык той з чырвонай цэглы адным вузкім акенцам выглядваў у агарод сядзібы, нібы вартаваў кагосьці ў сваёй адзіноце. Калі я нечакана зайшоў туды, Аляксандр Мікалаевіч спаткаў мяне ветліва, вельмі абрадваўся майму прыходу, бо доўга ж мы не бачыліся, яшчэ з даваеннай пары.

Мы сядзелі за невысокім драўляным столікам, вялі шчырую гаворку. Перш за ўсё, безумоўна, мы гаварылі пра Аркадзя Куляшова. Бацька асабліва, як ніхто, ганарыўся тым (пра гэта ведала ўжо ўся краіна), што яго сын стаў знакамітым паэтам, узнагароджаны высокім ордэнам за заслугі перад Радзімай, што ён удастоены звання лаўрэата – атрымаў Сталінскую прэмію за выдатную паэму "Сцяг брыгады", напісаную непасрэдна ў складанай франтавой абстаноўцы.

За бяседным сталом Аляксандр Мікалаевіч сказаў мне, што вельмі хоча пабачыцца з сынам Аркадзем, які жыве з сям'ёй у Мінску, але не можа гэтага зрабіць.

– А чаму б Вам не паехаць у Мінск разам са мной? – прапанаваў я, доўга не думаючы, – я заўтра ж збіраюся вяртацца на месца службы, у нашу сталіцу. Разам паедзем. Калі цяжка будзе з білетам, я магу дапамагчы набыць білет па сваёй ордэнскай кніжцы.

Аляксандр Мікалаевіч з цікаўнасцю разглядваў мяне ў вайсковай форме, у званні капітана, мае баявыя ордэны на грудзях, і я заўважаў у яго шчырым, сардэчным паглядзе пашану і любоў да тых усіх людзей, якія неслі

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



вызваленне свайму народу ад гітлераўскай чумы.

– Дзякуй, Пётр Фёдаравіч, мяне ж нашы мясцовыя ўлады не выпускаюць нікуды з Хоцімска: нават арыштавалі б, каб не мой славуты сын...

На вачах у майго субяседніка ледзь не выступілі слёзы. Так яму балюча і горка было ўспамінаць нешта такое, пра што я не ведаў сам. Можна было толькі здагадвацца аб нейкай недарэчнай справе, звязанай з дзейнасцю на акупаванай тэрыторыі. Як потым высветлілася, нічога асабліва крамольнага не было ў дзейнасці былога настаўніка, і ў хуткім часе з яго былі зняты ўсякія падазрэнні, ён быў поўнасцю рэабілітаваны ва ўсіх адносінах, жыў, дажываў свае гады разам з Кацярынай Фамінічнай у новай хаце, якую падараваў ім іх слаўны сын і вялікі паэт Аркадзь Куляшоў у цэнтры Хоцімска.

А ў той дзень, калі мы сядзелі з Аляксандрам Мікалаевічам у яго цесным каменным буданчыку, ён з горыччу і хваляваннем расказваў, што адбылося з ім у час вайны. Немцы змусілі яго да супрацоўніцтва. Я вырашыў усё ж дапамагчы бацьку спаткацца са сваім родным сынам, якіх на доўгі час разлучыла вайна.

Пасля нашай шчырай і сардэчнай размовы ў каменным буданчыку я адразу ж накіраваўся да першага сакратара Хоцімскага райкома партыі Гурскага. Ён ветліва мяне прыняў. Не ведаю, што падзейнічала на яго, але ён згадзіўся дапамагчы мне і бацьку Куляшова дабрацца зімой да станцыі Камунары, адкуль мы ўжо самі чыгункай павінны былі ехаць праз Оршу на Мінск.

Гурскі, несумненна, ведаў больш за мяне пра ўсё, што звязана з бацькам Куляшова, і не надаваў гэтаму асаблівага значэння. Парушыўшы "запрет" на яго выезд з Хоцімска, ён дазволіў яму ехаць да роднага сына.

У Аляксандра Мікалаевіча не было ні пашпарта, ні якіх іншых афіцыйных дакументаў. Быў толькі білет на праезд, які я змог набыць на станцыі Камунары па сваёй ордэнскай кніжцы. На станцыі Орша мы далі Аркадзю Аляксандравічу тэлеграму ў Мінск, у якой указалі дакладна прыбыццё нашага цягніка, прасілі сустрэць нас на вакзале.

Самае цяжкае ў нашым падарожжы было пасля Оршы. У цягніку органамі бяспекі была наладжана праверка дакументаў ва ўсіх пасажыраў, як гэта рабілася пасля вайны ўсюды.

Як толькі ў цягніку пачалі правяраць дакументы, я папрасіў Аляксандра Мікалаевіча залезці на верхнюю паліцу ў вагоне і моцна спаць, да храпу, а сам, паказваючы сваё пасведчанне чалавеку ў міліцэйскай форме, папрасіў не турбаваць старога, сказаў, што гэта мой бацька: ён хворы, да таго ж вельмі змарыўся ў дарозе і яму трэба спакой...

Вось так, праўдамі і няпраўдамі мы даехалі да Мінска. На мінскім вакзале выйшлі на перон. Тут нас

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ужо чакаў Аркадзь Аляксандравіч з легкавой машынай, якую наняў у кагосьці з такой нагоды.

Вы можаце ўявіць, якой хвалюючай і сардэчнай была гэта сустрэча родных бацькі і сына, якія не бачыліся доўгі час ваеннага ліхалецця. Праз некалькі хвілін мы былі ўжо ў доме на Беларускай вуліцы, што непадалёку ад вакзала. У Аркадзя Куляшова была двухпакаёвая кватэра. Дарэчы, цяпер у гэтым доме жыву я. Але гэта між іншым. Самае галоўнае, пра што мне хацелася сказаць – ніколі ў жыцці я не бачыў такой хвалюючай, незвычайна радаснай і даўгачаканай сустрэчы, якая адбывалася на маіх вачах – бацькі і сына Куляшовых. Доўга я не расказваў нікому пра гэту сустрэчу, сам не ведаю – чаму. А цяпер вось магу гаварыць пра яе.

Сам Аркадзь Аляксандравіч таксама не дэталізаваў свае сустрэчы з бацькамі, з іншымі блізкімі да сябе людзьмі, але вельмі ярка і вобразна расказаў пра іх у сваёй выдатнай паэме "Далёка да акіяна".

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

# "А ПРАЎДА ЎСЯ: ...КУЛЯШОВЫМ БЫЎ"

Са школьных гадоў запомнілася:

*Ёсць пад Старою Русаю*
*рускная вёска Лажыны*
*Там, нібы ў Беларусі,*
*і вербы растуць і рабіны.*

Ці гэтае:

*Іх вядуць па жытняй сцяжынцы.*
*Чатырох.*
*Пад канвоем.*
*З дому.*
*Чатырнаццаць – старэйшай дзяўчынцы,*
*Тры гады хлапчуку малому.*

А яшчэ:

*Цвёрда трымайся юнак на дапросе,*
*Тоячы словы і думкі свае.*
*Вораг-жандар дакурыў папяросу*
*І камсамольскі білет падае.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



І, вядома ж:

*Камуністы – гэта слова, як са сталі,*
*Камуністы – гэта слова, як з агню.*
*Маркс і Энгельс нам імя такое далі*
*Сто гадоў таму назад упершыню.*

Не сумняваюся, што кожны з майго пакалення, хто любіў урокі роднай літаратуры, не задумваючыся назаве гэтыя творы і адразу прыгадае аўтара. Ды і як не ўспомніць іх, калі яны ўваходзілі ў школьную праграму і ўсе мы мусілі завучваць іх на памяць. Але не толькі таму, што атрымалі такое заданне: паэзія А.Куляшова імпанавала, у ёй прысутнічала тая настраёвасць (і ідэйнасць таксама), якая была блізкая нам, выхаваным на лепшых прыкладах савецкага патрыятызму. Так, савецкага! Але хіба мужнасць, гераізм, адданасць – не агульначалавечыя паняцці? Хіба не скарыцца ворагу – не абараніць і сваю Беларусь ад яго? Пытанні больш чым рытарычныя. Асабліва калі прыняць пад увагу, што "сегодня новые песни придумала жизнь". А калі новыя "песні", дык і адпаведныя спевакі. І што самае цікавае, свайго роду "падказка" ідзе з Расіі, пра якую многія перапрацоўшчыкі школьных праграм і слухаць не хочуць. "Слухаць" дык не хочуць, а арыентуюцца. Калі там па-ранейшаму сумняваюцца ў геніяльнасці Міхаіла Шолахава, а ў праграме па рускай літаратуры для сярэдняй школы ці не фігура першай велічыні Анатоль Прыстаўкін, дык чаму б і не "выкінуць" нам Аркадзя Куляшова, а на яго месца паставіць... Каго – не буду ўдакладняць, бо ў маю задачу не ўваходзіць разбіраць вартасці і недахопы праграм па беларускай літаратуры, тым больш, што іх цяпер не адна, ёсць і альтэрнатыўная. Я пра А.Куляшова... І не ў абарону яго пішу – творцы такога рангу ў ёй не маюць патрэбы. Пройдзе яшчэ колькі гадоў, і ўсё стане на месца. "Бальшавікі" ад літаратуры – таксама з'ява часовая. Як і ў палітычным жыцці. Там нічога не атрымалася ад размахвання шабляй налева і направа, а тут – тым больш.

І ўсё ж пра бальшавізм у літаратуры, а калі канкрэтней – у нашым айчынным літаратуразнаўстве, – колькі слоў сказаць хочацца. Адразу прадчуваю, што тыя, хто "замахнуўся" на А.Куляшова ў школьнай праграме, прачытаўшы такое, рашуча запярэчаць: які яшчэ бальшавізм? Што ён вярзе?! Мы ж за нацыянальнае адраджэнне, мы за літаратуру, якая служыць высакароднай справе!

Уся бяда ў тым, што бальшавізм – гэта нават не прыверажанасць марксісцкай ідэі. Калі разабрацца, дык яе ў цэлым не адмаўлялі і меншавікі. Бальшавізм – гэта катэгарычнасць у дзеяннях і ўчынках, гэта – непрыманне чужой думкі. Нарэшце, бальшавізм – імкненне (у дадзеным выпадку ў літаратуры) абавязкова шукаць (і знаходзіць!) тое, што, нібыта, ідзе на шкоду той ідэі, якой прытрымліваецца бальшавік і якую, адпаведна, прапагандуе. І, зразуме-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ла, нават у думцы не дапусціць таго, што нехта можа, нехта асмеліўся думаць інакш, чым думае ён.

А цяпер вернемся да згаданых вершаў А.Куляшова. Самы "невыйгрышны" з агледзін сённяшняга дня, канечне, "Камуністы". Але ж ён – гісторыя літаратуры. І калі школьнікам яго неабавязкова ведаць, дык гэта не значыць, што яго трэба выкрэсліваць з нацыянальнага прыгожага пісьменства. Асабліва, калі прыняць пад увагу такое прызнанне самога паэта, якое, як сведчыць Аляксей Русецкі, прагучала на адным са сходаў Саюза пісьменнікаў, што праходзіў у 1956 годзе, пасля XX з'езда партыі, які развянчаў культ асобы Сталіна: "Мы былі шчырымі ў тым, што пісалі, бо наша свядомасць была абумоўлена грамадскай псіхалогіяй нашага часу". І верш "Камуністы" – таксама часцінка гэтага часу. Няўжо трэба даказваць гэта рэвалюцыянерам ад літаратуразнаўства?!

Але, Бог з імі, з "Камуністамі". Куды дзіўней, што такое непрыманне іншых, вышэй прыведзеных твораў. "Над брацкай магілай", мабыць, таму, што ўпамінаецца Расія, "Камсамольскі білет" – што праслаўляецца вернасць гэтаму самаму білету. Але ці толькі білету? Відаць, усё ж на першым плане – вернасць прысязе? Ды пра гэта будзе мажлівасць яшчэ пагаварыць ніжэй.

Застаецца "Балада аб чатырох заложніках"... Буду шчыры: у школе, калі завучваў гэты куляшоўскі твор на памяць, ніяк не мог зразумець учынку бацькі Міная. Тадышняя логіка мая працівілася сутнасці таго, што адбылося. Не хацелася пагадзіцца з думкай аўтара, які рабіў партызанскага камандзіра героем. Але так успрымаў я гэты верш у гады свайго юнацтва. Інакш і ўспрымаць яго не мог, бо, па-першае, яшчэ не навучыўся разбірацца, што ў паэзіі гучыць падтэкстава, а па-другое, выкладчык беларускай мовы і літаратуры не дапамог зразумець сапраўдны сэнс "Балады..." Цяпер жа маё стаўленне да твора іншае. Цяпер стаўленне такое, якім і павінна быць. У рэшце рэшт падказваюць яго заключныя радкі "Балады...":

*Перад бацькам Мінаем*
*Станьце ўсе бацькі на калені!*

Паэт далёкі ад думкі даваць адназначную ацэнку таму, што здарылася. Ён не асуджае бацьку Міная, але ён яго і не робіць у дадзеным выпадку героем. А.Куляшоў проста"перагарнуў" яшчэ адну старонку Вялікай Айчыннай вайны – найбольш трагічную, бо сутыкнуліся лёсы дзяцей і лёс іхняга бацькі. Сутыкнуліся не на карысць першых. Але тут не віна Міная, які сам стаў заложнікам абставін. Віна фашызму – чалавеканенавісніцкай тэорыі, што не шкадуе ні ў чым невінаватых дзяцей. І як супрацьлегласць фашызму – народная мараль, паводле якой старэйшы і дужэйшы заўсёды, наколькі магчыма, павінен

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



клапаціцца аб маладзейшым, а таму і слабейшым, больш безабаронным. І ў гэтым адно з праяўленняў сапраўднага гуманізму: хай табе балюча, невыносна цяжка, зрабі, каб у іншага боль, няхай і на імгненне, аслаб:

*Цётка дзецям, уклаўшы малога,*
*Кажа праўду пра лёс іх суровы.*
*Не павінен ведаць нічога*
*Толькі меншы – сын трохгадовы.*
*– Вы нічога яму не кажыце, –*
*Навучае дзяцей Міная.*

Увогуле, творы А.Куляшова ваеннай пары – не толькі ўслаўленне мужнасці, гераізму, хоць, безумоўна, ён звычайна на першым плане, а імкненне паэта разабрацца ва ўсёй складанасці рэалій таго часу. І гэта добра відаць нават з такога "нехрэстаматыйнага" верша, як "Млынар". Дарэчы, напісанага на самым пачатку вайны, у 1941 годзе. У гэтым творы таксама відавочны баладны пачатак:

*Моўчкі сумны млынар*
*развітаўся з сям'ёй, –*
*З жонкай, з сынам малодшым,*
*чацвёртым,*
*Згоды ў іх папытаўся, у хаце пустой*
*Сам застаўся з намерам найцвёрдым.*

Задумацца млынару ёсць над чым. Вайна, якая пачалася нечакана-негадана, перад кожным паставіла нязменнае ў такім выпадку пытанне: як быць далей. Тыя, каго прызвалі ў войска, пайшлі сплачваць доўг Радзіме. Тым, хто застаўся, самім усё вырашаць. І пакляўся млынар са сваім таварышам змагацца з ненавісным ворагам. Ды здрадзіў таварыш клятве ("уначы за сялом сустракаў // хлебам-соллю фашысцкія танкі"), а пасля выдаў старшыню сельсавета. Такога ўчынку млынар не мог дараваць нават найлепшаму сябру:

*Як пакінулі чорныя госці сяло,*
*У якім пагулялі нямала,*
*Выйшаў з жыта млынар,*
*што яго берагло,*
*Ад варожага вока хавала.*
*Сэрца білася ў грудзях,*
*як жорны ў млыне.*

*Падышоў к сельсавету.*
*Быў ранак.*
*Стрэльбай грукнуў у дзверы:*
*"Выходзь да мяне,*
*Гаспадар самазваны на ганак!"*

*Выйшаў з дому на кліч млынара*
*гаспадар,*
*Стаў хістаючыся ля паркана.*
*Плюнуў дымам млынар*
*І агнём яму ў твар,*
*Верны клятве, пайшоў у партызаны.*

Адбыўся самасуд – сумнявацца няма падстаў. Але зноў жа, як і ў "Баладзе аб чатырох заложніках", А.Куляшоў пакідае чытача сам-насам з думкамі, што абавязкова ўзнікнуць пасля знаёмства з вершам. Вядома, сёння яны адрозніваюцца ад "унутраных" развагтых, хто даведаўся пра гэтую гісторыю ў гады вайны. Тады сумненне ў правільнасці ўчынку млынара не ўзнікала. Ён зрабіў, як

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



зрабіў бы на яго месцы кожны, хто па-сапраўднаму любіў Радзіму. А сёння? Сёння можна паразважаць і над маральнасцю самасуду... Але, відаць, істотнейшая іншая выснова: і гэтым разам А.Куляшоў паказвае, наколькі вайна ставіць чалавека перад непазбежнасцю прымаць рашэнне, не разважаючы аб выніках. Сітуацыя ў "Млынара", можна сказаць, "быкаўская". Але, калі б пісалася апавяданне ці аповесць (зразумела, сёння), дык можна было б раставіць пэўныя акцэнты, заглыбляючыся ў псіхалогію абодвух бакоў. Верш такога права аўтару не дае. Асабліва верш, напісаны на пачатку вайны, калі не было часу разважаць, што маральна, а што не. Ворагу можна было супрацьстаяць не толькі мужнасцю, а і рашучасцю.

Сёння найбольш стрэлаў ад "перапісчыкаў" літаратуры трапляе ў куляшоўскі "Сцяг брыгады". Тут яны катэгарычныя: "Выкінуць са школьнай праграмы!" А чаму "выкінуць", лёгка здагадацца: сцяг жа, які ратавалі Алесь Рыбка і камісар Зарудны, – чырвоны. І няўцям гэтым непрымальнікам згаданага твора, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра чырвоны сцяг як палотнішча, якое заўсёды ўслаўлялі камуністы.

Сцяг у паэме – гэта сцяг вайсковай часці, сімвал вернасці прысязе. А без сцягу любое падраздзяленне нішто! У любым войску! У гітлераўскім, бэнээраўскім... І нават калі б свае армейскія адзінкі з'явіліся ў Беларускага народнага фронту, яны б таксама не абышліся без такога сімвалу. І згубіць сцяг, аддаць яго на ганьбаванне ворагу ў час баявых дзеянняў – найвышэйшае злачынства. Ні ў адной арміі таго, хто здзейсніў гэта, не памілуюць. Прысуд будзе самым суровым, што, як вядома, і здзейснілі Рыбка і камісар адносна Мікіты Ворчыка. І тое, што ён забыўся пра сцяг, які быў зашыты ў яго апратцы, Ворчыка ніколькі не апраўдвае. Як не магло б апраўдаць каго-небудзь іншага, хто б апынуўся на яго месцы.

Тады ў чым справа? Чаму "Сцяг брыгады" выкідваецца са школьнай праграмы па літаратуры? Магчыма, па сваіх мастацкіх вартасцях паэма не вартая таго, каб з ёй пазнаёміліся вучні? А хутчэй за ўсё ў мастацкіх якасцях і прычына. Проста "Сцяг брыгады", калі параўнаць гэты твор з некаторымі іншымі паэтычнымі "шэдэўрамі", якія настойліва прапануюцца для вывучэння, значна выйграе. Вось і атрымліваецца, што лепш гэтую паэму з праграмы выкрасліць, каб знайсці месца іншай, што, няхай і слабейшай, але напісана аўтарам, які сёння любіць заяўляць аб адданасці незалежнай Беларусі. Можна падумаць, што А.Куляшоў не быў за свабодную Беларусь!

Гаварыць пра літаратуру перыяду Вялікай Айчыннай вайны і не заўважаць "Сцяг брыгады", ці гаварыць пра гэты твор мімаходзь, тое самае, што амаль замоўчваць месцы ў "Палескай хроніцы" Івана Мележа, дзе га-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ворка ідзе пра калектывізацыю. Па той прычыне, што часам у ёй праблема адрывання селяніна ад зямлі вырашаецца не так, як гэта можна рабіць сёння. Аднак паставіцца так да мастакоўскай спадчыны І.Мележа нікому і ў галаву не прыйдзе. Чаму ж у такім разе выключэнне зроблена для А.Куляшова ды і для некаторых іншых паэтаў? Не кажучы пра празаікаў. Адгадку зноў жа трэба шукаць у "бальшавізме".

Страшна пасля ўсяго робіцца. Калі ўжо такі ГЕНІЙ, як А.Куляшоў, не прымаецца, дык што казаць пра іншых! Я ў дадзеным выпадку не маю на ўвазе аднаго-двух з нашых крытыкаў, хто цалкам закрэслівае літаратуру, створаную за сем дзесяцігоддзяў, толькі таму, што яна савецкая. З імі прасцей, чым падаецца. Найлепшы спосаб звярнуць на сябе ўвагу... Я пра тых, хто мае дачыненне да складання школьных праграм па літаратуры...

У той жа час я далёкі ад думкі, што ў творчасці А.Куляшова ўсё раўназначна. Тычыцца гэта і паэмаў, якіх ім напісана каля дваццаці. Сёе-тое выпрабавання часам не вытрымала. Да прыкладу, "Грозная пушча", якая яшчэ нядаўна так высока ацэньвалася. Усё ж у гэтым творы, а ён, як вядома, дылогія, складаецца з дзвюх паэтычных аповясцяў (па аўтарскім вызначэнні жанра) – "Стрэчны агонь" і "Грозная пушча", ёсць і даніна часу, у якім дзейнічалі галоўныя героі. Найперш, у сюжэтным вырашэнні, а паводле сюжэта ў пачатку 30-х гадоў кулак Сцяпан, пакінуўшы жонку Паліну з дачкой, збег за мяжу. І вось ён вяртаецца ў родныя мясціны агентам варожай контрразведкі, а прасцей кажучы – дыверсантам...

Але ж А.Куляшоў напісаў і драматычную паэму "Хамуціус". Да яго ніхто так глыбока не спасцігнуў вобраз Кастуся Каліноўскага. Нягледзячы, што ў "Хамуціусе" Аркадзь Аляксандравіч па сутнасці ўпершыню так глыбока і шырока разглядае адну з найбольш значных старонак нацыянальнай гісторыі, ён вельмі ўдала справіўся з гэтым. Шмат дапамагло тое, што А.Куляшоў абапіраўся на вопыт прадстаўнікоў вяршаванай драматургіі, якія ў гэтым жанры з'яўляюцца прызнанымі аўтарытэтамі і майстрамі. Нельга не ўспомніць імёны Шэкспіра, Гётэ, Шылера, Пушкіна з яго "Барысам Гадуновым". Але наследаванне лепшым сусветным традыцыям не перашкодзіла аўтару "Хамуціуса" застацца арыгінальным творцам, для якога лёс роднага народа, сатканы з лёсаў яго лепшых сыноў, дае падставы задумацца і над тым, як жыць чалавецтву далей.

Паэма, адлюстроўваючы канкрэтныя падзеі, расказваючы пра рэальных людзей, скіравана і ў будучыню, а тое, дзеля чаго змагаюцца Каліноўскі і яго паплечнікі, набывае абагульняючы сэнс. І сам Каліноўскі разумее, што яго справа знойдзе водгалас у стагоддзях. Гэта відаць з яго размовы з веставым-паўстанцам.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Веставы:

*Галубоў*
*Паштовых з данясеннем ад разведкі*
*Час, мусіць, выпускаць на волю з клеткі?*
*З атрадам так умоўлена было.*

Каліноўскі:

*Спяшайся, пакуль сонца не зайшло*
*За край зямлі, а шчасце за палеткі*
*Не адышло раптоўна ў змрочны цень.*
*Спяшайся! Вестка даляцець павінна*
*Да берага таго, дзе трэці дзень*
*Надзеі нашы косіць страляніна.*
*Героі там! Атрад перадавы*
*Гісторыі.* (выдзелена мною – *А.М.*)
*Спяшайся, веставы.*
*Атрад чакае!*

Напісаў А.Куляшоў і такія непаўторныя паэмы, як "Далёка да акіяна", "Цунамі", "Варшаўскі шлях", кожная з якіх узор найвышэйшага майстэрства. На жаль, падрабязней пагаварыць пра іх не дазваляе памер артыкула, ды хочацца сказаць хоць колькі слоў пра лепшыя вершы з такіх зборнікаў, як "Новая кніга", "Сасна і бяроза" і "Хуткасць", якая стала для паэта апошняй прыжыццёвай. З іх відаць, наколькі А.Куляшоў чуйна прыслухоўваўся да часу. Але гэта выяўлялася не ў аператыўным рэагаванні на пэўныя падзеі ці юбілеі (чаго-чаго, а "датных" твораў ён ніколі не пісаў, выключэнне хіба "Камуністы"), а ў жаданні спасцігнуць сам сэнс іх, а яшчэ, зірнуўшы ў перспектыву, прадугадаць магчымыя шляхі развіцця чалавецтва.

Паэзія А.Куляшова набывала касмічны размах, што бачна з верша "Сама зямля не вечна...". Гэты твор напісаны ў 1962 годзе, калі пачаліся першыя касмічныя палёты, а на Марсе астраномы знайшлі каналы, якія, здавалася, зроблены штучна. Паэт верыў, што і ў гэтым, як на першы погляд, безвыходным становішчы, можна знайсці выйсце:

*Сама Зямля не вечна – час даводзіць.*
*Хай будзе так! А хіба маладых*
*Планет няма?*
*Хто людзям перашкодзіць*
*На схіле дзён сваіх наведаць іх?*

*Напэўна, там з пячораў жыхарамі*
*Спатканне новы лёс наладзіць нам –*
*Не грознымі багамі дзікунам*
*Мы будзем, а старэйшымі братамі.*

Годам раней быў напісаны верш "Пра Марс". У ім А.Куляшоў адштурхоўваецца ад каналаў, адкрытых на Марсе: "Не жывуць на Марсе марсіяне, // Працай рук не жывяць дол глухі, // Марс даўно іх у сваім кургане // Пахаваў за нейкія грахі". А тое, што зроблена імі, засталося. А яшчэ "горы пылу над планетай носяць радыёактыўныя смярчы...". І тут паэтава думка робіць нечаканы паварот, з'яўляецца як бы праекцыя на Зямлю. І ўжо не мы, зямляне, гатовы ратаваць жыхароў іншых планет, у ролі такіх выратавальнікаў выступаюць марсіяне, а каналы, што засталіся пасля іх, нібы робяць сваю добрую справу:



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*Можа, сапраўды іх існаванне*
*Больш патрэбна для планет другіх.*
*Неўміручай працай рук сваіх*
*Нас засцерагаюць марсіяне*
*Ад бяды, што не мінула іх?*

Мастацкі домысел? Як быццам і так. Аднак у той жа час яшчэ не даказана, ці жылі калі-небудзь разумныя істоты на Марсе. Ды куды важней у вершы разуменне А.Куляшовым, што Сусвет жыве па адных законах. Дарэчы, тое, што выказаў А.Куляшоў у 1961 годзе, па сутнасці было сказана яшчэ ў... 1919 годзе. І не кім-небудзь, а заснавальнікам геліябіялогіі, Леанарда да Вінчы XX стагоддзя, як называлі яго, Аляксандрам Чыжэўскім. Між іншым, нашым земляком – нарадзіўся Аляксандр Леанідавіч 7 лютага 1897 года ў Цеханаўцу былой Гродзенскай губерні (памёр у 1964 годзе). А.Чыжэўскі першым даказаў, наколькі глабальнае ўздзеянне Сонца на ўсё жывое на Зямлі і як гэта адбіваецца на паводзінах і асобных людзей, і цэлых народаў. Да ўсяго ён пісаў вершы, маляваў карціны. А вершу А.Куляшова "Пра Марс" тэматычна блізка "Тождество мира" А.Чыжэўскага:

*Там, в бесконечности миров*
*Есть жизнь, есть звери, гады, люди,*
*У коих бьётся сердце в груди...*
*За это спорить я готов!*

*О, целый мир грядет из тьмы –*
*Непостижим, но познаваем,*
*И если мыслят марсияне,*
*То они мыслят, как и мы.*

Аркадзь Куляшоў, несумненна, верша "Тождество мира" не чытаў, але, як бачым, глядзеў на сусвет не толькі як паэт... Ды і меў вялікага папярэдніка ў спасціжэнні касмічнай сутнасці – М.Багдановіча, які ў 1915 годзе напісаў радкі, што сёння сталі хрэстаматыйнымі: "...усе мы разам ляцім да зор..."

А які вялікі сэнс у вершы А.Куляшова "Сасна і бяроза", як па-свойму паэтам вырашаецца спаконвечная тэма жыцця і смерці. І зноў жа ў маштабе ўсёй планеты:

*Трымаюць Зямлю без падвіжнікаў тых,*
*Без мудрага троса,*
*Жывымі рукамі карэнняў сваіх*
*Сасна і бяроза.*

*Над імі ракетны ўзрываецца гук*
*І гул бамбавоза...*
*А што, як Зямлю нашу выпусцяць з рук*
*Сасна і бяроза?*

Паэт востра адчуваў прыналежнасць да дваццатага стагоддзя, багатага на адкрыцці і добрыя пачынанні, але разам з тым складанага, непрадказальнага:

*Мне кожны год, нібы жыццём другім,*
*Жыць у дваццаты век наш давялося...*
*Я – акіяну жытняга калоссе:*
*Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,*
*Яшчэ да дна не вычарпаным лёсе.*

Пімен Панчанка трапна назваў паэзію свайго таварыша і сабрата па пяру "духоўнай энцыклапедыяй... пакалення". А пакаленню,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



да якога належалі і сам Пімен Емельянавіч, і А.Куляшоў, і іншыя творцы, лёсам было наканавана шмат узяць на свае плечы. І гэты цяжар пастаянна даваў знаць. Было, канечне, прызнанне, былі ўзнагароды, але і не адпускалі хваробы, якія спадарожнічалі ці не ўсё жыццё. Немач не мінула Аркадзя Аляксандравіча. Ды змагаўся да апошняга:

*Пашанцавала тройчы мне,*
*Я тройчы, выпрастаўшы рукі,*
*Ляжаў не ў ложку, а ў труне...*
*Я знаю, што такое мукі.*

*Пішу: я, сведка ўсіх падзей,*
*Сірочых слёз, вайны, разлукі,*
*Жадаю шчасця для людзей...*
*Я знаю, што такое мукі.*

“Жадаць шчасця для людзей” – гэта не паэтычны ход, не звычайная поклічная дэкларатыўнасць лірычнага героя. Гэта душэўная норма А.Куляшова. І яго самога, і ягонай паэзіі. Дакладна наконт гэтага сказаў у вершы “Лицо друга” Кайсын Куліеў:

*Бывали дни и добрые и злые,*
*Но зло не лилось с твоего пера,*
*Чтоб ни было, во времена любые*
*Была твоя поэзия добра.*

**(Пераклад з балкарскай Навума Грэбнева)**

Сумнявацца ў значнасці напісанага А.Куляшовым – няўдзячная справа. І “прэпарыраваць” ягоную творчасць – свядома сумнявацца ў яго таленце. Я, вядома, маю на ўвазе не асобныя вершы, у той ці іншай ступені, прысвечаныя Сталіну, – хто іх не пісаў?! Я маю на ўвазе паэзію А.Куляшова як агромністы мацярык. На ім, як быццам, усё знаёма і даўно адкрыта, але кожнаму новаму пакаленню чытачоў ёсць тут што рабіць. Заглыбляючыся ў радовішчы вобразаў, думак, пачуццяў.

І яшчэ пра адно нельга не сказаць. Родныя мясціны Аркадзя Аляксандравіча – сумежжа Беларусі і Расіі. І гэтая мясцовасць да 1924 года ўваходзіла ў склад Расійскай Федэрацыі. А свае першыя вершы А.Куляшоў пачаў пісаць па-руску. Ды не забыў родную мову, вярнуўся да яе. І гэта таксама быў учынак. Грамадзянскі ўчынак.

Завяршыць гэтыя развагі пра творчасць аднаго з самых выдатных нашых паэтаў хочацца радкамі. Панчанка:

*Цяжкім ты пры жыцці быў*
*ці інакшым,*
*Каго ты не любіў,*
*Каго любіў, –*
*Пачнуць хлусіць*
*Мемуарысты нашы...*
*А праўда ўся:*
*Ты Куляшовым быў.*

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





## Андрэй МАЗЬКО

### ПЕРАСЦЯРОГА

Колькі тут ні майся,
Пойдзе ўсё не так.
Колькі ні старайся,
Ды заўжды бядняк.

Як ні маладзіся,
Старасць не міне.
Як тут ні круціся,
Хтосьці падмане.

Колькі ні спяшайся,
Не паспееш зноў.
Колькі ні кахайся,
Скончыцца любоў.

Колькі ні лаўчыся,
А здабыткі – дым.
Колькі ні вучыся,
А памрэш дурным...

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





# Галіна БУЛЫКА

*Зярнятка на заснежаным абрусе –*
*Сышліся ў кропку неба і зямля.*
*Вяртаецца з Эдэму чорны бусел.*
*Маўчыць у дзюбе белая змяя.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Каралеўскі батанік

*Расліны здольныя пераўтвараць у каштоўныя металы іншыя элементы. Механізм працэсу спазнаць не ўдаецца.*
**З навукова-папулярнага дайджэсту**

На заходняе сонца
насунуўся месяц паўкружжам –
Так за кветкамі ў полі
цікуюць сляпыя сярпы.
Па бязмежнай Еўропе
блукаюць лілеі і ружы,
Ім насустрач
бялеюць абапал дарог
чарапы.

Заклінае вядзьмарка
сухую галінку вербены.
Мандрагораў ваўчыныя зрэнкі
ля ратуш гараць.
У вячэрняй расінцы
люструецца час вокамгненны,
Ды ўжо вочы не бачаць,
якое каменне збіраць.

Па лістоце бягуць
вадзяныя зялёныя знакі,
Паўтарае прырода
рэцэпты твае
рыхт у рыхт.
Ды вышэй ад мастацтва
чырвонага золата макі,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Што кідаюць на вецер
насенны драбнюсенькі шрыфт.

Перавееццa шлях.
У гербарый збяруцца спажыткі,
Каб у лёткай раслiннай душы
назаўжды зберагчы
Успамін пра каханне,
бялюткі, як цень маргарыткі,
I пранізліва-сумны,
як водар матэйкі
ўначы.

## Еўропа

Акіянскія хвалі чакаюць патопу.
Атлантычная мроя з бяздоні ілжэ.
Прыцiскае да сэрца дачушку Еўропа.
Пераправу ставокі тайфун сцеражэ.

Каўтункі залатых і сярэбраных рунаў
Непрыкметна сплятаюцца ў ночы і дні.
Калыханка блукае ў эолавых струнах
І баіцца згубіцца ў нямой глыбіні.

А малая
ў далоньках растопіць ільдзінку,
Пену вогкую ў прадзіва крута саўе,
І заўважыць на маміным твары
радзімку,
І захоча, бязмысная, сцерці яе.

## Ева

Настане час прад вечнасцю панурай.
У райскім садзе будзе недарод.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



На дол спаўзе лісцё змяінай скурай.
Праявіцца на дрэве цёмны плод.

Пацягнешся дрыготкаю рукою –
Ні Ён цябе ні спыніць, ні Адам...
А яблык
са здранцвелага спакою
Ўпадзе і разаб'ецца напалам.

Ты падбярэш іржавую палову,
Сагрэеш заркаватае нутро,
А ў ім – пяць кніг,
Пяць светлых ран Хрыстовых
І пяць вятроў.
Дзе зло
і дзе дабро?

Зярнятка на заснежаным абрусе –
Сышліся ў кропку неба і зямля.
Вяртаецца з Эдэму чорны бусел.
Маўчыць у дзюбе белая змяя.

## Босхаў карабель

Раку спынілі ля вытокаў.
Пяць соцен год стаіць яна,
І ёй, заглухлай ад сурокаў,
Няма ні накрыўкі, ні дна.

Над плынню птушкі і аблокі
Цякуць у вырай залаты.
Пад плынню біты шлях шырокі
Злучае вежы і масты.

А на паверхні каламутнай
Адлюстраванне карабля.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Крык рвецца са струною лютні
І захлынаецца: “Зямля!”

Сцяг супраць ветру:
збілі з тропу
Павевы міру і вайны.
У абяцаную Еўропу
Кіруюць блудныя сыны.

## Матэрыя

Ты ляжыш пад нагамі вятроў,
З-за аблокаў
спускаешся вадка,
Ты віруеш у нетрах муроў
Доўгім водгуллем
іншых парадкаў.

Незлічонасць абліччаў тваіх
Не знаходзіць імён адмысловых –
Прыхавалася ў попеле кніг
Дасусветнае
творнае
Слова.

І пад жорсткай
рамеснай рукой
Ты кладзешся ў абрысы крывыя
З ціхай марай
пра вечны спакой
Ды пра хуткасці
звышсветлавыя.

## Паветра

Безназоўная зорка танцуе на шары.
Па нябачных прасторах плывуць
караблі.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



За дажджамі снягі,
За аблокамі – хмары
Абцякаюць
нябеснае цела Зямлі.

У скразной раўнавазе між пеклам
і раем
Выпрабоўваюць крылы
вятры і арлы.
У бутэльцы
палонены дух памірае
Пад васковай пячаткай з выявай
пчалы.

А калі набліжаецца час кажановы,
Сон прыходзіць да кветкі.
Прарочы?
Пусты?..
Дрэмле завязь.
Пялёсткі – блакітнай аховай
На парозе сусветнай п'янкой
пекнаты.

## Вада

Зраўняліся глыбіні з берагамі,
Гандлёвы шлях засыпала луска,
Дзявочыя вянкі сышлі кругамі
І раску мнішкі
прыняла рака.

Куды ж яна той вечны рух падзела,
Які расточваў плыні ды ільды,
Калі на алтары водападзела
Развязваўся крыштальны пуп вады?

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Сплывалі крыгі ў тры далёкіх моры.
Трывожна пазіраў з нябёсаў
Ной.

Вялікія крывіцкія азёры
Сыходзілі вяльможнаю крывёй.

## Тое, што застаецца

Ліпяць на хвалі гарады.
Плывуць у кошыках Майсеі.
Хавае кветкі і плады
Вада
пад векацерпным глеем.

Агонь да берага прыстаў,
У зорку
погляд утаропіў.
Адлюстраваўся ў небе
стаў,
Ператварыў свяцілы
ў попел.

Павевы восені змялі
Вясёлку
з матыльковых крылаў –
На паўдарозе да зямлі
Пылок змяшаўся
з шэрым пылам.

Не залізаўшы дымных ран,
Сабака
паляцеў па следу.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



У край, дзе зданіцца туман,
Нясе каханне
Андрамеду.

Айчынны дым і нільскі глей,
Пампеяў попелы глухія...
На пыльным шляху ўсё далей
Ападкі чатырох стыхіяў.

## Колеры

Чырвоная гліна і чорная слота.
Іржавая восень вяртаецца зноў.
Пад белай смугой пасівела балота,
Счакаўшыся божых крылатых
сыноў.

У шчылкіх нябёсах
дарогі ніякай.
Вандруе з пралётнай чужой чарадой
Бялюткая птушка з чырвонай
пазнакай –
І цень праплывае
пад сіняй вадой.

## Тры эцюды Вялікага Досведу

### *Досвед у чорным*

Нябачная поўня на небе ўзышла.
На срэбных палянах даспела чарніца.
У дрэўным ствале скрамянела смала.
На мёртвай зямлі скамянелаігліца.

Акрэсліўся ў змроку крылаты абрыс.
З гнязда крумкачовае яйка ўзляцела.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Пякельнаю знічкай абрынула ўніз
Душа,
пер态літая ў смертнае цела.

Каваныя з чорных металаў ключы
Паснулі ў клубках варажбіцкае воўны.
Блукае ў глухім лабірынце начы
За цемру цямнейшая
постаць Князёўны.

У мораку ёй вандраваць да пары,
Пакуль чарнабожая сіла не знішчыць
Звуглелае кола на лысай гары
І чорную кнігу на пыльным гарышчы.

## Досвед у белым

Я ўваскрэсну.
З бялёсага попелу чорнай травы,
З мармуровага пылу
апошняй гатычнай лілеі,
З адлюстроўка ўчарашняга
ў воку бяльматай савы
Прывід позняй надзеі маёй
вінавата бялее.

У сівым павуцінні
гайдаецца леташні сон.
Расцякаецца белая вежа
ў балотным тумане.
Два іртутныя перлы,
Мае нараджэнне і скон,
На бясконцым ружанцавым крузе
Чакаюць спаткання.

Скрозь пячатку
ўплывае ў рэторту цяжкое святло –

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Ад сусвету хаваецца
ў перастварэнні цялесным.
Пад аморфным ападкам дабра
Зачыняецца зло
І алмазнаю гранню
скрыгоча на шкле:
"Уваскрэсну".

## Досвед у чырвоным

Палала цэгла. Падалі амбоны,
Язычылі малітвамі да хмар.
Рубіны выплаўляліся з кароны,
І з абразоў злятала кінавар.

Мячы луналі ў дыме пурпуровым.
Ускрыльвалі пунсовыя сцягі.
Паганілі барвовыя падковы
Крывым таўром
святыя берагі.

А ў ноч
прыпала вежа
да падмурка.
І з папялістай страшнай нематы
Крывінка неба – божая казюрка
Спусцілася на прысак залаты.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





# Алесь АСТАШОНАК

*Бо спазнаў ён, як я адчуваў,*
*нешта такое,*
*што мала каму ўдаецца ўведаць.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Нататкі сумесніка

*"Можаш не пісаць – не пішы", здаецца, прыблізна так сказаў некалі Леў Мікалаевіч Талстой.*

Вось я і не пішу. Гады ўжо тры амаль не пішу, калі не лічыць дзённіка, а па вялікім рахунку – дык усе пяць. Бо магу не пісаць. Адчуваю, што ўмею яшчэ пісаць на нейкім там дапушчальным узроўні, іншым разам здаецца, умею не так ужо і блага, але вось магу не пісаць — і ўсё. Шкада часам робіцца, што не пішу. Бывае, чую выразна, засталося яшчэ ў мяне пачуццё душы чалавечай і слова, якім пачуццё гэтае можна, у меру сціплых мажлівасцяў гэтага майго слова, выказаць дзеля нейкіх іншых людзей, адно ж...

Мне здаецца, што калі пісьменнікі прыходзяць да такіх формаў самавыказу, як "Ні дня без радка" Алешы, мініяцюры Брыля, "Зацемкі з левай кішэні" Галубовіча, тое, што зрэдзьчас цяпер спрабую рабіць я ў "Нататках сумесніка", дык гэта сведчанне не толькі пасталення, набыцця мудрасці, прыходу да, скажам так, здаровага скепсісу, але і пэўнай страты чагосьці сапраўднага пісьменніцкага.

Анатоль Сідарэвіч колісь катэгарычна сцвярджаў, што гэта нешта накшталт самапрысуду, асабліва ў выпадку з адносна маладымі пісьменнікамі.

Аднак мяркую, што адносна вышэй пералічаных, дык гэта не зусім так, за выняткам – не пабаюся гэтага слова — трагедыі Юрыя Алешы.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



У Галубовіча дык гэта нават прагрэс — арганічна ўдалы пераход з аднаго жанру ў другі. Я ўвогуле лічу: лепшае, што я чытаў у жанры, пра які цяпер разважаю, — запісы Алешы і Галубовіча. Вось так вось. Не смейцеся.

Валодзя Ягоўдзік расказваў: Міхась Лявонавіч Стральцоў, вечная яму памяць, прызнаўся ў адказ на ягонае пытанне, зададзенае сам-насам: "Чаму не пішаце прозу, дзядзька Міхась?" — "Нешта душа нічога не чуе". Ціха так сказаў, неяк змоўчана, хоць і прамовіў словы, — гэта кожны разумее, хто хоць крыху быў знаёмы з нябожчыкам і ведаў ягоныя тонкасць, інтэлігентнасць, прыцішанасць.

А можа, за гэтай ягонай заўсёднай ураўнаважанасцю стаяла вечная бура ў душы?

Так яно, відаць, і было. Душа ягоная, мабыць, дужа неспакойная была. Проста ён, чалавек вялікай культуры, і ўнутранай, ад нараджэння, і набытай, ад выхавання ды адукацыі, мог валодаць сабою і нават у самыя горкія, цяжкія, драматычныя перыяды свайго жыцця трымаўся вонкава адстароненым ад мітусні, унутрана заглыбленым, ніколі не раздзяваў душу сваю, каб выплакаць бяду, а бяда ж у яго, пэўна, была немалая, дый не адна.

Зноў памыліўся я ў слове. Не валодаў сабою Міхась Лявонавіч, а быў такі заўсёды. Гэта было ягонае арганічнае натуральнае існаванне. Нават нападпітку. Ён мог прамаўляць тады не самыя разумныя словы, аднак сціпласць яго ніколі не пакідала. І, мне здаецца, ён заўсёды, у любым стане, быў сам з сабою, сам-насам.

Бо спазнаў ён, як я адчуваў, нешта такое, што мала каму ўдаецца ўведаць.

Я і наконт сябе ўжыў няправільны выраз: у "Нататках сумесніка" я не спрабую штось рабіць — яны нараджаюцца ў мяне самі сабою, я ніколі не сядаю за стол, каб нешта

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



напісаць, адно запісваю тое, што чамусьці раптам прыйшло ў галаву.

Уяўляю сабе Галубовіча, які сядае за стол, налівае сабе сваю заўсёдную ўлюбёную каву, закурвае і чухае патыліцу: што ж зараз выкласці з левай кішэні?

Моладзь нашая, беларуская, літаратурная, здаецца мне, — дай Бог, каб я памыляўся! — ужо не надта ведае Стральцова.

Мінае час, прыходзяць іншыя героі.

Камусьці з зацятых "нізвяргальнікаў" Стральцоў можа здацца крыху старамодным: надта ўжо мала ў ім авангардызму, хоць як для таго часу, калі Міхась Лявонавіч пісаў прозу, а былі гэта перадусім 60-я гады, дык ён быў самым што ні ёсць авангардыстам, і ў нашай беларускай, і ўвогуле ва ўсёй савецкай прозе.

Яго чытаў па-расейску мой добры сябра і адмысловы навеліст, мерны авангардыст эстонец Яан Круусваал, на дзесяць гадоў ад мяне старэйшы, і быў захоплены. "Я не ведаў, – напісаў ён мне, – што ў вас ёсць такі тонкі, еўрапейскі пісьменнік".

А што датычыць нашых авангардыстаў — раздражняе мяне гэтае слова, але ўсё-такі буду яго ўжываць, — то, мяркую, такія з іх, як апалагет "сучаснай літаратуры" Адам Глобус, навелы якога я, дарэчы, вельмі люблю і лічу тонкімі, шчыра любіць прозу Стральцова і высока яе ставіць.

Але ж, вядома, не ў памянёным запатрабаваным часам мерным авангардызме Стральцова справа: пісьмо Міхася Лявонавіча мае характар вечны, гэта класічная традыцыя як беларускае, так і рускае літаратуры, на якую ён — гэта па ўсім адчуваецца — (згадаем адно "Адзін лапаць, адзін

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



чунь”, “Смаленне вепрука”, “Загадку Багдановіча”, лепшыя вершы) не саромеўся праз сваю беларускасць арыентавацца ў пошуках лепшых прыёмаў, настрояў, толькі традыцыя гэтая ў яго спакваля, з улікам зменаў у душах людзей і ў ладзе пісьма, абнаўляецца, і робіцца гэта настолькі тонка, што адразу, позіркам павярхоўным, і не прыкмеціш гэтых паступовых прыходаў навацый.

Пасля “Загадкі Багдановіча”, выдатнейшага твора, вызначыць жанр якога мне здаецца немажлівым, — не выпадкова ж сам аўтар не зрабіў аніякага вызначэння: так, загадка, і ўсё, — бо гэта і крытыка, і літаратуразнаўства, і эсэістыка, і проза, — пасля гэтага шэдэўра, напісанага ў 1967—1968 гадох, Стральцоў маўчаў як празаік аж да 1973 года, калі раптам выдаў — але, але, выдаў – тут гэта дужа трапнае слова – выдаў у сэнсе “падарыў” — “Смаленне вепрука”, гэты, як на маё глыбокае перакананне, дык недасяжны ўзор беларускага прыгожага пісьменства, твор генія, твор, што пісаўся рукою, якою Бог вадзіў.

Бо ў ім вялікая тайна ёсць.

Перачытайце яго. Ці прачытайце. Узбагаціцеся.

Колькі я “Смаленне...” ні перачытваю, а рабіў я гэта ўжо дзесяткі разоў, заўсёды апанаваны магіяй не толькі адухоўленасці, прасветленасці, геніяльнасці, але і вялікае таямнічасці.

“Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг”, — так заканчваецца “Смаленне...”.

Анатоль Сідарэвіч неяк трапна, мяркую, заўважыў, як ішлі за ім па парку і гаварылі пра Стральцова, што “Смаленнем...” ён накрэсліў-закончыў свой круг, і гэтая ягоная апошняя дуга – дадаю ўжо я — праява боскасці.

Многім маладым літаратарам сёння імя Анатоля Сіда-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



рэвіча амаль нічога не скажа ці ўвогуле не скажа нічога: надта доўга ён маўчаў.

А ў свой час ён быў для генерацыі маладых літаратараў 1950-х і часткова 1960-х гадоў нараджэння апосталам, ідалам — калі хочаце. Ён апекаваў гэтае пакаленне. Сідарэвіч увогуле "шорах наводзіў". Імя гэтага абуральніка спакою проста грымела, а багата каго прыводзіла ў шал. А як часта мяняў ён, так бы мовіць, скуру, рэзка кідаючы адну "заслупленую" тэматыку і звяртаючыся да другой. І раптам — бах! — змоўк. Гэта цалкам у ягоным непаўторным стылі. Калі зноў, як раней, загаворыць?

Пакуль маўчыць, пагартайце, маладзейшыя, як знойдзеце час, падшыўкі "ЛіМа" 80-х гадоў. Падзівіцеся.

А пачынаў "Вісарыён" (так яго многія звалі за спінаю, па асацыяцыі з Бялінскім) з апавяданняў і абяцаў вырасці ў неблагога празаіка.

Я не буду ўражаны, калі раптам Сідарэвіч напіша трагедыю белым вершам ці ўвогуле звернецца да оперных лібрэта.

Стральцоў у беларускай прозе — мой кумір. Я яго абагаўляю, тым больш што хоць і кароткі час, але быў блізка з ім знаёмы і адчуваў з ягонага боку да сябе прыязнае стаўленне.

Хоць, па вялікім рахунку, адметнае прозы, вышэйшага кшталту, ён напісаў не так ужо і шмат, можна сказаць, мала: памянёныя тут тры творы — "Смаленне вепрука", "Адзін лапаць, адзін чунь", "Загадка Багдановіча". Да іх можна яшчэ дадаць, але, пэўна, у другую чаргу, "На чацвёртым годзе вайны", "Свет Іванавіч, былы донжуан" і маленечкі, на паўкніжнае старонкі, "Роздум". Небагата, як для ўладальнікаў збораў твораў. Але якія гэта залатыя пясчынкі не такіх ужо і, будзем шчырыя, шматлікіх беларускіх празаічных скарбаў.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Уладзік Рубанаў у сваіх нататніках, якія я нядаўна падрыхтаваў да друку, запісаў:

“Некаторыя мае равеснікі ўсяляк імкнуцца падкрэсліць ледзь не сваё панібрацтва з аўтарытэтамі. Л. Дранько-Майсюк, А. Асташонак спасылаюцца часта на М. Стральцова. Думаю, што нечага хлопцам нестае, не дабіраюць, чаго ім хацелася б”.

Я мала калі не згаджаўся з Уладзіславам, гэтым дужа глыбокім, назіральным чалавекам: ён вельмі тонка і трапна шмат што падмячаў. Аднак з гэтым меркаваннем я катэгарычна нязгодны. Па-першае, няма тут аніякага пані-брацтва — гэта вялікая пашана. Па-другое, не пішу ж я пра свае стасункі з Уладзімірам Караткевічам, які благаслаўляў маю першую п’есу, ці з Алесем Адамовічам, які ўвогуле напісаў слова да майго зборніка апавяданняў (чаго амаль ніколі не рабіў), да публікацыі майго апавядання ў Маскве і запрашаў да сябе ў аспірантуру, — не пішу, бо, пры ўсёй маёй глыбокай да гэтых выдатных людзей ды пісьменнікаў пашане і ўдзячнасці, не было тае ступені душэўнае блізкасці, роднасці і, насмелюся нават сказаць, тоеснасці, як з Міхасём Лявонавічам Стральцовым, які нічога мне не пісаў і нікуды мяне не запрашаў.

Лёня Дранько-Майсюк у нашых гаворках пра Стральцова заўсёды казаў, што вельмі недаацэненыя ягоныя вершы і што іхні сапраўдны час яшчэ прыйдзе.

Нават такі глыбокі крытык, як Алесь Адамовіч, калі меркаваць па ягонай прадмове да “Выбранага” Стральцова, не разгледзеў як след гэтыя вершы празаіка, у якіх празаіка не адчуваецца.

Паэты часта прыходзяць да прозы. Аднак вельмі рэдка — празаікі да паэзіі. І тут — яшчэ адна загадка Стральцова.

За некалькі дзён да смерці Міхась Лявонавіч сніў, што піша са мною п’есу.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Ніколі не забудуся на гэта як на яскравы факт маёй біяграфіі.

Па тонкасці сваёй, па багацці, і душэўным, і моўным, па адметнасці, наватарстве, непрыстасаванстве — з пісьменнікаў, якія ўзняліся ў 60-х гадох, – ярка бачыцца мне яшчэ Вячаслаў Адамчык. “Кароль Нябожа”, “Дзікі голуб”, “Раяль з адламаным вечкам” ды яшчэ некаторыя апавяданні ўпрыгожылі б любую літаратуру свету, а ўва многіх сталі б непераўзыдзенымі шэдэўрамі.

Мы мала ўмеем цаніць сваё.

Не выпадкова ж “Караля Нябожу” надрукавалі ў свой час у “Новом мире” — факт дужа рэдкі як для беларускага, так увогуле для нерускамоўнага пісьменніка.

Мова, мова якая! Мудрасць, сцішанасць, спакой — і боль, боль, боль!

Да таго ж, выдатнаму навелісту Адамчыку ўдаўся яшчэ і раман — “Чужая бацькаўшчына”. Гэта добра засведчыў зняты Валерыем Рыбаравым паводле гэтага твора фільм: толькі на літаратуры вышэйшага кшталту можна было стварыць кіно, ад якога патыхае лепшымі традыцыямі вялікага італьянскага неарэалізму, але ж у выразным беларускім духу, які мала каму ўдавалася “ўлавіць” у кіно.

А яшчэ Вячаславу Адамчыку ўдаліся сыны.

Небагата ў каго з беларускіх пісьменнікаў дзеці альбо ўнукі прыйшлі ў літаратуру.

А ўжо сярод іх я адзначыў бы Міраслава Шайбака, які няблага пачынаў і чамусьці змоўк, Святаслава Макаля, Максіма Клімковіча і, вядома, асабліва Адама Глобуса. Ягоныя апавяданні маглі мне падабацца — што часцей, не падабацца, але заўсёды прыцягвалі ўвагу, і я аніводнага не прапусціў — ад Глобуса заўсёды нечага чакаеш: а раптам як выбухне? Выбухі ў яго былі — і яшчэ якія.

Маці Валодзі й Мірыка, Ніна Уладзіміраўна, таксама мусіць быць шчасліваю.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Раманы ў нас мала каму ўдаваліся. Анталогій навел, збораў, якія б месцілі ў сабе сапраўдныя шэдэўры, вялікія і малыя, можна некалькі скласці — гэта маё глыбокае перакананне; адно з тых, хто пісаў у 60—90-я гады, можна назваць сама меней дзесятка паўтара аўтараў, якія хоць раз трымалі асадку ў руках, натхнёныя Боскім подыхам, а вось што датычыць раманаў, дык тут у нас сапраўдны недахоп. Іх процьма, можна сказаць безліч, але...

Раманісты ўбачаць у гэтай заяве адно напад літаратара, што сам з нейкіх там прычынаў (якіх – гэта нікога ў прынцыпе не цікавіць: галоўнае ў пісьменніка не біяграфія, а бібліяграфія, тое, што застанецца пасля адыходу) мала што напісаў дый яшчэ вылузваецца, нешта з сябе вымалёўвае, пнецца надаць сабе вагі.

Бяда іхняя не ў тым, — а ў тым, што гэта бяда, я проста перакананы, — што самі яны не ўсведамляюць і, баюся, не ўсвядомяць ніколі, колькі ім ні даводзь, што раманы іхнія слабыя, па сутнасці сваёй пераймальніцкія і нічога новага не распавядаюць і душы не даюць, а як у параўнанні з лепшымі ўзорамі сучаснае сусветнае раманістыкі, такімі, як, прыкладам, "Парфума" немца Зюскінда ці "Астатні свет" аўстрыйца Рансмайра, не вытрымліваюць аніякае крытыкі.

І пачыналася гэтая бяда, і пачынаецца, і, мяркую, будзе яшчэ пэўны час (не дужа доўгі, бо істотна змяніліся ўмовы кніжнага рынку) пачынацца вось калі: тады, як пісьменнік, асвойтаўшыся сяк-так у жанры навелы, прыходзіць да традыцыйнае думкі, якую яшчэ і крытыка навязвала, думкі, што час ужо падступацца да нечага буйнафарматнага, што празаік без рамана і не празаік, а нешта накшталт заяўкі на пісьменніка. Драматычная памылка, якая прывяла да шматгадовага стварэння вялізнага шэрагу нікому не патрэбных цаглін, некаторыя з якіх чыталі, перакананы, трычатыры чалавекі: рэдактар, карэктар, сам стваральнік і, магчыма, ягоная жонка.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Ёсць яшчэ адзін волат слова з тых пісьменнікаў, што паўсталі ў 60-х гадох.

Іван Пташнікаў.

Не люблю я ягоныя раманы. Выбачайце, Іван Мікалаевіч, у слове вам роўных у нас блізка няма: вы пах блакітнага ветру ў зацішную пагоду можаце на трох старонках распісаць, а подыхі жоўтага ў дождж — на чатырох. Вы раман пра вецер можаце напісаць, усё роўна як той геніяльны рэжысёр браўся ў заклад паставіць спектакль па тэлефонным даведніку.

Аднак не даспадобы мне, як я ўжо падкрэсліў, большасць беларускіх раманаў увогуле. Яны мала чаго даюць душы маёй, перадусім праз сваё бытапісальніцтва, што прасякае наскрозь ці не кожны з іх, сваю прыземленасць, нуду наганяюць, сон, жаданне пайсці піва папіць, а каб адсталі з гэтымі раманамі, дык можна і самай смярдзючай самагонкі.

Але Пташнікаў, які напісаў — ці надрукаваў? — усяго толькі трынаццаць апавяданняў, апублікаваных у ягоным зборы твораў, уяўляецца мне першым майстрам слова ў беларускай сучаснай прозе. Апошнія тры ягоныя шэдэўры малой, так сказаць, прозы — “Эфка”, “Львы”, “Арчыбал” — гэта нешта зробленае літаратурным ювелірам, які ўмудраецца з каменьчыка зрабіць брыльянт.

Напішыце яшчэ хоць бы два-тры аповеды, Іван Мікалаевіч, калі ласка, хоць я, вядома, разумею, што яны ў вас нараджаюцца радзей і цяжэй, чым у багата якіх “пекараў” раманы.

Каб скончыць гаворку пра беларускія навелы ды раманы, хачу ў падсумаванне сказаць яшчэ пра Алеся Жука.

Аўтар дужа многіх адметных навел, сярод якіх сустракаюцца і проста бліскучыя, стваральнік некалькіх цікавых аповесцяў, ён так і не падступіўся да рамана. Прынамсі,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



мы пра такую спробу не ведаем. Чаму? Мне хочацца верыць, што ён у пэўнай ступені падзяляе мае погляды.

Зрэшты, як бы там ні было, пазіцыя мне ягоная вонкава здаецца вельмі сімпатычнай, тым больш што яна зусім не ўласцівая нашай зараманенай прозе.

Згадаем: з выдатных пісьменнікаў раманаў не пісалі: Чэхаў, Бунін, Купрын, Эдгар По, Акутагава, Шэрвуд Андэрсан, Борхес, Казакоў, Даўлатаў, Стральцоў.

Накінуты ўмомант караценькі спіс адразу ўражвае.

Борхес увогуле не прызнаваў раманаў.

У Вільні ўвосень 1996 года памёр Вітаўтас Жалакявічус.

— Што, прэзідэнт іхні? — запытаўся ў мяне, пачуўшы сумную навіну, не самы цёмны чалавек, з вышэйшай адукацыяй, які цікавіцца крыху і палітыкаю, і культураю.

Так праходзіць зямная слава, казалі старажытныя рымляне.

Анры дэ Рэнье — адзін з найбуйнейшых французскіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. У 1924 годзе ў Петраградзе быў выдадзены ягоны 18-томны збор твораў.

Яшчэ не хапала есці і доўга яшчэ не будзе хапаць.

Сёння ўжо зноў не хапае есці й невядома колькі гэта працягнецца.

Але ў галоднай Расіі быў выдадзены гэтакі кнігазбор, што гаворыць не толькі пра крыху іншую тады духоўную атмасферу, ніж цяпер, але і нагадвае пра хуткаплыннасць славы. Запытайцеся сёння ў ста менчукоў, не проста стрэчных, а вызначаных у натоўпе, на вуліцы хоць бы візуальна: "Хто такі Анры дэ Рэнье?" Хацеў бы я ўведаць вынікі такога апытання.

А калі яго правесці ў нашым Саюзе пісьменнікаў? Ня-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



хай не крыўдуюць шаноўныя калегі. Такое апытанне можна, бадай, правесці і сярод пецярбургскіх або маскоўскіх літаратараў. Цікавыя былі б вынікі. Яшчэ цікавейшыя, мяркую, былі б яны пасля апытання ў якімсьці французскім універсітэце.

Жалакявічус — гэта "Ніхто не хацеў паміраць", "Аварыя", "Аповед незнаёмага чалавека". З Баніёнісам, Адамайцісам, Будрайцісам, Кайданоўскім ды глыбокай памяццю ў сэрцы тых, хто глядзеў у 60—70—80-х гадох сур'ёзнае кіно.

А запытайцеся ў сённяшняга маладога чалавека — не ў уніформе (штаны з лампасамі – скураная куртка – паголеная патыліца – свіны карак – ланцуг і г.д., больш пералічваць не трэба, бо гэта, нейкім чынам, адзін з твараў эпохі, а мо і яе партрэт), — запытайцеся ў маладога чалавека з разумным адухоўленым тварам, які чытае, прыкладам, Толкіена, хто такі Трыфанаў ці Казакоў. Не будзем чапаць нашае, занядбанае, растаптанае, і пытацца ў яго няма чаго пра таго ж Стральцова. Можа, сёй-той з "толкіеністаў" ведае Алеся Разанава.

Разанаў Эльдар, улюбёнец публікі, зняў свой фільм "Привет, дуралеи" за грошы "Роскино". Аніводзін чалавек — а я хадзіў у розныя багатыя канцэрны і банкі — не даў мне аніводнай капейкі", — кажа ён.

Гэта Эльдару Разанаву — не далі.

Перад смерцю Жалакявічус, нягледзячы на перанесены інфаркт, даволі шмат паліў. Таму і атрымаў ад журналіста запытанне, на якое адказаў:

"Так, нічога не магу зрабіць з гэтай звычкаю. Зрэшты, гэта — не адзіная мая слабасць... Страшэнна люблю малдаўскія і грузінскія віны.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Але застаецца яшчэ і тое, што перашкаджае жыць. Нейкае пачуццё непатрэбнасці. У дадзеным выпадку кажу, маючы на ўвазе гледача, таму што інтарэсы людзей цяпер вызначаныя чымсьці іншым, ніж кінематографам".

А яшчэ дагэтуль ён прызнаўся, што кіно ў Літве "асуджанае на генетычнае заканчэнне". За некалькі апошніх гадоў, якія мэтр пражыў у Вільні, вярнуўшыся з Масквы, ён не зняў аніводнага фільма.

Такі талент заставаўся незапатрабаваным! Злачынства.

Колькі злачынстваў адбываецца цяпер у нас?

Вялікі літаратар N, якія ў вас могуць быць прэтэнзіі да міфічнажывога-паўмёртвага выдавецтва "Мастацкая літаратура" і беларускай, так бы мовіць, культурнай рэчаіснасці ўвогуле? Якія ў вас могуць быць спадзевы, пан айчынны кінематаграфіст? А што скажа спадар Яго Вялікасць Актор Тэатра, зарплату якога язык не паварочваецца назваць?..

Ім усім адно б выжыць — ім, учорашнім прэтэндэнтам на ўладу над духам, а сёння, у матэрыяльным сэнсе, які не можа не ўплываць істотна на духоўны, насельнікам задворкаў жыцця.

Мне абяцалі жыццё, кажа гераіня п'есы паўднёваафрыканскага драматурга Атола Фугарда. І вось гэта вы называеце жыццём?

Гэтыя словы можа паўтараць услед за ёю ці не кожны з нас.

Размаўляць сёння пра славу можа толькі вар'ят.

Ведаючы, як і, зрэшты, усе, кан'юнктуру сённяшніх букіністычных кнігарняў, пералічваю пісьменнікаў, некалі ў нашым уяўленні непахісна славутых, зборы твораў якіх не распрадаюцца нават па цане "том — пляшка гарэлкі": Франс, Ралан, Фейхтвангер, браты Маны,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Арнольд і Стэфан Цвейгі... Пра беднага Горкага няма чаго й казаць.

Розныя прычыны ляжаць у аснове гэткага "поспеху", у тым ліку і аб'ектыўныя. Але ж усё роўна — ёсць тут над чым хоць крыху пасумаваць.

Адгрымелі, залежваюцца Салжаніцын, Платонаў і нават Булгакаў, Ахматава ды Цвятаева.

Тут ужо размаўляць можна хіба што пра попыт ды адукаванасць "читающей публики", пра якую добра выказаўся яшчэ Лермантаў у прадмове да "Героя нашага часу".

Калі ўжо Булгакаў не здабыў сабе "ўсенароднага" (маю на ўвазе нават найвузейшае значэнне гэтага выразу) прызнання, то ўжо што гаварыць, выбачайце, пра якогась там Жалакявічуса? І зусім ужо язык не паварочваецца сказаць нешта ў абарону беларускага літаратара N. Ну каму ён патрэбны?

А ці ўведаў удзячнасць кароль Лір?

"Жадаю Вам прызямліцца на сваю глебу, не спадзеючыся на падзяку", — напісаў мне на падоранай сваёй кнізе Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч.

Тады я яшчэ наіўна верыў, што пісьменнік, якога я тым часам мала не абагаўляў, якому пакланяліся тысячы свядомых беларусаў, якога чыталі ў той краіне дзесяткі тысяч людзей ("Дзікае паляванне караля Стаха" было ў СССР у ліку бестселераў), мае на ўвазе перадусім свой уласны цяжкі лёс...

А цяпер бачу: і прызямліўся я ўжо, гадоў так, мяркую, з пяць назад, а на падзяку не памятаю й калі спадзявацца забыўся — не на мне ўласна падзяку, а ўвогуле на яе, як на складніцу чалавечых стасункаў.

Я на пальцах аднае рукі магу пералічыць блізкіх мне людзей, з якімі падтрымліваю блізкія, па-сапраўднаму ча-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



лавечыя адносіны, якія заўсёды здатныя дапамагчы і заўсёды памятаюць тое добрае, што было паміж намі.

І ці патрэбная яна — тая падзяка?

Вядома, як яна ёсць, тады лягчэй. Гэта як нейкі імпульс, штуршок да далейшае дзейнасці.

Аднак галоўнае — тое, што ты нешта робіш і што нешта ў цябе атрымліваецца. Гэтага аднаго для моцнага чалавека дастаткова, каб ісці далей.

А падзяка, калі ты хоць трохі ствараеш нешта годнае, нечага вартае, рана ці позна непазбежна прыходзіць — з боку няхай сабе выпадкова сустрэтых прыязных чытачоў.

Мне двойчы з пачуццём невыразнага шчасця даводзілася бачыць, як маладыя людзі чыталі ў аўтобусе мае апавяданні.

Аднойчы да мяне ў горадзе падышоў малады чалавек, працягнуў мне маю кніжачку і папрасіў аўтограф — я быў ашаломлены. Да таго ж са мною была мая дачка, якая, вядома, таксама была дужа ўражаная.

У 1988 годзе бачыў у падземным пераходзе чаргу — прадавалі зборнік замежнай фантастыкі "Планета малпаў" з перакладзеным мною аднайменным раманам П'ера Буля. Чаргу за беларускамоўнай кнігаю!

Аднаго разу, стоячы ў чарзе да майстра па выразцы шкла, я ўбачыў, што чалавек уважліва, не адрываючыся, чытае эсэ Уладзіміра Арлова.

Дзеля гэтага варта жыць і штосьці ўпарта рабіць, інакш жыццё гэтае, бадай, не мае сэнсу.

Той самы Эльдар Разанаў:

"...выкладаў на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах — цяпер перастаў, таму што няма сэнсу гадаваць новых беспрацоўных".

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



“Як жыць далей, Леў Мікалаевіч?”

Жыць неяк, сам ведаю, усё-ткі трэба (нават у найгоршым выпадку падтрымлівае беларуская народная мудрасць: жывы ж у зямлю не палезеш), але баюся, што нават і Леў Мікалаевіч не змог бы сёння трапна адказаць на такое пытанне “дапытлівага юнака”. А Мікалай Васільевіч, мяркую, даруйце, скончыў бы свой і так кароткі жыццёвы шлях яшчэ раней ды гарчэй. Тут нам найбліжэйшы Сяргей Палуян. Адказ вось толькі ў яго, Палуяна, задужа ўжо трапны і многім небяспечны.

Чытаў калісь раман Гамсуна “Голад” як фантасмагорыю. Я тады як сцэнарыст, драматург і перакладчык добрыя меў ганарары.

Ніколі не думаў, што многія з тых, хто жыве побач са мною, нарэшце я сам, апынуцца ў амаль падобнай сітуацыі.

Калі ў лядоўні й па-за ёю хоць што ёсць, няхай сабе і небагата, дык галадаць цяжэй, чым калі ў ёй шаром пакаці. Праіснаваць дзень з кавалкам чагосьці, які трэба раздзяліць на дзве-тры порцыі, як для мяне, дык цяжэй, чым пражыць тры дні без аніводнага кавалка: калі без яго, дык нічога не цягне да сябе. А вада з крана, як не адключаць з тае ці іншае нагоды, заўсёды цячэ. На вуліцу ж з сякераю не пойдзеш.

О, колькі ж яшчэ гадоў — мабыць, усё жыццё — буду я згадваць гэты геніяльны радок Віктара Шніпа:

“Ядуць рабацягі зжаўцелае сала”!

Ізноў Эльдар Разанаў:

“Я засмучаны той акалічнасцю, што нашае кіно стала нешматлікім і, як вынік, нікчэмным. Павінен ісці магутны паток кіно ды літаратуры, і адно тады будуць з’яўляцца шэдэўры".

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Прыблізна тое ж самае яшчэ бацька ўсіх народаў казаў.

Не да кіно і не да літаратуры цяпер большасці людзей — як паратунак ад рэчаіснасці застаецца для іх, на жаль, адно тэлевізія. Дзіка, але найпершая праблема — як чаго пад'есці.

Часта згадваю словы французскага пісьменніка Мантэрлана:

“Са мною заўсёды штосьці-небудзь здараецца”.

Цікава. Мне здаецца, што гэта даволі распаўсюджаны выпадак. Ёсць такая катэгорыя людзей, і не такая ўжо, як здаецца мне, малая, да якое выпала належаць і “сумесніку”.

Але ж куды цікавей, як на маю думку, смачней, сказаў Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў у “Сваіх і чужынцах”: “Заўсёды ты, Пацюпа, улезеш у гаўно...”.

(Няхай не крыўдуе паэт Юрась П.)

Гэта, мяркую, пра багата якіх беларусаў.

А можа, ці не пра ўсіх.

Шмат людзей сустракаў разумных. Здаралася, нават і вельмі разумных. А ўжо дурняў колькі... Але ж выбачайце за нясціпласць, мала спаткаў на шляху сваім (ды які там шлях, дужа ўжо гучнае слова, скажам прасцей: на дарозе, на сцяжыне) гэткіх дурных ды разумных адначасна (парадак вызначэнняў тут адвольны), як я.

“Сціпласць — гэта найкарацейшы шлях у невядомасць”.

Не памятаю, хто гэтак трапна сказаў.

Вядома, з нясціпласцю бываюць пераборы, падчас вялікія. Як, прыкладам, у майго сябра Анатоля Сыса — аднак, прынамсі, невядомасць яму не пагражае.

Пры ўсіх, як на агульны погляд, жахах у паводзінах

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



гэтага надзвычай адоранага паэта, не след успрымаць яго-ныя экстравагантнасці павярхоўна — гэта...

Я ведаю яго, як мала хто.

Але не буду запаўняць шматкроп'е, каб...

Пра слова – і расейскае, і нашае, беларускае, — хачу сказаць, звярнуўшыся да слова ўкраінскага.

Сустрэў знаёмага ўкраінскага паэта. Разгаманіўшыся са мною пра полавыя праблемы, вывеў ён, як на мой погляд, дык аксіёму, і выклаў яе ў бліскучым народным стылі: "Той, хто хоча, а не може — імпатэнт. А той, хто може, а не хоча — вялікі падлюка".

Паспрабуйце, "будь ласка" ("калі ласка" па-украінску), замяніць апошняе вызначэнне на расейскае "большой подлец", "подлец великий" і нават на найбліжэйшае "подлюга редкий".

Гэта ўсё роўна як перакласці на расейскую дарэвалюцыйныя вершы Купалы ці, прыкладам, "Лявона Бушмара" Чорнага. Марная справа. Вынік будзе, колькі б ні стаў шчыраваць над пераўвасабленнем самы адмысловы перакладчык і знаўца нюансаў абедзвюх моваў (калі такі знайшоўся б), няўдалым — бледным, анемічным, і фарбы яскравых у арыгінале твораў будуць выцвілыя, сцёртыя, размытыя, не будуць лашчыць слых і зрок.

Прыгажосць, самабытнасць мовы адчуваецца ўжо на самым, скажам так, першым узроўні — аднаго-двух-трох слоў.

Дзе канчаўся мой розум і дзе пачыналася дурасць? Ці наадварот?..

Думаю, мала хто зможа адказаць штосьці пэўнае на гэтае, у дачыненні да сябе, пытанне.

Ці ўсе такія разумныя?

Шмат хто памылкова лічыў мяне вельмі адукаваным.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Якая заблуда! Што ведаў і што ведаю я? Перафразуючы генія, скажу адно: “Ды нічога не ведаў я і анічога не ведаю”.

Дастаткова было мне закончыць спецыялізаваную “французскую школу” і інстытут замежных моваў, набыць у выніку не зусім спецыфічныя як для беларускага пісьменніка веды (характар адукацыі істотна скіраваў і напрамак самаадукацыі, дапамагла і праца за мяжою, знаёмства з недазволенымі кнігамі), — і мяне, ледзь толькі я трапіў у пісьменніцкі асяродак, пачалі запісваць у “жыды”, балазе мангольскія скулы, казахскі разрэз вачэй, вельмі высокі лоб, раннія лысіна ды сівізна пры дужа яшчэ прыкметнай тады кучаравасці адразу вылучалі ў вачох антраполагаўдылетантаў сярод больш-менш “нармальных” славянаў, прыкладам такіх, як Яўген Верабей (Міклашэўскі). Бо... удумайцеся: на пагляд мала тады не агульны, і не толькі ў асяродку непісьменных пісьменнікаў, гэткім разумнікам можа быць адно “жыд”...

Разумнік... Божа ты мой! Дэбіл я ў сэнсе сапраўднай адукацыі. І не буду біць сябе кулакамі ў грудзі, каб давесці, што гэта шчыра. О, каб толькі хто ведаў, наколькі!

У сэнсе цалкавітай аб’ектыўнасці погляду, якая суправаджаецца надзвычайнымі далікатнасцю ды карэктнасцю, сказаў бы нават дыпламатычнасцю, магу назваць адно Уладзіміра Арлова, якога невыпадкова доўгі час абіраў з розных нагодаў сваёй даверанай асобаю, — гэты таленавіты пісьменнік і тонкі, мудры чалавек бачыць усё наскрозь.

А хто тады тыя, што называлі мяне з непрыязнасцю разумнікам-жыдом? Калі я дэбіл, дык яны... хто тады яны? Я і слоў гэткіх не ведаю, якія маглі б падысці ім у вызначэнне. Мажліва, іх і насамрэч няма.

Адзін добры чалавек, стары пісьменнік, шчыра, як мне



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



здалося, пахваліў мяне сам-насам за тое, што я перакладаю з французскай і ангельскай: вы пашыраеце тым самым кругагляд беларускага чытача, наш пісьменніцкі круга-гляд. А пераклады, на падставе якіх ён гэта казаў, былі самых банальных твораў, з тых, якія даўно мусілі прысутнічаць у беларускім кантэксце.

Нябожчыца Вера Сямёнаўна Палтаран, цудоўнейшая інтэлігентная жанчына, няхай зямля будзе ёй пухам, неяк сказала мне сам-насам: “А вы ўяўляеце сабою рэдкі выпадак”. – “Які?” – запытаўся я. – “Вы – пісьменны пісьменнік”.

Гэтай ухвалаю, з вуснаў такога чалавека, я ганаруся.

А можа, я не пісьменнік зусім? Я пра гэта даўно думаю. Гады з чатыры яшчэ назад казаў пра гэта Валянціну Акудовічу, крытыку, якога вельмі паважаю і лічу ў нас лепшым, да таго ж майму сябру, — і ён дзесьці памяркоўна згаджаўся.

Чаму я так мала напісаў? Тры п’есы, два кінасцэнарыі, дзве аповесці, дзесяткі чатыры апавяданняў. Праўда, перакладаў досыць шмат, апошнія тры гады — "элітнай" літаратуры і, на жаль, праз абставіны, пераважна на расейскую мову.

Вядома, піў шмат. Нервовая асоба. Выпрацаваны рэфлекс: стрэс – шклянка – стрэс. Жыццё ператвараецца, у маім асабістым выпадку, у хранічны стрэс. Колькасць блуканняў па пакоі ды вуліцах адначасна з колькасцю шклянак павялічваецца. Але ж – можна тут згадаць, з вялікіх, і Эдгара По, і Фітцджэральда, і багата каго яшчэ: напісалі яны шмат, і фантазія, прыкладам, у першага, была фенаменальная.

У мяне ж большасць аповедаў – аўтабіяграфічныя. Героямі вельмі часта з’яўляюцца пісьменнікі, мастакі, асобы эмацыйныя, нервовыя, экзальтаваныя, п’юць шмат, амаль

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



заўсёды — не выпадкова ж так і не выдадзеная дагэтуль мая кніга па-сутнасці “Выбранага”, якая пяты ўжо год, будучы падрыхтаванай да друку, валяецца ўсё ды валяецца то ў выдавецтве, то на паліграфкамбінаце, а называецца “П’яная кніга, або Жоўты колер белага снегу”.

Я так думаю, што ад прыроды асоба я (у тым ліку і ў благім сэнсе) тонкая, датклівая, жыццё маё на перажыванні багацейшае за сярэдняе, адукацыю нейкую маю, як і, зрэдзьчасу, патрэбу ў споведзі, больш-менш валодаю словам, — вось і з’явіўся на свет выпадкова такі нібыта пісьменнік...

Бо няма ў мяне ні пладавітасці, ні патрэбы “ні дня без радка”, ні фантазіі асаблівай. Практычна ўсе мае аповеды “выплёскваліся” за якіясьці тры-чатыры гадзіны, пераважна з васьмі да дванаццаці. Гэтага часу хапала мне, каб выпаліць раз на нейкі досыць вялікі перыяд восем-дванаццаць старонак, якія потым амаль і не правіў.

Часта шкадую аб тым, што жыццё ў мяне склалася ненармальна. А часта і не. Бо, апрача чыста чалавечага шчасця, якога, лічу, пры ўсіх маіх бедах, выпала на маю долю нямала, ёсць яшчэ праца, якою жыве чалавек, якою ён мусіць жыць. Адзінай маёй працаю, якая прыносіла мне сапраўднае задавальненне, было пісанне. З перакладамі, вядома, такога задавальнення быць не магло і блізка — праца тлумачальніка задавальняла мяне адно ў пэўнай ступені. А з чаго нараджаліся мае апавяданні? Як ужо казаў, з ненармальнага жыцця. І не перажыві я ўсяго таго, што перажыў, не было б і багата чаго з напісанага мною. Значыцца, усё ідзе так, як мусіць ісці.

Многія мае апавяданні нарадзіліся з бясконцых бязглуздых, здавалася б, блуканняў, пакутаў, нічоганяраблення, п’янак. А да ўсяго гэтага я доўгі час быў проста пусты. Ад нямогласці, нематы — думкі да найгоршага збочвалі. Пе-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



рамучыўшыся — пачаў пісаць. У выніку ў 93—94 гадох з душы "выплеснулася" ці не палова маёй прозы. Што ж гэта, як не натуральны арганічны шлях? Дзякую за тое Богу.

Ну, працаваў бы я ўсё сваё папярэдняе жыццё над сабою. Ведаў бы лепш французскую ды ангельскую мовы, вывучыў бы італійскую, польскую, як збіраўся. Быў бы больш абазнаны ў гісторыі, філасофіі, рэлігіі. Былі б у мяне здаравейшыя нервы, сэрца, печань, ныркі. Быў бы ўладкаваны побыт. Ну і што? Навошта мне тая італійская, тая печань і той побыт, калі б я анічога не стварыў? Я што, гэтай печанню на італійскай канапе з польскай ксёнжкаю на жываце насалоджваўся б? А так я хоць нешта зрабіў. Шкада, што вельмі мала. Можа, яшчэ што здолею. Як здолеецца. Само. Арганічна.

Як я тут зайздрошчу Высоцкаму:
“Мне есть что спеть перед Всевышним,
Мне есть чем оправдаться перед Ним”.

Можа, напішу як-небудзь нешта накшталт рамана пра недарэчнае сваё жыццё. (Мне гэта ў свой час Саўлюс Шальцяніс, мой добры літоўскі прыяцель, тонкі празаік і драматург, параіў. Табе, сказаў, нічога не трэба выдумляць. Пішы пра тое, як жыў. Грэх будзе, як не напішаш. І Алег Мінкін тое самае гаварыў. — Абодва, на жаль, з-за межаў, зніклі з майго жыцця.) Вельмі ўжо шмат цікавага ў ім. Пачынаючы ад самага нараджэння: вагі ў мяне было 900 грамаў. Два месяцы ў інкубатары. Доктар-прарок, што выхадзіў мяне, аднаго з нямногіх такіх самых, так і сказаў маёй, цяпер ужо нябожчыцы, маме: “Ён будзе пісьменнікам ці вучоным”. Піць я пачаў, як і ўсе мае сябры дзяцінства, — такія былі ўмовы-абставіны, — досыць рана: гады ў чатыры. У адзінаццаць цудам не стаў вялікім калекам. Доўгія месяцы ў ложку. Думкі пра найгоршае ў чатырнаццаць.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Працяглыя дэпрэсіі ў шаснаццаць. У трынаццаць усе мяне білі, потым я ўсіх пачаў біць. Валасы на нервах пачалі выпадаць у пятнаццаць. У першым класе, праз маю беларускую мову, хацелі ў школу для дэбілаў аддаць. Закончыў першы клас на адны пяцёркі. У дваццаць тры зарабіў у Алжыры на "Волгу". У сорак пяць кута свайго не маю. Пачынаючы гадоў ад трыццаці шасці... не, пра гэта пакуль што не трэба. Можа, хопіць ужо? "Матэрыялу" на "нешта накшталт аўтабіяграфічнага рамана" дастаткова? Прынамсі, пазалетась я яго ўжо пачынаў.

На трэцяй прэм'еры спектакля паводле маёй п'есы "Іскры ўначы" (першая адбылася ў Віцебску, другая ў Бабруйску), што мела месца ў Тэатры юнага гледача ў Мінску ўвосень 1982 года, сабраліся па маім запрашэнні родныя й блізкія мае ды маёй жонкі. А паколькі працавала яна інжынерам у праектным інстытуце, а пасля ізраільска-арабскай вайны 1967 года мінула ўсяго толькі пятнаццаць гадоў, а не трыццаць два, як сёлета, то самі разумееце, хто мог на той час у тым інстытуце працаваць і якія калегі ды каляжанкі з'явіліся на гэтую прэм'еру — у немалой, трэба сказаць, колькасці.

Вядомы сёння пісьменнік, істапраўдны славянін, хадзіў спаміж радоў і апытваў жончыных каляжанак: "А ці, прабачце, не даводзіцеся вы раднёю герою сённяшняга вечара?"

Ну што тут скажаш? Мне ж было тады дваццаць восем гадоў, і, выбачайце, я быў тады самым маладым "пастаўленым" драматургам Беларусі; п'еса была прасякнута гістарычнымі матывамі, гэта значыць адукацыйнымі, а ў габрэяў, раманістаў і асабліва драматургаў (Цвейгі, Фейхтвангер, Радзінскі, Зорын, Рэмез — спіс можна прадоўжыць бясконца) гэтыя матывы ў асаблівай пашане — таму ёсць розныя тлумачэнні, уключаючы не дужа прыемныя для пісьменніка, кшталту: "Няма душы, таленту, дык кампенсуе начытанасцю" і г.д.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Дарэчы, жончыны каляжанкі былі пераважна кабетамі пышнацелымі, з раскошнымі бюстамі (характэрныя нацыянальныя рысы), вялікім аматарам якіх, паводле ўласнага свайго мне прызнання, быў гэты пісьменнік, — уяўляю, з якім смакам разглядваў ён, употайкі й не, усе гэтыя спакуслівыя выпукласці.

Здаецца, ужо сталее новае пакаленне літаратараў, якое лічыць адукаванасць не толькі звычайнай нормаю, але і неабходнасцю. Дзіўна, дзіка, аднак у нас пра гэта і цяпер яшчэ прыходзіцца гаварыць. Нараджаюцца нарэшце ў нас ва ўсім, што датычыць душэўнага ды разумовага развіцця, неабмежаваныя людзі.

Расія мела іх дзвесце гадоў назад, Францыя, Ангельшчына, Італія, Нямеччына — Бог ведае калі. Нават Амерыка — стагоддзі паўтара назад.

А нам, не забываючыся на сваю беларускую адметнасць (лепшыя, вядома, яе рысы), трэба яшчэ дужа доўга ўзірацца ў вопыт культур пералічаных краінаў перадусім да ўсяго астатняга цывілізаванага свету. Праўда, мяркую, на гэта пойдуць усяго толькі дзесяцігоддзі, бо тэмпы жыцця ўжо далёка не тыя, як у перыяды станаўлення культур названых краін, і калі справа зацягнецца на стагоддзі, то гэта ўжо будзе азначаць, баюся, загібель.

Гаманіў неяк увосень 1989 года, па-багемнаму, з выдатным хлопцам (тады яшчэ) ды паэтам, нашым земляком, даўно ўжо масквічом Славам Арцем'евым пра тое, чаму ён піша па-расійску, а не на роднай мове, і ён апраўдваўся, казаў, што так ужо здарылася, але ён верыць у тое, нават больш, перакананы ў тым, што беларускае слова ў паэзіі чакае лепшая доля, ніж слова расейскае. Я яму ў вочы глядзеў, не верачы, што такое, па-першае, можа быць увогуле, а па-другое, што гэта можа казаць расійскі паэт — думаў, колькі ж трэба было выпіць гарэлкі да таго, як сесці за стол са мною, каб гэткае прамовіць амаскоўленымі вуснамі.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Мне чамусьці здавалася, што ён быў шчыры.

Мінула дзесяць гадоў.

Што ў гэтым накірунку адбылося?

Не ведаю — пытанне паставіў, але ж адказ даць няздатны.

Эпатажны Анатоль Сыс ужо падтрымаў бы, вядома, Арцем'ева.

А што сказаў бы разважлівы і памяркоўны Уладзімір Някляеў?

Што прамовіў бы, пасля заглыбленай паўзы, наш паэтычны скарб Алесь Разанаў?

А што — тыя, што пішуць вершы сёння і прозвішчаў якіх я не ведаю?

Пераклаў з французскае мовы на расійскую два надзвычай цікавыя раманы — "Мэрфі" Сэмюэля Бэкета (першая спроба пісьменніка ў аўтаперакладзе з ангельскае мовы на французскую, на якую ён, ірландзец, потым цалкам перайшоў і пачаў рабіць аўтапераклады ўжо з французскай на ангельскую) і "Знікненне" Жоржа Пэрэка (унікальны ў гісторыі сусветнае літаратуры твор, напісаны без выкарыстання слоў з галоснай "е" — самай распаўсюджанай у французскай мове!). Першы раман — 230 друкаваных старонак, другі — 360. Па-беларуску зрабіць гэта немагчыма, нават за тыя смешныя грошы, што атрымліваю я, дзеля выжывання, за расійскія пераклады (нямецкі перакладчык "Знікнення", як я даведаўся, атрымліваў 20 долараў за старонку плюс спецыяльную стыпендыю ў перыяд працы над перакладам, я — у дзесяць разоў меней); да таго ж памер перыядычнага выдання ("Крыніца") не дазваляе.

Дык ці будзе ў нас калі-небудзь памер?

Дык ці будзе калі-небудзь у беларусаў свой "Новый мир" ці сваё "Знамя", калі ў расійцаў гэты самы "Новый мир" мала не на ладан дыхае?.. Ці будзе ў нас свая "Иностран-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ная литература" ці хоць бы "Всесвіт" замест замардаваных "Даляглядаў"? Ва ўкраінскім "Всесвіті" друкуюцца з году ў год самыя адмысловыя творы сусветнае літаратуры, прыкладам, раман, адзначаны адной з нядаўніх ганкураўскіх прэмій — "Вырачаныя" Фрэдэрыка Трыстана (я пераклаў, зноў жа на расійскую, ягоную "Загадку Ватыкана" — 370 друкаваных старонак).

А ці патрэбныя беларусам свае "Новый мир", "Всесвіт"?

Беларусам яны, можа быць, і не патрэбныя. Мабыць, не.

Яны неабходныя захавальнікам беларускага духу, ягоным носьбітам, ратавальнікам беларускае мовы, тым, дзякуючы каму, мажліва, і застанецца яшчэ ў свеце такі народ — беларусы.

Наступныя мае радкі, мабыць, раз'ятраць некаторых чытачоў, аднак я ўпэўнена, цвёрда магу сказаць, што тым пісьменнікам, якія мелі нейкія здольнасці й маглі працаваць, жылося ў Савецкай Беларусі нашмат лепей, ніж цяпер — і гэта пры той найважнейшай акалічнасці, што не прыходзілася наступаць сабе асабліва на горла. Ці, можа, некаторым проста пашанцавала?

Прынамсі, магу сцвярджаць, што Галубовіч, Арлоў, я — выпісваліся ці не на поўніцу. На першых двух я пазней запынюся больш падрабязна, а пра сябе зараз.

Я дагэтуль не магу зразумець, што за сляпы чытаў мяне ў "Галоўліце".

Не буду шмат гаварыць пра тое, што ва ўсёй маёй пісаніне ёсць, бадай, адзін прасавецкі пасаж — у аповесці "Малюнкі на попеле", пра рабочых, якія робяць краіне аўтамабілі — за гэтыя словы мне і цяпер сорамна. А яшчэ ў мяне быў адзін пасаж, за які мне няёмка: у адзіным сваім "крытычным" (вельмі слабенькім) артыкуле "Зноў горад" я абурауся (дурань, сябе закладваю, яго пасля 1984 года,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



думаю, ніхто ўжо больш не чытаў) тым фактам, што некаторыя маладыя людзі носяць джынсовыя шмоткі з лэйбамі амерыканскай ваеншчыны. І як толькі такое магло мне ў галаў уцямяшыцца? Я ж гадоў з трынаццаці слухаў усе “галасы” і ўжо з тае пары, тым больш пад уплывам бацькі, фармаваўся як антысаветчык. Але гэтая дурасць была тады шчырая. (Праўда, магу дадаць сабе ў апраўданне, што гадоў сем назад, як знаёміўся з Валянцінам Акудовічам, ягоная пентагонаўская кашуля, якую ён дужа часта надзявае, не выклікала ў мяне ранейшага неразумення.)

Я напісаў дзве выразна нацыяналістычныя п’есы — “Іскры ўначы” (1982) і “Камедыянт, альбо Узнёсласць сумнай надзеі”, — па другой быў зняты тэлефільм, — і абсалютна антысавецкую прыпавесць “Чарга” (“Сон”) — 1985 год. У газеце “Звязда” гэтую навелу разглядалі ажно год, галоўны рэдактар, не хочучы яе адвяргаць, але і не хочучы падпісваць у друк, пакідаў яе, адыходзячы ў адпачынак, намесніку і г.д. — праз год яе мне вярнулі. “Супера” не бралі нідзе, пачынаючы ад “Маладосці” і “Полымя”, тры гады, пакуль не надрукавалі ў “Крыніцы”. (Усё астатняе альбо было ў палітычным сэнсе нейтральным, альбо друкавалася ўжо тады, калі ці не ўсё было можна.)

Калі ў 1982 годзе “Іскры ўначы” паставілі ў Бабруйску, да мяне пасля паказу першага спектакля падышоў польскі піяніст Янаш — не памятаю ўжо, хоць ён і лаўрэат міжнародных конкурсаў, ягонага прозвішча, ён прыехаў у Бабруйск да сваёй будучай жонкі, тады актрысы тамтэйшага тэатра, а яшчэ раней Мінскага тэатра юнага гледача Ніны Чаркес. Ён сказаў мне, сам-насам, што калі б у Польшчы паставілі такі ж спектакль “польскага” кшталту, дык быў бы бунт.

Сяргей Дубавец, убачыўшы ўпершыню тэксты маіх п’ес у Маскве, быў уражаны. “І гэта надрукавалі й паставілі?” — як цяпер памятаю ягонае пытанне з адпаведным выразам твару.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



А выступы па лініі бюро прапаганды беларускай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі!

З майго боку гэта ж былі самыя сапраўдныя нацыяналістычныя “вылазкі”. Мы ў Сянно, Багушэўску, Жыткавічах, Любані, Слоніме, Чавусах з Лёнем Галубовічам, Пятром Ламанам, нябожчыкам Георгіем Данілавічам Коласам і праўда бунты ўздымалі. Прыкладам, пасля майго і Лёневага выступу ў Багушэўскім супрацьтуберкулёзным санаторыі адразу ж, на нашых вачох, узнялася такая хваля самай шчырай беларушчыны, што вядучыя дактары заклікалі калектыў (у 1987 годзе) перайсці на беларускую мову. І за гэтую прапаганду нам яшчэ добра плацілі — а бюро ж, як і Саюз, былі ўстановамі, падначаленымі Савецкай “інтэрнацыяналісцкай” уладзе.

Шмат чаго добрага ўведаў я як пісьменнік пры Савецкай уладзе.

Але гэта ўжо зусім асобная вялікая гаворка. Я хачу запыніцца на адным баку майго тагачаснага існавання, які мне запомніўся дужа прыемным, — на калектыўных зборнях маладых пісьменнікаў, якія арганізоўваліся зверху.

Савецкі камсамол раз на пяць, здаецца, гадоў праводзіў нешта накшталт з’езду “маладых літаратурных дараванняў” — Усесаюзную нараду маладых савецкіх пісьменнікаў. На VIII-ай, ці не апошняй — не ведаю, ці праводзілася наступная ў 1989 годзе, — мне пашчасціла — але, пашчасціла — быць.

Пашчасціла таму, што кіраўнікамі майго, драматургаў, семінару былі Віктар Розаў, Афанасій Салынскі, Іна Вішнеўская, Уладзімір Піменаў, Міхаіл Швыдкой — кожны з іх хоць нешта годнае зрабіў. Там я атрымаў рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў, якую, праўда, “згубіў” у Мінску памянёны ўжо вораг “жыда-масонства”, да якога, перакананы быў ён, належаў і я; пасля гэтай нарады мне прыслалі з Масквы ў Мінск запрашэнне на Усесаюзныя двух-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



гадовыя курсы кінасцэнарыстаў — прымалі туды без іспытаў.

Там я пазнаёміўся з такімі вядомымі цяпер пісьменнікамі, як Ніна Садур, наш зямляк, артыст тэатра на Малой Броннай, драматург, празаік і кінасцэнарыст, а цяпер ужо і кінарэжысёр Віталь Маскаленка, “касавы драматург” Сцяпан Лабазёраў, “скандальны драматург” Алена Разумоўская, празаік Святлана Васіленка, цяперашняя “феміністка” Маша Арбатава, інгерманландскі фін Тойва Флінк і г.д.

А галоўнае, я зблізіўся там з сваімі суайчыннікамі – ”маладымі літаратарамі”, дакладней, з некаторымі з іх.

І ў наступным расповедзе хачу запыніцца не на надта сур’ёзных, а крыху "гумарных" баках гэтага збліжэння.

Ну каго яны збіралі, камсамольцы, у Маскве? (Хоць дзякуй ім за тое.)

Усяго ў Маскву паслана было трынаццаць “маладых дараванняў”, але трэба быць справядлівым і адзначыць: далёка не ўсе сярод іх былі дараваннямі, а сярод апошніх найярчэйшыя былі, несумненна, Леанід Галубовіч і Сяргей Дубавец.

Яшчэ два яркія чалавекі з нашага пакалення — Уладзімір Арлоў і Алег Мінкін — пасланыя не былі: першы — як “засвечаны нацыяналіст”, другі — з прычыны сваёй малой “наверсе” вядомасці – я так мяркую, а можа і з прычыны "жыда-масонскасці", не кажучы ўжо пра гэты самы нацыяналізм. З іншага боку, Дубавец, з’яўляючыся самым што ні ёсць зацятым, як ён казаў, “нацюгам”, — усё-такі быў адпраўлены ў “сталіцу нашай радзімы”.

Што да кандыдатуры Галубовіча, дык тут ніхто не стане спрачацца аб слушнасці выбару, асабліва тыя, хто меў шчасце завітваць тым часам на апошні паверх гатэля “Орленок”, дзе месцілася рэстарацыя і дзе збіраўся “самы цвет”

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



усіх запрошаных на нараду геніяў, талентаў і без пяці хвілін прапашчых людзей.

Лёня, Леанід, Лявон быў тады яшчэ калгасным электрыкам, адданым аматарам моцных напояў, індэферэнтным да палітыкі чалавекам (такім чынам, у ім сумяшчаліся талент, багемнасць і сялянская абачлівасць — гэткі сімбіёз Мінкіна-Сыса-Пісьмянкова). На той час ён паспеў выдаць кнігу “Таемнасць агню” — самую унікальную ў гісторыі ўсяе беларускае паэзіі: аўтару ў той час было больш як трыццаць тры гады, і за плячыма ў яго мелася дзесяць класаў вясковае школы, а кніга мела проста ашаламляльны поспех. Гэта самы сапраўдны самародак — і не ведаю, ці будзе ў нас яшчэ такі.

Сяргей Дубавец быў, наадварот, з гораду, нават з Мінска, і ўжо ў гэтым была ягоная выняткoвасць: тады амаль усе пісьменнікі, нават наймаладзейшыя, былі з вёскі, некаторыя з гарадкоў, дужа падобных на селішчы, – Мінск быў татальна русіфікаваны. Калі ўлічваць мяне, то на гэтай нарадзе менчукоў па выхаванні было два – Сяргей ды я.

Рэпліка крыху адстароненая: у дзяцінстве я і Вітаўт Чаропка жылі нейкі час у Мінску на адной вуліцы — з’ява, відаць, таксама унікальная.

Да таго ж Сяргей Дубавец быў з сям’і далёка не самага апошняга, трэба падкрэсліць, дзяржаўнага службоўца — і ў гэтым была ягоная другая адметнасць. У адрозненне ад астатніх, у прыватнасці мяне, прыхаванага, недаспелага яшчэ нацыяналіста, ён быў ужо зацятым “нацюгам”, — тут трэба адзначыць, ён быў, як на той час, нашым самым цікавым крытыкам, з якім я мог паставіць тады побач хіба што Анатоля Сідарэвіча, а цяпер — памянёнага ўжо тут Валянціна Акудовіча, — патрыётам сфармаваным і адданым справе не менш, як, да прыкладу, Вацлаў Гавэл дысідэнцтву, — і таму я й сёння перакананы, што ён, з ягоным

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



бліскучым аналітычным розумам ды ўменнем сябе паводзіць (Сяргей хіба што залішне катэгарычны), мог бы таксама стаць прэзідэнтам, падобным да былога чэшскага драматурга (смешна, іх нават вусы збліжаюць) — прынамсі я б галасаваў за яго.

Папярэдняя дэталь пра Галубовіча. З ягонага ўласнага расповеду: неяк у клецкім шынку, славутым, вядома, тым, што яго наведваў Галубовіч, ён, калі афіцыянткі адмовіліся падаць яму і кампаніі, "в виду...", яшчэ гарэліцы, замовіў у знак пратэсту супраць парушэння правоў чалавека, 99 шклянак гарбаты — і, паверце, яму іх падносілі! Да чаго ж "упёртыя" былі афіцыянткі — хацеў бы я іх пабачыць, ці ўжо Галубовіча з кампаніяй, — не паленаваліся замест аднаго букача такую процьму шклянак несці. А гарбату ж яшчэ разліваць трэба было.

Галубовіча адзінага — на ўсю гэтую саюзную зборню — запрасілі "засвяціцца" ў праграме "Время", галоўным стрыжні ўсёй савецкай тэлевізіі, недасяжнай мары ўсіх амбітных літкар'ерыстаў, — ну як жа, новы Ясенін, Клюеў, Рубцоў.

Мы як мага беражней прывялі Лявона зранку на здымачную пляцоўку і паклапаціліся не толькі пра ягоную душу, прасвятліўшы яе з "панімающчым розумам" і пачуццём меры, але і нават не забыліся на ягонае надсаджанае горла, напаіўшы гарбатаю з мёдам, надсаджанае, бо трэба было бачыць, як напярэдадні заўжды маўклівы, пануры Лявон з ягонай заўсёднай сялянскай усмешкаю (тут ён падобны адначасна і на Стральцова, і на Пісьмянкова), Лявон, які ніколі і ў сне не спяваў, зацягнуў на ўвесь шынок: "Орленок, орленок, взлети выше солнца и степи с высот огляди", — а Шніп, ягоны вечны тады цень, ягоны ардынарац, годны славы Санча Панса, роў на ўсю сваю, не такую ўжо і малую, як выявілася, глотку, думаючы, што падпявае апошняму генію беларускае вёскі, "Врагу не сдается наш гордый "Варяг".

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Дарэчы, іхні дэманстратыўна расійскі рэпертуар дужа абурыў зацятага патрыёта Сяргея Дубаўца — і тады пачалося такое, пра што і расказваць не хочацца.

У абарону неразумных, як на той момант, Галубовіча са Шніпам можна сказаць адно: яны не разумелі тады не толькі таго, што робяць, але і дзе знаходзяцца, прынамсі Лявон плёў нешта пра тое, што трэба руляваць у варонінскае сельпо (Вароніна — гэта ягоная малая Бацькаўшчына); Віктар, мяркую, цвёрда ўсведамляў, што знаходзіцца ён пры Галубовічу, а ці мог тады штосьці ўсведамляць вясковы геній — сумняваюся. Так што, ухваліўшы патрыятызм Сяргея, асудзім ягоную нястрыманасць максімаліста.

Як прывялі мы згэмтанага Лявона на здымачную пляцоўку, дык "тэвэшнікі", прыгаломшаныя, сцвярджалі, што такога яшчэ не толькі ніколі не бачылі, але і нават не чулі, людзі ж тыднямі да перадачы, як іх запросяць, рыхтуюцца, бегаюць трушком ды п'юць травяныя настоі-адвары, заядаючы аўсянаю кашаю, даходзяць да таго, што клізмы сабе ачышчальныя робяць, у пазыкі залязаюць, каб купіць сабе "матылька" ад Лапідуса, а гэты, а гэты (знай беларусаў-паэтаў-геніяў, няхай не задзіраюць носа маскалі-літдараванні!), а гэты — яны так і не змаглі вызначыць "гэтага", адно рукамі разводзілі.

Такое мог утварыць хіба што яшчэ Анатоль Сыс, якога на руках выносілі з Дома літаратара найвядомейшыя людзі краіны, — паралічваць якіх і язык не паварочваецца, — а потым здавалі міліцыянтам у будку непадалёку, а тыя адпойвалі Анатоля... гарэліцай — і адпускалі як добрага свайго знаёмца. Неўзабаве Анатоль заяўляўся туды, адкуль яго вынеслі — і ў людзей ажно мову адбірала.

А як ён палівау са шланга арандатараў кавярні Дома літаратара? Шкада, што размова не пра яго, а пра нараду. Быў бы там Сыс, запомнілася б масквічам-камсамольцам тая нарада.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



З астатніх найбольш вылучаўся памянёны ўжо Сяргей Дубавец, які мусіў, здаецца, стаць патомным абаронцам Савецкае ўлады (ягоны выпадак не такі ўжо, зрэшты, і рэдкі: згадаем Вячорку, Навумчыка), мог стаць бухгалтарам (вучыўся ж у наргасе — і як добра падлічваў у свой час колькасць, на дзесяткі, штампаў у вершах нялюбых яму паэтаў), а стаў літаратурным “нацюгам” нумар адзін усяе беларускае літаратуры, якому я, аўтар гэтых нікчэмных радкоў, нізка ў пояс пакланюся — за маё канчатковае патрыятычнае станаўленне пад ягонай мудрай чулай апекаю, — так, так, апекаю, хоць ён і маладзейшы ад мяне, але так ужо здарылася, што я позна прыйшоў да беларушчыны, шлях свой да яе пачаўшы, як па вялікім рахунку, гадоў толькі ў дваццаць сем, а Дубаўца ў гэтым узросце, ды дзе там, раней, такія ўжо людзі ведалі!

Літаратурным нацюгам нумар два быў “окопавшийся враг” усяго пралетарска-інтэрнацыяналісцкага, журналіст і знаўца гісторыі Уладзімір Арлоў. Гэты настолькі заця́ўся, што некаторыя асобы наверсе, ці то пісьменніцкім, ці то чыноўніцкім, ці то на абодвух вярхах, бачылі ў ім нацюгу нумар адзін, нацюгу нават па-за спісам, бо яго нават у Маскву пабаяліся пусціць, хоць ён ужо тады справядліва лічыўся нашым самым таленавітым маладым празаікам. Забаяліся пусціць Уладзю ў “першапрастольную”, бо ён, барані Божа, мог бы ўтварыць нам, памяркоўным беларусам, адвечным сябрам старэйшага брата, такую гідкую рэпутацыю, што з беларускай прапіскаю перасталі б увогуле пускаць у Маскву, нават дапамога самога Грамыкі не ўратавала б.

Тады ён, вораг, значыцца, Савецкай Беларусі нумар два, азлоблены на ўсё расійскае, затаіўся ў цыганскай сваёй бярлозе ў камсамольскім горадзе Наваполацку і з яшчэ большым імпэтам прадоўжыў падрыўную сваю разбуральную работу: накрэмзаў на сапраўднай беларускай, чыста слонімскай паперы, свае славутыя опусы “Клён”,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



“Місія папскага нунцыя”, нейкіх там мужчын у леснічоўцы і яшчэ якуюсьці прапаганду, пададзеную пад “выглёндам” мастацкае этнаграфіі, так што ў чыноўнікаў працы стала хоць не спі: днямі й тыднямі выломваліся ў іх глузды, як гадалі яны, што там за клён, якія ёлупы не маглі яго толкам ссячы і што за ангельскі інструктар Пазняка прыехаў каламуціць спакойную нашу Беларусь у абліччы папскага нунцыя, дый увогуле, якога хрэна тут нунцый, калі й так з польскім ды гадээраўскім консульствамі працы па горла!

Значыцца, гэтак раззлавалі немаскоўскія, свае, домарослыя камсамольцы Уладзю Арлова, што ён неўзабаве быў аб’яўлены першым маладым празаікам і нават атрымаў іхнюю "камсамольніцкую" прэмію, адмаўляцца ад якое ў той час было небяспечна.

Мяркую: як у Галоўліце чыталі, гэтаксама і прэміі раздавалі.

Дарэчы, найбольш мне запомніліся ў Маскве два выразы — і абодва вечна маўклівага Галубовіча.

Пра адзін я ўжо згадваў у “ЛіМе” два гады назад (ён сказаў дзяўчыне насупраць, у караценькай спадніччы: “Закрый свае ногі, я за імі душы не бачу”).

Другі — сышоўшы ў Маскве на перон, ён прамовіў: “Масква, якая ж ты маленечкая!” — і гэта была не банальная канстатацыя.

Як вам захочацца на поўніцу даведацца, што ж там адбывалася і здаралася ў Маскве гэтай тым самым часам, як прыехалі туды мы, дык звярніцеся, калі ласка, да Віктара Шніпа. Ён хадзіў за Галубовічам што прывід, — ён, здаецца, і спаў з ім подых у подых, прынамсі прыводзіў яго ў запаветную залу на апошнім паверсе, з немалымі, трэба сказаць, цяжкасцямі, — у чалавека ж цалкам была зруйнаваная сістэма каардынацыі й раўнавагі, здавалася, што ўжо назаўжды, — а пасля яшчэ з большымі цяжкасцямі адносіў яго ў нумар, — а вы ж паглядзіце на таго Шніпа й Галубовіча таксама: я вам скажу, несці Лявона праз восем

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



паверхаў зверху ўніз (у ліфт не пускалі, баяліся, мабыць, пагрому), гэта вам не падарунак — вясковы геній дарма што дробны з камплекцыі, а скажу вам па сакрэце, тоўсты дый яшчэ цяжкі, бо варонінская ачышчаная ўпрыкуску з маскоўскай казёнкаю такі эфект дае, што, каб набіраць вагу, і есці не трэба — калі б Лявон яшчэ і еў, то яго тады, выбачайце, зусім бы распёрла.

Дык вось, дома ў Шніпа ляжыць схаваная на антрэсолях шэрая торба, якая калісьці была ўсяго толькі торбачкай, і ў торбе той, скажу вам зноў жа па сакрэце, — глядзіце, нікому не раскажыце, асабліва прашу не паведамляць у камітэт, — месціцца мемуарная скарбніца беларускага літаратурнага пакалення пяцідзесятых-шасцідзесятых гадоў нараджэння. Там на кожнага лічы што дасье, якім аніякі камітэт і блізка пахваліцца не можа, — ох, як далёка тым камітэтам да Шніпа!

Калісьці ўразіў мяне падчас семінара маладых пісьменнікаў у Доме творчасці “Іслач” тады яшчэ зусім малады гарадзенскі паэт-авангардыст ды хуліган-эпатажнік Юры Гумянюк. (Год быў дзевяносты альбо дзевяноста першы.) Я раней паспеў ужо прызвычаіцца бачыць яго ў белым элегантным гарнітуры, з бардовым гальштукам “матыльком”, ацаніў ягоныя неблагія, падобныя нават да акторскіх пластыку ды жэстыкуляцыю, міміку, — глядзеў на яго і думаў, што вось і ў нас можа з’явіцца свой паэт кшталту Ігара Севяраніна.

А тут на “Іслачы” з’явіўся, як заўсёды, што віхур, падвяселены, як амаль штодня, выдатны паэт і першы наш багемшчык Анатоль Сыс, прыцягнуў з сабою аднекуль узятых, усё роўна напракат, украінскіх паэтаў, — і ўсё ў імгненне змяшалася: сшыткі, рукапісы, шклянкі, шматкі хлеба і сала, а галоўнае, ці не з неба звалілася вялізная ёмістасць нейкае даволі смярдзючае самагонкі.

Пілі па чарзе, па тры чалавекі: столькі было шклянак. Надышоў чарод апошніх, і выявілася, што іх чатыры. Сярод іх быў і Юры. Ён узяў пляшку з не такім ужо і малым

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



астаткам гарэліцы на дне і чокнуўся гэтай пляшкаю з таварышамі па семінары, якія трымалі ў руках шклянкі. А потым гэтак артыстычна пракаўтнуў гэтую вадкасць, гэтую рэдкасную гідоту (мяне, як я і піў, ажно перасмыкнула), што я яшчэ доўга здзіўлена ўзіраўся ў гэтага ружовашчокага поўненькага юнака. А ён дык нават закусваць не стаў. Што гэта было? Поза? Жаданне паказаць сябе на роўных з Сысам, тагачасным кумірам літаратурнае моладзі, ды іншымі старэйшымі калегамі, жаданне вылучыцца сярод аднагодкаў, сцвердзіць сябе?

А потым ён падышоў да мяне, падарыў мне сваю публікацыю — старонку з "Гродзенскай праўды" з ягонай нізкаю вершаў. Я адно прабег яе вачыма, як адразу зразумеў: гэта таленавіта.

І, згадаўшы гарнітур, а потым перавёўшы позірк на апустошаную ім пляшку, падумаў: "Будуць, будуць у нас свае Севяраніны".

Калі я пісаў "Камедыянта", дык звялі мяне добрыя людзі з Язэпам Янушкевічам, які займаўся тады, мо як зямляк, творчасцю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — яму прысвечана гэтая мая адзіная неблагая п'еса.

Язэпу, бачыў я, было вельмі прыемна, што вось з'явіўся чалавек, які піша пра Дуніна-Марцінкевіча нешта мастацкае. Размова захапіла нас абодвух.

Пераходзілі вуліцу Янкі Купалы, нялюдную, амаль безмашынную. Язэп махаў рукамі, штосьці распавядаючы, і гэтак захапіўся, што ледзь не трапіў пад аўтобус. Прынамсі, у мяне ўражанне было такое, што ён ілбом ледзь не сутыкнуўся з краем кабіны. Я перапалохаўся — жах! — збялеў. Хоць сам я ўбаку быў, але ж... Шафёр ажно ззялянеў, абклаў яго жудасным матам.

А суразмоўнік мой, перад тым як прадоўжыць адказ на маё запытанне, супакоіў мяне, шчыра смеючыся: "Ат, лухта! Гэта сёння ўжо трэцім разам".

Увесь свой век згадваць буду.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





## Таццяна БАРЫСЮК

### ТЫ ПОМНІШ?..

Ты помніш сарамлівасць хваляў,
Электраімпульсы між намі,
Вятры як цені дрэў хісталі
І дол пад нашымі нагамі?

І як нябёсаў блаславенне,
Зіхцеў на месцы нашых стрэч
Паміж асфальтам і каменнем
Жоўтагаловы дзьмухавец.

Імгненнасць вечнага ў канечным,
А шчасце – не для легкадумных.
І час не лечыць, а калечыць
Камедыянтаў багахульных.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





# Людка СІЛЬНОВА

*Я ведаю гэту мову*
*І гэты абрад таемны –*
*Ператвараць у словы*
*Кожны прадмет наземны.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## Дзень, які пачынаўся табою

Дзень,
якi пачынаўся табою, –
Бы перакулілі
вядро з сырадоем!

І белым, імклівым,
таемным цяплом –
Як хлыне
на вочы і вокны, і дом

Насупраць майго,
і двары, і дарогі,
Бульвары, прысады
і зорныя рогі

Барана, што ў небе
пасе маю сутнасць...
Усё асвятліла
твая мне прысутнасць!

І як падхапіў хто
за ручку вядро,
У небе – як грымне
раскацісты гром!

## ГРАМНІЧНАЯ СВЕЧКА

Тваё імя –
страшуся вымавіць.
Ледзь-ледзь

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Знаходжу сілы я,
каб выдыхнуць:
“Мядзведзь”.

“Мядзведзь”... Схаваць цябе?
Ці выявіць?
Скрозь – ледзь?..
Бо тонкай свечцы
хутка выбаліць
Гарэць.

## НЯБЕСНАЯ ЦЫГАНКА

Ты ўварваўся
ў маё жыццё –
Нібыта
гадальных карт адкрыццё!

На пальцах
у сінякосай цыганкі
Блішчаць і спяваюць
пярсцёнкі-маланкі.

А чорная
ў сотні фальбонаў спадніца –
Бясконцых нябёсаў
прастор і тайніца.

Кашуля наросхрыст –
валодай, стыхія,
Агонь аці вецер,
ці словы якія!..

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



(“О, як мне адолець
няведання боль?
Скажы мне, ты – мой
цёмнавокі кароль?..”)

Бунтуюць грамы,
і змяяцца маланкі
Пад пальцамі ў грознай
празрыстай цыганкі!

## МАЛІТВА Ў НАВАЛЬНІЦУ

Божа! Прывядзі мне
майго каханка!
Абаіх зашпілі
на сваю маланку!
Злучы берагі
нашых розных матэрый,
Назаві гэта актам,
любоўю, містэрыяй!..

Ад усіх мы – скрыем
гэту таямніцу.
Да апошняга ранку
будзем з ёй таіцца.
А як канец прыйдзе
часу і пrасторы –
Згубімся, як рыбка
у барвовым моры.

Рыба тонкая,
серабрыстая...
Ці гэта маланка трапечацца, бліскае?

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## НЯСТРЫМНАЯ ПЛЫНЬ

Па Дзвіне плывуць крыгі.
Па небе плывуць аблокі.
Сядзела Ластаўка на плячы
ў Мядзведзя,
Іх знесла ў край далёкі...

Я ведаю гэту мову
І гэты абрад таемны –
Ператвараць у словы
Кожны прадмет наземны.

Па Дзвіне плывуць крыгі...
Па небе плывуць аблокі...
Мае пяшчотныя крыкі
Адносіць у край далёкі.

На падваконні – пралескі
Падораныя стаялі.
Відаць, у Горад Нябесны
І іх назаўжды забралі.

## ЗВЕР У ГОРАДЗЕ

Вып'ю ў хлебнай краме кавы.
Выйду – што такое?
Горад сумны, нецікавы,
І ў вясёлкі, што над крамай,
Скралі жоўты колер.

Запаволены ўсе рухі,
Транспарт ледзьве едзе,
Ў слухаўках няма што слухаць...
Горад поўны тайнай скрухі:
Ў ім – няма Мядзведзя.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Без яго мне Мінск няпоўны!
Ён – душа жывая
Гэтых сцен, празмерна роўных,
Паркаў, вуліц паслядоўных,
Каляін трамвая...

---

Любы мой! Хутчэй вярніся
Да мяне з дубровы!
Ці – у сне хоць зварухніся,
Смутным рыкам адгукніся,
Счуўшы мае словы.

## ЦАРСКАЕ ДЗІЦЯ, або ЗЯЛЁНЫ КОЛЕР

Падняўшы дзіця галасістае,
Рассунуўшы словаў пялёны,
Я ўведала тайну душы тваёй –
Праніклівы колер зялёны.

Прыціснуўшы, цяжкай дарогай
У горад пайшла крышталёвы,
Дзе робіцца ўсё з анічога,
Спаўняюцца мары і словы.

Ля ног уладыкі з паклонам
Паклала дзіця дарагое.
(Не помніць вачэй бы зялёных,
Зацягнутых гордай тугою!)

І ўсё – азарыла наўкола!
Ў палац пазляталіся птушкі,
Ўвайшлі, нібы дзеці, жывёлы
З палёў густатравых і пушчаў...

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



І бачыла я, як царыца
Ў смарагдавым садзе гуляла,
Схілялася ціха над дзіцем
І радасных слёз не трымала.

## СЛІВА

За што мне такое каханне
Прырода мая падарыла –
Чуць сэнсаў, як сліў, калыханне
На схіленых з неба галінах?..

Відаць, у дароўным нахіле,
У графіцы іх вертыкальнай
Ёсць тайная, дзіўная сіла,
Так блізкая да ідэальнай.

## ДУРНІЦА, або ШМАТМЕРНАСЦЬ

Закахаюся й стану
дурніцай,
І спасцігну нарэшце
ўсе тайны!
Распрану –
і расцісну чарніцы
На табе,
мой таемны каханы...
Буду ціха люляць
у калысцы,
Як дзіця,
свой знявінены розум...
Ні турбот, ні бяды,
ні карысці!..

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Разлюблю цябе –
стану сур'ёзнай.

(Толькі свет
падурнее наўкола,
Загрукоча
бразготкай вар'яцкай.
Стане вострым усё
й выпадковым,
Як у калейдаскопе
дзівацкім...

Буду я –
наймудрэйшая воя,
Што нясе па начах
сваю варту!
...На світанні
ўпаду галавою
На пальчатку,
на кнігу
і мяту.)

## АРХЕОЛАГІ

1.

Мы людзі, любы!
І з нас любы
Патрэбу мае
Ў паветры й хлебе...

Мы – археолагі.
Капаем:
Ты на зямлі,
Я ў небе.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



2.

З-за хмаркі я
Зірну таропка:
“Ну, як ты там?
Знайшоў чаропкі?”

“— Знайшоў! А ты
Свае фрагменты,
Нязгасных ісцін
Дыяменты?”

“— Знайшла!
І гэтак табе ўдзячна!..
Вазьмі крыху
Для справаздачы...”

3.

А можа ўсё,
Што адкапаем,
Мы ссунем разам –
І спазнаем,

Якім было ўсё
Напачатку
У залатым – нябітым! –
Яйку?

## ПАГАНСКІ ПАРТРЭТ, або ІДЭНТЫФІКАЦЫЯ

Сярод звяроў ты – Цар-Мядзведзь
Касматы і вялікі.
І вабны голас кліча: “Лезь

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Па мёд салодкі дзікі
На кожнае з духмяных дрэў,
Дзе ўчуеш пчол суладны спеў!..”

А сярод дрэваў ты – Каштан,
Зялёны князь паўднёвы.
Для закаханых гараджан
Свае ўступаеш сховы.
Твае круглявыя дары
Кішэні поўняць у дзятвы...

Ты – Навальніца сярод з’яў
Прыродных і стыхійных!
Твой дождж мяне наскрозь працяў,
А град прыбіў грахі мне.
І зноўку – сонца паміж хмар!..

Маёй прыроды ты ўладар!

## КЛЮЧ

З чым я цябе
параўнаю, мілы?
З брамай, парослай
скрозь зелянінай.

З шурпатым брукам
сталічных вуліц.
З жалобнай песняй
восеньскіх вуціц...

Ускрыкну
на самым
краі пачуцця:
“Ты – ключ
да пякучых
тайнаў жыцця!”

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





## Сяргей РУБЛЕЎСКІ

*Быў з Маці,*
*буду з Айцом.*
*А пакуль адзін,*
*усё імкнуся, імкнуся, імкнуся*
*ўспомніць будучыню.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# АПАЛАГЕТЫКА АДЗІНОТЫ

Разгаварыліся мы аднойчы з Валодзем Перапечным пра адзіноту, а ён мне і кажа:

– Дык чалавек жа скрозь адзінокі, усё зямное жыццё. Толькі не адзінокі да нараджэння і пасля смерці...

Ішлі мы з ім па парку, тут я і стаў, як агаломшаны. Але стараўся не паказваць здзіўлення, толькі запытаўся, дзе ён гэта вычытаў.

– Не памятаю ўжо, – сказаў са звыклай для яго ўкрадлівай інтанацыяй Валодзя. – Гадоў дзесяць таму пра гэта дазнаўся, а хто той мудрэц, дзе чытаў, пачуў ад каго – забі, не ведаю. Яно і не важна.

Абыякавасць майго сябрука і асабліва яго спасылка на час, маўляў, даўно тое было, нават пакрыўдзілі. Думка пра адзіноту засела, як стрэмка пад пазногаць: першы нечаканы боль прайшоў – і я супакоіўся, а нарываць-торгаць пачало крышку пазней.

Да нараджэння і пасля смерці! Вечнасць без адзіноты, перапыненая на імгненне легкадумнай спробай самаўсведамлення, памкненнем як-небудзь звязаць нечаканы дарунак – жыццё – неадольным абсягам існага, які падае аб сабе знакі грымотнымі водбліскамі.

А не было ж ніякіх водбліскаў, калі я быў з Ёй. Цьмяны космас улоння і я, астранаўт, выпушчаны ў адвольнае плаванне на жыццядайнай повязі пу-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015


павіны. Нічога не ўзгадаць сёння пра тое плаванне ў неабсяжнай вадкай прасторы, хоць яго падзеі і асаблівасці хутчэй за ўсё да драбніц пазначаны дзе-небудзь у падсвядомасці, і яшчэ спатрэбіцца гэты досвед, калі скончыцца мой супынак, дагарыць, як восеньскае цяпельца, мая адзінота. Калі я буду ўжо з Ім. У адкрытым космасе, толькі пупавіна будзе ўжо іншай, перавітая тымі самымі грымотнымі водбліскамі-зараніцамі. Яны ўжо адбіліся няўцямным сімвалам у маіх зрэнках.

Быў з Маці, буду з Айцом. А пакуль адзін, усё імкнуся, імкнуся, імкнуся ўспомніць будучыню.

Мне добра, калі нікога наўкруг. Дзе яшчэ знойдзеш лепшую магчымасць ні з кім не заспрачацца, нікога не пакрыўдзіць, не абразіць, не глянуць па-суроцку, скасавурана, не штурхнуць незнарок, не хукнуць цяжкім духам, не даверыцца з прастаты сваёй усёй душою, не абцяжарыцца надзеяй на нязвыклую дапамогу, не прылашчыць смелым спакуслівым позіркам чужую жанчыну, не абвергнуць у бездань сваё сэрца абяцанкам шчасця, адчужыцца і тым самым не займець колькі новых грахоў. Крыху выслабаніць сваю сасмяглую душу ад іх нудотнай згрызоты. Каб не так баяцца сустрэчы з Ім.

Нам цяжка прызнацца, што падсвядома прагнем гэтай сустрэчы, бо зноў і зноў здзіўляемся прыкрасці адзіноты, не можам звыкнуцца з ёй, не ведаем яе сутнасці, як матылькі не ведаюць згубнай сутнасці агню.

І тады мы звяртаемся да Яго, прымерваемся, нахабна робім аналогіі, думаем, што і Ён мае адзіноту і па-бацькоўску навучыць яе вабіць. Той, хто ні з кім не раіцца, ніколі нікога не кліча, нікога не змушае. Той, хто не мае смутку, каб прыпасці ў самоце да роднага плечука, не мае згубных звычак, ні з кім не спрачаецца і нікому не пярэчыць, хто не мае свайго “я”, таму што ніколі не быў сярод роўных, розных, іншых.

...Я ішоў і не думаў, калі скончыцца лес. Таму што не

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



хацеў выходзіць з яго. Ішоў няспешна, і душа мая, атуленая зялёнай гаманлівай прыгажосцю, сама станавілася супакоена прыгожай і акрыленай. Як рэліктавы глушэц паважна сцяжыніць свой шлях між соснаў ды мае мужнасць не ўзлятаць ад першага спуду, так і душа мая, намацаўшы трывалае зямное апірышча, упэўнена прасоўвалася ў нязведаны абсяг, здаецца, назаўжды пакінуўшы ў мінулым нудоту сумневу ды гарачае вуголле жарсцяў. Рэдкія зніцелыя краскі цвілі, на пагорках месціліся дзівоснымі карункамі плямы срэбра-блакітных імхоў, як сцяна ячменю, стаяў у лагчыне шурпатай шчоткай верас... І здавалася, няма наўкруг нікога – ні ваўкоў, ні вужакаў, ні жабак розных, ні барсукоў, ні начных пухнатых птахаў. Адзінота. Хоць і не сведчыш, укленчыўшы, што раб Божы, а думаеш пра Яго, пра тое, як дзіўна разлілася Яго воля па кожнай іголачцы, кожнай жылцы лісцінкі, па кожнай тваёй жылцы нарэшце. Адчуўшы адзіноту, раптам напаўняешся і вострым адчуваннем пульсацыі свайго жыцця, яго нязмушанага ў гэтых абставінах цячэння. І я забыўся на сваю больку, на сваё знявечанае хірургічным верадам цела. Здаецца, цэлы свет лёг мне бінтом на рану, доўгім бінтом-сувоем, як мой шлях па баравых пагорках ды лагчынах. Шлях, як малітва...

Набраць паветра ў лёгкія, нібы перад нырцом у сцюдзёную ваду, і вымавіць: мы створаны на Яго падабенства. Гучыць, як зарок ад смерці, як абяцаная магчымасць хоць адно імгненне пажыць у цяню Яго існасці і шчасліва ўсвядоміць, што ты ўжо не адзінокі. І нават больш за тое – адчуць трывалую знітаванасць з Ім. І з гэтай прычыны магчымасць зрабіць колькі крокаў услед, па Яго сцяжыне. Адважваюцца самыя адчайныя. Малююць на палатне краявіды, лепяць з гліны людзей, сукаюць на верацяне сваёй душы ніткі адвечных гукаў, злучаюць у ланцужок словы, жывуць самападманам: маўляў, і ім адкрыліся законы злучэння драбніц у суладнае цэлае.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Але чым бліжэй мы да Яго, тым глыбейшае прадонне, якое нас размяжоўвае. Тым больш невыноснай і адчайнай становіцца наша адзінота, як кара за адчайны замах на непамыснае. І тады мы бярэм сваю адзіноту, як ртуць, у прыгаршчы – сустракаемся, раімся, абдымаемся, дзелімся чым толькі можна, нават думкамі.

А потым, няўцямныя, зноў зачыняемся ад свету: хапаемся за пэндзаль, за струны, камшаем гліну пальцамі, выводзім слоўцы на паперы, каб хоць крышачку матэрыялізаваць той водбліск, тую зараніцу самападману аб нашай шчырай лучнасці з Ім.

Матэрыя – гэта спачын душы. І вяртанне да адзіноты. Вось яна ўжо духмяна разлілася па пакоі пахам пражаных зярнят кавы, запыхкала тытунём, зарыпела чыстымі масніцамі.

...Ой, паганец я, паганец, нічым не магу суцешыць сваю гаротную маці. А яна аднойчы зайшла з трысцена ў хату, дзе сястрыца мая нядаўна сканала ў кутку на ложку, як пабачыла: сонейка грае на бёрнах, на падлозе ды грубцы, сінічкі ціўкаюць за вакном у прадчуванні сакавіцкіх дзён, дык і пайшла адразу ў сенцы па вяроўку. Бягуць слёзы, слепяць вочы, а яна вяроўку пад бэльку прасоўвае, стоячы на табурэтцы, высільваецца, ледзь дастае. Такі нямілы для яе белы свет, такі балюча-спеўны, іскрысты ды гаманлівы, што невыносна трываць. І нішто больш не суладна яе душы – ні пошум ветру, ні падзенне кроплі са страхі, ні зорачка ў зімовай цемрадзі. Адным часам маці мая нават на Божачку пакрыўдзілася, што так увачавідкіператварыў яе жыццё ў згубу-адзіноту, кару-адзіноту, ды зірнула яна незнарок на стол, калі валаводзілася з той вяроўкай, годнай хіба што на гуж ці сена на возе ўціскаць, і пабачыла на ім кнігі ды часопісы, ды пісямко даўняе са знаёмым да драбніц дзіцячым почыркам – тут у яе рукі і апусціліся. Выдрала вяроўку з-пад бэлькі, скруціла па-мужчынску, цесна дый

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



аднесла назад у сенцы на цвік. А ў хату стараецца больш не заходзіць яснымі днямі, спіць у трысцене. І моліцца там.

...Хаджу з кута ў кут і абдумваю самае таямнічае ў свеце злучэнне слоў: "раб Божы". Слоў, якія складваюцца, як два крыльцы мятліка. І мятлік сядае на востры край маёй адзіноты. Так і сядзіць, пакуль яна не націскае кнопку званка. Пазваніла – і ўзляцеў, спуджаны.

І вось з ёй, адзінай, мы сплятаем на ложку галіны рук і ног, як сплецена пад паўднёвым сонцам гнуткая вінаградная лаза. Але адзінота ўсё ж вострай дзюбкай праклёўвае скарлупку прыдумкі аб духоўнай еднасці. Балюча вострa. Хоць можна перацярпець і сто, і дзвесце гадоў.

...Чарнец праспаў паўгадзінкі і зноў прачнуўся. Укленчыў перад іконкай у кутку келлі і зноў пачаў шаптаць "Ісусаву", можа, двухсоты ці які раз за ноч. На сцяне, над ложкам чарняца вісяць старыя, немудроныя ходзікі, якія ён кожны раз спыняе, калі расчынае малітву, а потым, устанавіўшы правільна стрэлкі па электронным гадзінніку, зноў запускае тонкую драцінку маятніка. Ходзікі засталіся на памяць ад маці, і чарняцу здаецца, што яны паўтараюць адмераны рытм яе сэрца. Калі ён быў у яе ўлонні, зверху, з-пад цёмных скляпенняў яе касмічнага небасхілу даходзіла ледзь чутнае рэха то супакоеных, то трывожных частых штуршкоў. І вось цяпер ходзікі – і ён, скурчаны на ложку. І гэта адзінота.

Чарнец ужо заўважыў, што калі ён спыняе ходзікі і расчынае малітву, па-інакшаму пачынае біцца і яго сэрца, суразмерна націску на святых словах. І нават калі закончыць шаптаць, сэрца яшчэ пэўны час б'ецца ў гэтым асаблівым рытме, нібы ўся яго зямная існасць звяртаецца да Уладара нябёсаў. І тады чарняцу здаецца, што ён не адзін у келлі і не адзін у сусвеце.

Бывае, крыкнеш – і не чуеш сябе, а толькі горнае рэха...

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Агорваючы старонкі Бібліі, так выпала, што Кнігу "Іова" прачытаў дома, у бацькоўскай хаце. Лета заляпіла шыбы тапалёвым пухам, атуліла духатой і парнасцю. Спрыяла маркоце і чытанню.

Я загарнуў Вялікую Кнігу з двоесным пачуццём: з аднаго боку, было вельмі прыемна ўзвысіцца яшчэ на адну прыступку ў бясконцым узыходжанні да Існага, а з другога – разам з супакаеннем у душу тоненькай іголачкай уваходзіла і балючая трывога. Так узрушыў лёс праведнага шматпакутнага Іова, душа якога і ў жорнах выпрабаванняў зберагала зярняткі веры. Вера – шлях: нага ступае, а душа трывожыцца, яшчэ не зразумеўшы, які перад ёю адкрыецца бясконцы абсяг. Можа, у прадчуванні вызвалення ад цесных путаў; можа, ад развітання са звыклым.

Мне захацелася развеяць гэтую трывогу, а лепшых лекаў, чым рыбалка, я не ведаю. Сабраў свой рыштунак, усчапіў на плечы гумавую лодку і ўжо збіраўся выходзіць з двара, як запыніла маці: куды ты сабраўся, што ўдумаў, паглядзі, як хмарыцца, бачыў, як учора маланне хвастала, да ніткі вымакнеш... Але мая зацятасць і засяроджанасць былі непахісныя. Саступіў толькі ў тым, што прыхапіў на плячо цыратовую накідку ад дажджу. "Я са сваім возерам і паміж



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



дзвюх аблокаў праціснуся", – падумаў сабе. Так карцела пабыць аднаму.

А маці ж заўсёды праўду кажуць: праз якую гадзіну неба загусцела цёмна-сіняй ватай і ўсчалася такая залева, што здавалася, і за бортам лодкі закіпае вада. Трэба ж мне было заякарыцца якраз пасярэдзіне возера. Праўда, накідка ўратоўвала, буйныя кроплі адскоквалі ад яе, як ад барабана. Не бяда, каб не пярун: неба трэскалася, як скарлупка слабога яечка ў кіпені. А я сядзеў пасярод гэтай залевы, як крук, да апошняга. І няўмела суцяшаў сябе: маўляў, электрычнасць пульсуе, электроны ўз'юшыліся...

Але калі апошні раз неба трэснула ад грымотаў, здавалася, прама за спінай, і хрыбетнік мой адчуў рэзананс ваганняў спрасаванага паветра, я не вытрымаў: падняў якар і, шпарка перабіраючы вёсламі, накіраваўся да берагу. Грымоты не сціхалі. Я схаваўся пад шатамі алешыны, перажагнаўся і неяк натуральна-лёгка вымавіў: "Госпадзе..." і далей нешта накшталт малітвы. Так і стаяў. А калі дождж пачаў аціхаць, аціхалі з ім і мае ўсполеныя думкі, і я прыгадаў толькі што чытанае і кароткае, як енк на ўвесь сусвет, імя Іоў...

Словы Бібліі, па сутнасці, прасякнуты скразной ідэяй павароту нашай няўцямнай галавы тварам да святла Існіны. А гэта, аказваецца, вельмі няпроста, бо душа наша, бывае, як дзіравы дах, пад якім цемра з усіх бакоў прасвідравана бліщчастымі промнямі. Так і круцім галавой у розныя бакі. І патрэбны, здараецца, зрухі тэктанічных пластоў, закіпанне буруновых хваляў, пранізлівае ваўчынае выццё завірухі ў бяскрайнім стэпе, пашчапанае бліскавіцай неба, каб схіліць перад Ім галаву і адчуць сваю свядомасць лёгкім пёркам, якое паволі падае долу, а не каменем, які ляжыць узбоч бойкай дарогі.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# У КУТКУ ЗІМАРОДКАЎ

Прызнацца, мне па-ранейшаму даволі цяжка займець спрыяльныя ўмовы для больш-менш лёгкага пісьма, каб думкі асядалі на паперы, як матылькі на ўквечаным лузе. То падбіраю асадку, то папера не тая, то зноў мару аб асаблівым, зробленым у адпаведнасці з маёй мрояй стале – выдатна габляваным, з суцэльных дошак. А найгалоўнейшае – вядома, асяроддзе, дзе месціцца той стол, прастора, атуленая нязмрочнымі ды трывалымі сценамі. Вельмі важна падкрэсліць сваю адзіноту, наўмысна змусіць душу адрачыся ад паўсядзённых і паўсюдных повязяў. Для гэтага цудоўна падыходзіць маленькі пакойчык у сваёй жа кватэры, калі запаліць у ім святло апоўначы: жонка заснула на канапе, дагледзеўшы сваю 201-ю серыю, а дзеці, вярнуўшыся з гуляў, заціхлі вінаватыя ў сваім прытулку. Гэта куды лепш, чым у якой-небудзь казённай гасцёўні, бо можна раз-пораз хадзіць крадком на кухню і гатаваць сабе няхітрую гарбату з каліўцам меліссы. Праўду сказаць, і хатняя зацісную тасць надакучае.

Дужа спадабалася пісаць у адным рыбацкім дамку на дзікай прыстані, без выгодаў, без электрычнасці... Запаліш газнічку – і яшчэ больш адчуваеш сваю адасобленасць ад змарнелага ў жалезабетоне людства. Услухоўвайся хоць тысячагоддзе, а пачу-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



еш толькі паразовы хваляў ды выццё здарожанага ваўка...

Такую будыніну ўдружыў мне аднойчы на тыдзень даўні сябра, які працуе ў адной вельмі ўплывовай установе, а ў якой – пакуль сказаць не магу, каб не нашкодзіць у яго руху да яшчэ больш цёплага месца пад сонцам. Калі ён днямі патэлефанаваў са сваіх Круцялёў і запрасіў у госці, падумалася, што зноў хоча завабіць мяне ў тую рыбацкую хатку, бо з пэўнай пары сябра з прыкметнай настойлівасцю і асалодай пачаў апекаваць маю літаратурную працу. Якое ж было маё здзіўленне, калі гаворка зайшла зусім не пра хаціну, а пра доўгачаканы аб'ект "нумар нуль", адбудаваны нарэшце для Шэфа і які таксама перайшоў ва ўладанне майго сябра. Вядома, калі няма "яго самога". Доўга слухаючы расповеды Кастуся пра гэтае будаўніцтва, я, цалкам заінтрыгаваны, ужо ніяк не мог адмовіцца ад запрашэння пісаць у прытулку, дзе ўсё створана для творчасці, каб думалася аб значным і высокім. А больш за ўсё ўсцешвала тое, што на аб'екце "нумар нуль" адбудавана найлепшая ў свеце лазня. З прасторнай парылкай, глыбокім басейнам, прыемна аздобленым вялікім камінам, дыхтоўнай мэбляй, з гарышчам, напоўненым духмяным водарам бярозавых і дубовых венікаў, перакінутых парамі цераз тоўстыя струганыя жэрдкі. Вядома ж, як прынята ў праўдзівых беларусаў, кіпень на камяні падаецца з карца, а трымаецца ў невялікім цабэрачку, нацёртым усялякімі травамі ды прыправамі і замочаным у лідскім піве. Гэта ўсё выштукоўванні майго дарагога Кастуся. Можа, ён што і перайначыў, робіць па-свойму, не так, як людзі, але ў рэшце рэшт усё ў яго атрымліваецца надзіва спрыяльна для добрага пачування ў самахоць расчыненым пекле. Да таго ж гэта Кастусёў прынцып: дзе ні працуеш – адбудуй адмысловую лазню: будзеш на роўных з самымі высокімі людзьмі (нават з маршалам, бо ў парылку ў пагонах не ходзяць). І з Шэфам.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Лепш было б мне не ўсчынаць пра лазню, не прыйшлося б рабіць такога кругаля, збочыўшы з бойкай дарогі. А што зробіш, у кожнага свая слабіна, у нас з Кастусём вось такая банальная.

Затрымаўшыся на апісанні лазні, я ўжо, з вашага дазволу, не буду распавядаць пра вонкавы выгляд аб'екта "нумар нуль", яго архітэктурныя адметнасці, нават пра рэчку, на беразе якой стаіць аб'ект. І сасновы барок на плаўных пагурках прапушчу, хоць, шчыра кажучы, дужа карціць распавесці пра гэтае хараство. Звыклы да мітусні пераменаў, я асабліва не вынošу застыглых, як у вакне ці на фота, краявідаў. А тут палюбіў. Відаць, разнастайнасць ліній, гукаў, рознага птушынага ціўкання ды галлёвага пошуму, іскрыстасць зеляніны, зіхоткае рабацінне хваляў, каляная мулкасць рачнога пяску ды кілімавая прыветлівасць глыбокага мху ніяк не дапасоўваліся да вонкавай метафізічнасці гэтага кутка зямлі, у якім, здавалася, мала што змянілася за апошняе дзесяцігоддзе, не кажучы ўжо пра год. Адным словам, мне захацелася пісаць. Балазе атуленне сценаў было самым памяркоўнымі і някідкім. Ды яшчэ – усё ў беларускіх традыцыях: саломка, лён, смаляныя дашчуркі… А стол, як я і хацеў, увачавідкі пісьмовы, а не які-небудзь універсальны, прыдатны і для раскатвання цеста, і для прасавання штаноў.

– Ты думаеш, чаму я цябе асмеліўся сюды пусціць? – неяк па-змоўніцку запытаўся сябра і сам адказаў на пытанне. – Таму, што Шэф заявіцца сюды ў крайнім выпадку праз месяц. А ты будзеш у мяне своеасаблівай лакмусавай паперкай, падскажаш, дзе што не так. Твайму густу веру.

– Добра, што не гліняным гаршком. У печ лезці не прыйдзецца, – пажартаваў у сваю чаргу я, і мы пайшлі купацца ды выпіць з нагоды сустрэчы якую чарку-другую гарэлкі.

Так прайшоў вечар, а раніцай я яшчэ лепш агледзеў

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



наваколле, нахадзіўшыся да сняданку па берагавой сцежцы.

Харчаванне ў невялікім рэстаранчыку на першым паверсе рабіла маё жыццё вельмі падобным на пансіянацкае, бестурботна-гультайскае. Каб не згрызоты творчасці, якія, бывае, апаноўваюць, як вялая ды надакучлівая хвароба. З гэтай прычыны позірк мой стаў ужо разгубленна-невідушчым. Кастусь, ведаючы ўжо пра маю звычку, не назаляў больш расповедамі пра жыццё сваіх пастаяльцаў ды роспытамі пра аднавяскоўцаў ды знаёмцаў, пра ўцехі віцебскага папсовага фестывалю. Гэтую далікатнасць я таксама далучыў да апекавання маёй творчасці, памкнення не перабіць натхненне. І быў усцешаны. Адзінае, што мяне трывожыла, дык гэта боязь, каб не заўважыла маю ўнутраную засяроджанасць і не насцярожылася ўсмешлівая, круглабокая і прыязная, у модным накрухмаленым фартуку афіцыянтка Зойка, якая накрывала і падавала на стол у рэстарацыі. У гэтым адмысловым інтэр'еры, застаўленым пяццю столікамі з крэсламі, мы былі толькі ўдваіх – на снеданні, у абед і на вячэры. Заняты гаспадарчымі клопатамі, Кастусь забягаў толькі на якую хвілінку: пачуць ад мяне, што гатуюць кухары вельмі смачна, ды выпіць філіжанку кавы. Тым часам я ўжо напісаў колькі старонак невялікага даследавання "Пра Яе ў лістах да Зміцера" аб узаемаадносінах закаханых, і адпаведны настрой, які лёгка магла падарыць мне Зойка, быў бы вельмі да месца. Я пачаў даражыць яе ўсмешкай і надзіва шчырым жаданнем спадабацца. Бадай, толькі ежа ў спалучэнні з Зойчынымі чарамі перапынялі манатонную хаду маіх гадзінаў, і я, што заўсёды бывае, калі сядзіш крукам за рукапісам, стаў позна засынаць, прачынацца пасярод ночы ад з'едлівых, згрызотных думак.

Назаўтра на сняданак Зойка падала мне яешню з салам ды гарушку салёных лісічак на тоўстай глінянай талерцы.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Яна ўжо пасмялела і ўзяла за моду прысаджвацца ля краю стала, як гэта любяць рабіць вясковыя кабеты: калі каго-небудзь кормяць, дык сядзяць і глядзяць, як ён есць, цікуюць – ці смачна згатавана – і любуюцца адначасна, усё адно што сынок перад імі.

– Ты, Зойка, відаць, і калі Шэф прыедзе, вось так будзеш падсаджвацца, можа, нават запытаешся, калі ў нас жыццё наладзіцца – заможнае ды шчаслівае?

Трывожная ноч, нязграбнае, няспеўнае, а нейкае адрывістае, ірванае пісанне растрывожылі маю душу і гэта нельга было прытаіць у гаворцы.

– І падсяду, калі не перашкодзяць, і запытаюся. Мы ў нашай вёсцы ніколі і ніякага начальства не баяліся. У нас прырода багацейшая за любую ўладу. Да нас едуць, каб душой акрыяць. А нам нічога не трэба, у нас усё ёсць.

Гэта яна сказала асабліва хораша.

І тут мне падумалася, што ў нечым з Шэфам мы вельмі падобныя, бо цураемся роднага вугла і вышукваем для спялення сваёй адзіноты адмысловы казённы кут, каб пачуваць за радзіну ўвесь свой народ, а ў асобе сонечна-рабацiністай Зойкі раптам убачыць і зычлівую сястру, і падатлівую каханку, і стомленую маці, якая падсела на хвілінку да дзіцёнка, і занядбаную падчарыцу, якую без асаблівых цырымоній можна папрасіць і бялізну папрасаваць, і чаравікі наваксаваць. А перадусім нам сцюдзёнымі і цягучымі здаюцца без яе ночы, бяссонна-няўтульнымі.

І вось жа трасца, і мне ўжо не пішацца “Пра Яе ў лістах да Зміцера”, а хочацца напісаць пра асаблівасці нацыянальнай самасвядомасці, пра няўцямнае варушэнне ў недальным абсягу часу.

Я амаль што ўпэўнены: і Шэф дазволіць Зойцы вось так прысесці на крэсла ўзбоч стала, і вось так, як я, падумае пра яе пекнату, толькі, відаць, у адрозненне ад мяне, не прачытае які-небудзь урывачак з напісанага апошнім адвячоркам. Было б зусім прыкра чуць вясковай прыгажуні аб

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



перспектывах эканамічнага развіцця да 2005 года, напрыклад.

– А што вы пішаце, чаму ніколі не пачытаеце? У нас аднойчы ў сваякоў паэт гасціў, дык чытаў свае вершы: пра прыроду, пра каханне...

– Прыходзь да мяне ў нумар сёння, я табе пачытаю, – ужо не хаваючы раздражнення, сказаў я. – Прачытаю штонебудзь з Паўнда. Напрыклад, вось гэтыя радкі: “Чырвона-смарагдавыя зімародкі мільгаюць сярод архідэяў і дзятліны, птах кідае водбліск на птаха”. Праўда, няблага закручана?..

– Незразумела, таямніча, – зніякавела Зойка.

Я падзякаваў за сняданак і пайшоў прагуляцца па ўжо звыклым сваім маршруце ўздоўж рэчкі.

Ішоў і раздражнёна бубнеў сабе пад нос: “Каму патрэбна гэта мешаніна са слоў, гэтыя асацыятыўныя спалучэнні ды глыбокадумныя экзэрсісы, якія нібыта мацуюць свет філасофскімі абагульненнямі ды смеласцю і заўсёднай гатоўнасцю зазірнуць у нязведанае..."

Так я ішоў няспешна між хмызоў, як раптам з галіны пырхнуў дзіўны дзюбаты птах і, апісаўшы дугу, нібы выстаўляючы сябе напаказ, боўтнуўся ў вірлівую плынь пад абрывам.

– Зімародак... – выдыхнуў я ўголас здзіўленне. І стаў на гэтым месцы як укапаны, з надзеяй высачыць дзіўную птушку. Але гэта было ўсё адно што высачыць маланку.

Панылы, я паплёўся ў свой нумар. Пісаць зусім не хацелася: здавалася, што ўсё ўжо напісана і ўсё спраўдзілася, нават планы эканамічнага развіцця. Жыць стала нецікава.

Прачнуўся сярод ночы ад непрывычнай валтузні і смеху за сцяной. Пачаў быў услухоўвацца і зразумеў, што залішне даверыўся расповеду сябра пра выключныя вартасці гэтага нядаўна адбудаванага церама. Смех не змаўкаў, і мяне пачала разбіраць цікаўнасць уперамешку з лёг-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



кай злосцю. Накінуўшы халат і ўставіўшы ногі ў шлёпанцы, я нясмела выйшаў на калідор. Якое ж было маё здзіўленне, калі я ўбачыў вузкую палоску святла з няшчыльна зачыненых дзвярэй Шэфавых апартаментаў. Няёмка было падыходзіць, і я прыслухаўся зводдаль. Не было сумневу: гэта галасы Кастуся і Зойкі, пасечаныя звонам казённага крышталю. Ды я і праз дзесяць такіх перагародак пазнаў бы іх адметныя інтанацыі.

Вярнуўся ў пакой, шчыльна зачыніў дзверы, выпіў чарку гарэлкі, крыху пачытаў нейкую посную нудотную трасцу і заснуў.

А раніцай быў яшчэ адзін сюрпрыз. З неба, як град, пасыпаўся трэск рухавікоў, заматляўся над борам вялізны шрубалёт з чырвонай паласой на борце. “Ну вось, а казалі – праз месяц, – падумаў я. – Гэта вам не надвор’е прадказваць. Гэта – “той, хто”. Таксама, відаць, месца не знаходзіць, будзе хадзіць з вугла ў вугал па сваіх апартаментах, чытаць уголас напісаныя абзацы, крэмзаць алоўкам, рэзаць нажнічкамі і склейваць нанова тэкст, потым зноў рэзаць, ірваць, зноў склейваць, каб прачытаць гэта назаўтра ўсяму народу. Па радыё, як я, дурны, сваёй каханцы па тэлефоне”.

Спешна сабраўшы бялізну, я здолеў выслізнуць з церама амаль што незаўважаным. Зойку я ў разлік не бяру. Вырашыў падацца да шашы нацянькі, праз лес. Ішоў па пухнатым, як пёры савы, імху і міжволі ляпаў далонню па шурпатай кары спелых стромкіх соснаў. Ах, сяброўка-сасна, дзіўнае дрэва, якое на ўсё прыдатнае: на ложак, труну і пісьмовы стол. Суцэльны, з габляваных дошак.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





# Зінаіда ДУДЗЮК

*Самота любові прасіла –*
*Ёй падалі крыві.*
*Не захлынешся – жыві.*
*Гэта любові сіла.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## САЎДЗЕЛ

Поруч мы,
а душэўная слота
атуляе вечар самотай,
замыкае прастору
дзень каторы.
Прагну вырвацца ці раскрыцца
таямніцай да таямніцы...

Незнарок –
рук прабачлівы дотык,
нібы пытанне:
хто ты?
Ах, якая шматгучная но-та –
дотык!

Што мы ствараем
з самоты, сумоты –
злучаем душы
на сёння, на потым,
нібы злачынцы,
саўдзелам з'яднаны
у спасціжэнні
пяшчоты нязнанай.

Памяць – сведка,
сочыць употай
наша вар'яцтва цнатлівае –
дотык.

## ЗЕЛЛЕ КАХАННЯ

Яблык працягнеш:
"Фікус аморэ..."
Як чарадзей,
на латыні гаворыш.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Плод надкушу,
а палоска памады
ляжа на край –
вуснам прынада.
Вуснам спакусна,
цалуючы яблык,
судакранацца
з Богам і Д'яблам.

Багра памады –
звада і здрада
перад мінулым,
ды неадступным.
Можа, у вечнасці
дзень гэты купім?
Колькі б нам гэта
ні каштавала!
Мо і жыццё
будзе цэлага мала?

Хіба ж я ведаю:
шчасце ці гора –
зброя кахання,
*фікус аморэ?*

***

Вогненны пярсцёнак рук тваіх,
Уладарны і такі жаданы,
Што няўзнак затрымліваю ўздых,
Быццам перад спасціжэннем тайны.

Толькі студзяць позірк мой і твар,
Ціха апускаюцца дадолу
Белыя пялёсткі з цёмных хмар,
Нібы пёркі лёгкія анёла.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## ВЕЖА

Узыходжанне доўгім было
і няпростым
Пакручастаю лесвіцай ажно да зор.
Праз байніцы мы бачылі
возера пространь
І глядзелі праз іх, як калісьці дазор.

Завысокай здалася
нам Вежа Кахання,
Мы стаміліся нават прыступкі
лічыць,
Але ўжо не было да самоты
вяртання,
І галубка надзеі жыла на плячы.

А калі падняліся да самай вяршыні –
Сэрца рвалася пругка ад стомы
з грудзей.
Мы пабачылі дзверы,
якіх не адчыніш,
І замок, што ад часу і слоты зрудзеў.

Нехта нашаю Вежай
даўно завалодаў,
Запусценнем абжыў,
павуціннем заткаў...
Недасяжна вісела сінечы лагода,
Недарэчна пусцеў
нашай вежы рукаў...

## СПАТАЛЕННЕ

Смага вады вымагала –
Ёй налілі віна.
Пі, сказалі, да дна,
Палепшае доля благая.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Самота любові прасіла –
Ёй падалі крыві.
Не захлынешся – жыві.
Гэта любові сіла.

Каханне веры маліла –
Яму аддалі дзіця.
Гэта, сказалі, працяг
Таго, што ты ўжо згубіла.

## АДЫХОД

Зміруся. Няхай цячэ
Жыццё, як яму заўгодна.
Чаго я чакаю яшчэ
У смутку гэтым нязводным.

На захад глядзіць акно.
Аціх задуменны вечар.
Воцатам стала віно
Наканаванай сустрэчы.

## ТОЛЬКІ ШЭПТ...

Наш замак апусцеў,
Нікога там няма,
Хоць клічуць шмат гасцей
І восень, і зіма.

Адзіна ціхі шэпт,
Што кінулі мы там,
Жыве без нас яшчэ
І чуецца гасцям...

***

Мы прайшлі па зямлі паралельна,
Толькі стрэўся з паглядам пагляд.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Час здараўся і горкі, і спеўны,
Прымушаў азірацца назад.
Ды з мінулага зеўрала пустка.
Паралельна ляцелі снягі.
І прасторы касмічная хуткасць
Развяла нашых дум берагі.

***

Раскоша і краса
Распешчанага неба –
Над вохраю лясоў,
Нязводнасцю атаў.
Вакол спакой такі,
Міжвольна верыш слепа,
Што вецер назаўжды
Сваё адскавытаў;
Што высахла слата,
Адвеялі завеі;
І шчасце да мяне
Навекі прыплыло.
Ды радасці няма –
Спахоўна разумею,
Што гэта ўжо маё
Апошняе цяпло...

***

Сачу трывожна: дзень за днём мінае.
Мне нешта піша на акне мароз.
Ці што пытае? Ці напамінае
Мінулы смак надзей маіх і слёз?..

Яшчэ анёл мяне аберагае,
І акрывае коўдрай дамавік.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Не скарджуся на долю – неблагая,
Хоць скрэслена жыццё,
як чарнавік...

***

Ты забываў, як забіваў.
І я, засыпанай крыніцай,
Не маю сілы адрадзіцца.

Мне невыносна ажываць,
Каб зноў зняверана памерці
Ад непазбыўнасці тугі.

Былому сплочаны даўгі.
Ты для мяне – сінонім смерці...

## ЗАКАХАНЫ ДОЖДЖ

Хацела б я паглядзець,
Куды гэты дождж ідзе
Запар каторы дзень.

Ці да шкла прыпадзе,
Ці зазіраючы ў вочы
Побач гарэзна крочыць,
Ці сярод ночы цёмнай
Дзятлам дзяўбе падваконне.

Ні свята яму, ні нядзелі.
Ён ад мяне неаддзельны...

Дождж мяне пакахаў –
У хаце цячэ страха.
Ідзі сабе міма з Богам,
Не трэба мне шчасця такога...

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





## ЭРАЗМ РАТЭРДАМСКІ

*Каб пасмяяцца з дурняў,*
*не хопіць і тысячы Дэмакрытаў.*
*Я ўжо не кажу пра тое,*
*што на тысячу Дэмакрытаў*
*спатрэбіўся б яшчэ Дэмакрыт.*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Прадмова аўтара

*Эразм Ратэрдамкі*
*Томасу Мору*
*шле прывітанне*

Нядаўна я вяртаўся з Італіі ў Англію. Едучы на кані і не жадаючы марнаваць гэты час размовамі, у якіх не знаходзіцца месца *ні музам**, ні прыгожаму пісьменству, я вырашыў паразважаць аб нашых сумесных літаратурных справах або аддацца ўспамінам пра маіх цудоўных вучоных сяброў, з якімі быў цяпер у разлуцы. І вось ты, мой дарагі Мор, паўставаў перада мной часцей за ўсіх. Успаміны пра цябе неслі такую ж уцеху, як і тыя моманты, калі мы былі разам. Клянуся, у сваім жыцці я не спатыкаў нічога больш прыемнага.

Мне хацелася нечым заняцца, але час, бадай што, не падыходзіў для сур'ёзных спраў. Тады я і надумаў скласці пахвалу Дурасці. Ты, мабыць, запытаеш: «Якая Палада ўбіла табе гэткае ў галаву?» Перш за ўсё на такую ідэю навяло мяне патомнае імя Мора. Яно ж настолькі сугучнае са словам Морыя, наколькі з апошняй не мае аніякага сугучча існы Мор. І ўсе згодны, што ты зусім інакшы. Калі не памыляюся, гэты шал майго розуму прыйдзецца табе асабліва да густу, бо і сам жа любіш забаўляцца жартамі, у якіх ёсць і далікатнасць і соль, а ў асяроддзі звычайных смяротных паводзіш сябе, як нейкі Дэмакрыт. Вядома, са сваім праніклівым розумам ты намнога разыходзішся з простанароддзем.

Аднак дзякуючы неверагоднай лёгкасці і ветлівасці ў абыходжанні з іншымі ты заўсёды можаш быць і, на радасць табе, сапраўды аказваешся вельмі блізкім да кожнага чалавека. Значыцца, ветла сустрэнеш і маю краса-

* Курсівам вылучаны словы і словазлучэнні, напісаныя ў арыгінале па-грэцку. – *Рэд.*

ПАХВАЛА ДУРАСЦІ

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



моўную забаўку, прытым не толькі як памяць аб нашым сяброўстве, але і як твор, аддадзены пад тваю апеку. Ён прысвечаны табе і з'яўляецца ўжо не маім, а тваім.

Знойдуцца, вядома, паклёпнікі, якія будуць крычаць, што мае кепікі для тэолага занадта развязныя, а для хрысціянскай сціпласці залішне ўедлівыя. Мяне абвінавацяць, напэўна, у спробах адрадзіць старадаўнюю камедыю ці нейкага там Лукіяна і ў злосных намерах пакусаць і парваць усіх. Але я хачу, каб тыя, для каго вольны і дасціпны характар маіх разважанняў гучыць як абраза, не лічылі мяне зачынцам такога маўлення. Калісьці гэтак пісалі вялікія мужы. Многа вякоў таму назад Гамер жартаўліва апеў вайну мышэй і жаб, Марон — камара і часночную закусь, Авідый – арэх; Палікрат напісаў пахвалу Бусірыду, якую падправіў затым Ісакрат; Глаўк хваліў несправядлівасць, Фаварын – Ферсіта і перамежную ліхаманку, Сінэсій – лысіну, Лукіян – муху і блыху; Сенека склаў апафеоз Клаўдыю, Плутарх пасмяяўся з размовы паміж Грылам і Улісам, Лукіян, а таксама Апулей цешыліся прыгодамі асла. І ўжо не памятаю, хто склаў тэстамент парасюка Каракоты, якога прыгадвае, дарэчы, святы Гіеранім.

Адпаведна гэтаму няхай мае цэнзары, калі ахвота, уявяць сабе, што я надумаў пазабаўляцца каменьчыкамі або вярхом на дубчыку пагуляць у коніка. Зрэшты, любое саслоўе можа займацца сваімі гульнямі. Такую вольнасць ніхто не аспрэчвае. Ці ж справядліва тады забараняць усялякія забаўкі людзям вучонага звання? І гэта, у прыватнасці, там, дзе яны жартамі гавораць аб сур'ёзных рэчах, дзе забаўнае падаецца так, што кемны чытач возьме карыснага адтуль значна больш, чым з мудрагелістых і напышлівых разглагольванняў. Сапраўды, вось адзін аўтар у сваёй прамове, тэкст якой сшываўся на працягу доўгага часу, праслаўляе рыторыку і філасофію, другі хваліць якога-небудзь князя; гэты заклікае да вайны з туркамі, а той прарочыць будучае; яшчэ хтосьці рубам ставіць пытанні пра казлінае руно.

Няма большай бязглуздзіцы, чым трактаваць сур'ёзныя рэчы бязглузда, а з другога боку, вельмі пацяшае аповед пра бязглуздзіцу на поўным сур'ёзе. Пра мяне, канешне, будуць меркаваць іншыя. І ўсё ж, калі не падманвае *самалюбства*, я лічу, што дурасць узвялічана мною не па-дурному.

Адносна залішняй з'едлівасці маіх жартаў скажу наступнае: вучоныя людзі заўсёды мелі дазвол пакепліваць з чалавечай супольнасці. Галоўнае, каб свабода не пераходзіла ў буйства. Таму вельмі здзіўляе мяне далікатнасць натуры сягачасных вушэй, здольных выслухоўваць адны ўрачыстыя тытулаванні. Сёй-той дайшоў да такой заблуднай рэлігійнасці, што гатоў хутчэй сцярпець самую брыдкую лаянку на Хрыста, чым дазволіць хоць бы лёгкі досціп з папа альбо са свецкага ўладцы, асабліва там, дзе яны маюць дачыненне *да ягонай кармушкі*. А

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



нось нехта піша аб жыцці людзей так, што асабіста нікога й не называе. Што будзе ў такіх разважаннях: абраза ці парада і настаўленне? Дый няўжо сам я сябе не ганьбую? Літаратар, які ў сваім творы не мінае аніводнага саслоўя, выступае, на маю думку, не супроць асобнага чалавека, а супроць заганаў увогуле. Таму кожны, хто крычыць наконт абразы ўласнай персоны, лямантам гэтым выдае сваё нячыстае сумленне або, па меншай меры, страх. Намнога свабодней і ўедлівей кпіў святы Гіеранім. Ён часта не шкадаваў нават прозвішчаў. Што ж да мяне, то я не толькі не назваў іменаў, але і ўтаймаваў сваё пяро. Праніклівыя чытачы могуць лёгка заўважыць, што аўтар імкнуўся больш да забавы, чым да зларадnасці, і не варушыў, на манер Ювенала, патаемную клааку зладзействаў. Ён стараўся паказаць не столькі агіднае, колькі смешнае. Калі знойдзецца хтосьці, каго і сказанае не ўціхаміраць, то няхай прыгадае сабе, што ганьба з вуснаў дурасці ўпрыгожвае ганьбаванага. Прымусіўшы дурасць загаварыць, я павінен быў ёй дагаджаць.

Але каму ўсё гэта пішацца? Табе, знакамітаму адвакату, які так бліскуча можа абараняць самыя безнадзейныя справы? Дык бывай здаровы, мой красамоўнейшы Мор, і Морыю тваю абараняй старанна.

*З вясковага ўлоння*
*9 чэрвеня 1508 года.*

# ДУРАСЦЬ ГАВОРЫЦЬ



<…>

43. *Філаўтыяй* (самалюбствам) прырода надзяліла не толькі групы людзей, але і цэлыя нацыі, цэлыя дзяржавы. Акурат з гэтай прычыны брытанцы прэтэнцыёзна заяўляюць, што менавіта ім уласціва цялесная прыгажосць, музыкальнасць, шчодрая гасціннасць. Шатландцы сваё самалюбства цешаць каралеўскім паходжаннем, знатнасцю, дыялектычным мысленнем. Французы прысвоілі сабе прыярытэт галантнага абыходжання. Парыжане лічаць толькі сябе найбольш дасведчаны-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



мі тэолагамі. Італьянцы ўпэўнены, што з'яўляюцца майстрамі прыгожага пісьменства і красамоўства. Яны пагалоўна ўпіваюцца слодыччу мрояў аб сваёй дасканаласці і глядзяць на астатніх смяротных як на варвараў. Дакладней, першынство тут належыць насельнікам Рыма, якія і цяпер сняць найпрыемнейшыя сны старажытных часоў. Венецыянцы шчаслівыя ўсведамленнем сваёй высакароднасці. Грэкі абвяшчаюць сябе творцамі ўсіх навук і нашчадкамі славутых мужоў антычнасці. Туркі, гэтае зборышча варвараў, выхваляюцца сваёю рэлігіяй і высмейваюць хрысціян за іхнія прымхі. Не намнога вабнейшая рэлігія іўдзеяў. Яны і цяпер упарта чакаюць Месію і зубамі трымаюцца за свайго Майсея. Нікому не саступаюць ратную славу іспанцы. Высокім ростам і пазнаннем сакрэтаў магіі вельмі задаволены немцы.

44. Не буду прыводзіць яшчэ факты. Думаю, што вы ўжо бачыце, колькі асалод прыносіць кожнаму чалавеку паасобку і ўсім людзям разам *Філаўтыя*, да якой, між іншым, вельмі падобная яе сястра Лёстка. У рэшце рэшт *Філаўтыя* ёсць памкненне дагадзіць самому сабе. Тое ж памкненне ў адносінах да іншага ёсць *лёстка, падхалімства*. У нашыя дні падхалімства ганяць, але ж ганяць асобы, для якіх словы значаць больш, чым рэчы. Лічыцца таксама, што падхалімства несумяшчальнае з вернасцю. Аднак паводзіны жывёл пераконваюць нас у адваротным. Хто пераўзыходзіць сабаку ў ягонай ліслівасці і ягонай жа вернасці? А хто чалавеку лепшы друг, чым пацешная вавёрка? Можа, сябрамі людзей з'яўляюцца драпежныя львы або лютыя тыгры ці злосныя леапарды? Ёсць, праўда, і шкоднае падхалімства. З яго дапамогай каварныя лісліўцы могуць загнаць іншага бедалагу проста ў магілу. Ды мая *Калакія* вядзе сваё паходжанне ад дабрыні і шчырасці і вельмі блізка суседзіць з дабрадзейнасцю. Яна несумяшчальная з панурасцю альбо суровасцю, якія, па словах Гарацыя, «і несугучныя, і гнятлівыя». *Калакія* ўзбадзёрвае ўпалых духам, разганяе сумоты змаркочаных, падтрымлівае кволых, раскатурхвае знямелых, падымае хворых, улагоджвае раз'юшаных, мірыць закаханых, яднае зміраных. Яна заахвочвае да вучобы ма-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ладых, забаўляе старых, тактоўна, пад выглядам пахвалы, дае парады і павучэнні князям. *Калакія* робіць усё, каб чалавек мацней падабаўся сабе і вышэй цаніў сваю асобу. Для ўласнага шчасця гэта самае галоўнае. Прыгадаем, як старанна пачэсваюць мулы адзін аднаму спіны. У чалавечым агуле дасягненню такой жа мэты служыць ладная частка красамоўства, яшчэ большая частка медыцыны і найбольшая частка паэзіі. Лёстка з'яўляецца мёдам і закрасай ва ўсякім сужыцці людзей.

45. «Але ж быць падманутым – гэта ўжо няшчасце», - запярэчаць мне. А па-мойму, найвялікшае няшчасце будзе тады, калі цябе не падманваюць. Наймацней дзівачаць тыя, хто шчасце бачыць у саміх рэчах, у той час як шчасце чалавека залежыць ад ягонага пагляду на пэўны прадмет. Людзі жывуць ва ўлонні такога мноства разнастайных рэчаў, што нічога дакладнага тут не вызнаеш. Апошняе пацвярджаюць і мае Акадэмікі — самыя сціплыя і мудрыя з усіх філосафаў. Калі нешта ўдаецца пазнаць, дык яно нярэдка псуе нам асалоду жыцця. Дый чалавечая галава створана так, што лепей успрымае фальш, чымся праўду. Хто хоча мець наглядныя, фактычныя довады, няхай наведае храмы або іншыя зборні. Там людзі дрэмлюць, пазяхаюць, нудзяцца, калі гаворка ідзе пра нешта сур'ёзнае. Варта гарлатару (прабачце, я хацела сказаць – аратару) прыгадаць якуюсь бабуліну казачку (што бывае часта), як усе адразу абуджаюцца, натапырваюць вушы, разяўляюць рот. Такія ж адносіны і да святых. Чым больш казачная і паэтычная показка аб святым угодніку, тым старанней вернікі ўшаноўваюць яго. Так, Георгія, Хрыстафора, Варвару праслаўляюць нашмат гарлівей, чым Пятра, Паўла або нават Хрыста. Ды тут не месца для падобнай размовы.

Доступ да шчасця ў нашым разуменні чалавеку абыходзіцца значна танней. Авалоданне рэччу, хоць бы й такой малой вартасці, як граматыка, патрабуе вялікай працы. Хадзячая ж подумка ўспрымаецца вельмі лёгка. Для шчасця многім яе хапае ўдоваль і з гакам. Вось прыклады. Адзін уплятае тухлую вяндліну, а другі не можа вытрываць і паху

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ягонага наедку. Ці ж далёка ад шчасця першы, калі яму вяндліна здаецца амброзіяй? І наадварот, калі чалавека верне ад асятрыны, то хіба ён не страчвае жыццёвую асалоду? Закаханы муж лічыць сваю вычварную жонку саперніцай Венеры. Ці ж гэта для яго не тое самае, што мець сапраўдную красуню? Чалавек разглядвае палатно нейкага пэцкаля і ў захапленні верыць, што перад ім карціна Апелеса або Зэўксіда. Хіба ён цяпер не шчаслівейшы за таго разумніка, які за вялікія грошы купіў тварэнне гэтых мастакоў, ды адчувае куды меншае задавальненне ад свайго набытку? Адзін мой знаёмы, цёзка па прозвішчу, падарыў сваёй нявесце фальшывыя брыльянты. Пустамеля бажыўся і кляўся, што брыльянты не толькі сапраўды натуральныя, але і вельмі дарагія. Дык ці так ужо важна для нарачонай паходжанне дароў, калі яна не можа налюбавацца шклянымі каменьчыкамі і захоўвае іх у сваім ларчыку як найкаштоўнейшы скарб? І муж разарыўся не надта, і з наіўнасці жонкі пацешыўся. Яна ж аддзячыла яму любоўю, прадаць якую згодна была па высокай цане.

А што сказаць пра вязняў Платонавай пячоры, якія бачаць толькі цені ды выявы ўсялякіх рэчаў, не маюць аніякіх жаданняў і цалкам задаволены сваім лёсам? Чым розняцца яны ад таго мудраца, які выйшаў з пячоры і пабачыў самі рэчы? Калі Лукіянаваму Мікілу безупынна снілася золата, а таксама іншае багацце, дык што яшчэ трэ было чалавеку для шчасця? Дурні, такім чынам, або не адрозніваюцца ад мудрацоў, або адрозніваюцца ад іх тым, што пачуваюць сябе значна лепей. Іх шчасце каштуе, па-першае, надзвычай мала. Дастаткова адной подумкі. А па-другое, шчасцем гэтым можна цешыцца сумесна з іншымі.

46. Валоданне дабротамі без кампаньёна не прыносіць карысці. Але хто не ведае, што мудрацоў надзвычай мала? За многія стагоддзі грэкі налічылі ўсяго толькі сем. Дый сямёра тых, як добра калатнуць, наўрад ці знойдзецца, клянуся Геркулесам, хоць палавіна ці нават адна траціна сапраўднага мудраца. Праваліцца мне, калі не так.

Мноства пахвал дастаецца Вакху. Асабліва хваляць яго

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



за тое, што ён здымае цяжар душэўных клопатаў. Аднак жа на кароткі час. Ледзь толькі абудзішся ад пахмелля, дык ураз душэўныя немачы вяртаюцца да цябе на белым, як гаворыцца, чацвярыку. Мая ж дабрачыннасць аказваецца і больш поўнай, і больш дзейснай. Напаіўшы розум людзей вечным хмелем, я весялю і забаўляю іх, прытым без усялякага высілку. Маімі дарамі я не абдзяляю аніводнага смяротнага, у той час як іншыя багі размяркоўваюць свае даянні вельмі нераўнамерна. Не ўсюды родзіцца адменнае, далікатнае віно, якое праганяе турботы і ўсяляе надзеі. Далёка не ўсе атрымліваюць такі дар Венеры, як прыгажосць. Нямногія надзелены красамоўствам, якое дорыць Меркурый. Не ўсім Геракл дапамагае разбагацець. Не кожнаму дае ўладу Гамэраў Юпітэр. Занадта ўжо часта Марс не садзейнічае ў перамозе аніводнаму з абодвух варагуючых воінстваў. У панылым настроі пакідаюць трыножнік Апалона шматлікія прышэльцы. Без меры бліскае маланкамі сын Сатурна. Феб сваімі маланкамі зноў і зноў насылае чуму. Нептун болей губіць людзей, чым ратуе. Я ўжо не буду прыгадваць розных там Вейёвісаў, Плутонаў, Атаў, Пенаў, Фебраў ды іншых такіх жа багоў. Толькі я, Дурасць, з аднолькавай гатоўнасцю абыймаю ўсіх маім дабрадзействам.

47. Я не прагну ахвяраў і дароў, не гневаюся і не патрабую кампенсацый, калі ёсць заганы ў цырымоніях. Я не чыню вэрхал на небе і на зямлі, калі астатніх багоў запрашаюць ласкава апавохшыць духмянасць ахвяр, а мяне пакідаюць дома. Некаторыя багі тут настолькі прыдзірлівыя, што спакойней і бяспечней іх наогул не заўважаць, чым славіць і ўшаноўваць. Так і ў людскім асяродку некаторыя тыпы настолькі бываюць паганыя і злапомныя, што лепей абысці іх за вярсту, чымся вадзіць з імі дружбу.

«Але ж ніхто, – скажуць мне, – не прыносіць Дурасці ахвяр, ніхто не ставіць ёй храмы». І я ўжо казала тое самае. Мяне таксама здзіўляе падобная няўдзячнасць. Тым не менш, па сваёй паблажлівасці я гляджу на гэта скрозь пальцы. Дый у рэшце рэшт не магу я жадаць такога ўшанавання. Навошта мне здаліся ладан, мука, алень, свіння, калі

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



смяротныя паўсюдна спраўляюць мне культ, цалкам ухвалены тэолагамі? Мо пазайздросціць Дыяне, якую частуюць напоямі з чалавечай крыві. Я лічу, што ўсе, хто не расстаецца са мной у сваім сэрцы, у сваіх думках, у сваім жыцці, аддаюць мне сапраўдную боскую пашану. Гэтакі культ святых не часта сустрэнеш нават у хрысціян. Якое мноства людзей, ушаноўваючы Багародзіцу-Дзеву, ставяць ёй свечкі і ўдзень, калі патрэбы ў свечках няма! Але як мала знойдзецца ахвотнікаў пасапернічаць з ёю ў цнатлівасці жыцця, у сціпласці і любові да ўсяго нябеснага. А гэта ж і ёсць сапраўдны культ, які так любяць насельнікі нябёсаў.

Дык навошта мне храмы? Увесь гэты шар зямны для мяне (калі не памыляюся) з'яўляецца найцудоўнейшым храмам. Пакуль будуць людзі, датуль будуць і ўдзельнікі маіх таемстваў. Я не настолькі дурная, каб дамагацца для сябе каменных расфарбаваных ідалаў, якія часам перашкаджаюць ушанаванню маёй асобы. Толькі абэлтухі і ёлупні ўшаноўваюць іконы багоў замест саміх багоў. Вікарыі высясняюць тых, каго яны заступаюць.

Я думаю, што мне пастаўлена столькі статуй, колькі ёсць людзей. Акурат людзі, хоць яны гэтага і не прымаюць, ёсць жывое ўвасабленне мяне самой. Няма ў мяне аніякай прычыны, каб зайздросціць багам, якім пакланяюцца ў пэўныя дні, у пэўных кутках зямлі. Напрыклад, Феб ушаноўваецца на Родасе, Венера — на Кіпры, Юнона — у Аргосе, Мінерва — у Афінах, Юпітэр — на Алімпе, Нептун – у Тарэнце, Прыап – у Лампсаку. А мне ахвяры безупынна прыносіць цэлы сусвет.

48. Калі нехта з вас лічыць, што ў маім аповедзе больш нахабства, чым праўды, то няхай крыху паназірае за жыццём смяротных. Тады яму зробіцца ясна, чым абавязаны мне і як цэняць мяне людзі высокага і нізкага звання. Аднак не буду расказваць пра быццё кожнага стрэчнага. Гэта заняло б замнога часу. Раскажу толькі пра найвыбітнейшых асоб, адкуль зусім лёгка памысліць, што ўяўляюць сабой астатнія. Няма ніякага сэнсу прыгадваць тут простанароддзе. Яно цалкам належыць мне. Мала таго, што дурноты

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ўсялякай там хоць адбаўляй, дык жа з кожным днём узнікаюць усё новыя і новыя яе віды. Каб пасмяяцца з дурняў, не хопіць і тысячы Дэмакрытаў. Я ўжо не кажу пра тое, што на тысячу Дэмакрытаў спатрэбіўся б яшчэ Дэмакрыт.

Цяжка нават уявіць сабе, колькі смеху, колькі забавы, колькі пацехі дастаўляюць насельнікам неба чалавечыя істоты. Цвярозы час ад раніцы да паўдня багі прысвячаюць, звычайна, выслухоўванню розных сварак і зарокаў. Калі ж папаўдні насельнікі нябёсаў глынуць нектару, то ім неахвота ўжо займацца сур'ёзнымі справамі. Яны сядаюць на самых высокіх мясцінах неба і, нахіліўшыся, глядзяць, што робяць людзі. Божа ты мой несмяротны, што гэта за тэатр, калі розныя дурні пачынаюць шалець! Сяды-тады і я паседжваю сярод паэтычнага саслоўя багоў.

Вось адзін мужык сохне па маладзіцы. Чым менш яна любіць яго, тым больш імпэтна ён любіць яе. Яшчэ адзін жэніцца не з жонкаю, а з яе пасагам. Другі таргуе сваёй нявестай. Гэты, быццам раўнівы Аргус, толькі і робіць, што сочыць за сваёй жонкай. А той у горы і смутку вярзе столькі бязглуздзіцы, учыняе столькі дурноты! Выліты артыст, якога нанялі за грошы, каб іграў драматычную сцэну. Нехта плача над магілай мачыхі. А гэты ўсё, што можа, адпраўляе ў сваё чэрава, але праз некаторы час ізноў адчувае моцны голад. Ёсць і такія, для каго няма большай асалоды, чым лайдачыць і спаць. Сярод іншых гэты во клапоціцца толькі пра чужое і зусім не дбае пра сваё. Гэты ж залез у новыя пазыкі, каб аддаць старыя. Пазычыўшы грошай, строіць з сябе багацея, хоць знаходзіцца на мяжы разарэння. Яшчэ нейкі жыве ў нястачы і беднасці, а лічыць за шчасце зрабіць свайго нашчадка багатым. Вунь той у пошуках невялікага і няпэўнага скарбу носіцца па ўсіх морах, падстаўляючы сябе вятрам і хвалям, рызыкуючы жыццём, якое не купіш ні за якія грошы. Убачыш там і ваяра, якому дзеля багатай здабычы больш даспадобы ваяваць, чым спакойна і бяспечна сядзець дома. Нейкі ліслівец імкнецца ўцерціся ў давер да адзінокіх, але грашавітых дзядкоў і такім спосабам завалодаць іхнімі багаццямі. Вось яшчэ гарэзы, што

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



прагнуць разбагацець, набіваючыся ў каханкі да заможных бабуль. Калі ж каханак аказваецца падманутым сваёй будучай ахвярай, то прэзентуе пацешнае відовішча для зорачых зверху багоў. Самым дурным і самым паскудным з'яўляецца адроддзе купцоў. Яны займаюцца надзвычай бруднымі справамі і надзвычай нячыстымі сродкамі. Пастаянна хлусяць, крывадушнічаюць, абкрадваюць, мухлююць, падманваюць. Усюды лезуць першыя, бо іх пярсты акальцаваныя золатам. А побач ужо святая падхалімная брація пяе гандлярам славу, называе іх найшаноўнейшымі людзьмі, спадзеючыся, што нейкая частачка прысвоеных багаццяў дастанецца і ёй. Месцамі сноўдаюць піфагарэйцы, якім усё бачыцца настолькі абагуленым, што любую рэч, якая дрэнна ляжыць, яны цягнуць да сябе на котлішча. Цягнуць са спакойным сумленнем, быццам спадчыну. Ёсць уяўныя багацеі, дакладней, багацеі толькі ў сваіх уласных марах. Яны сняць прыемныя сны, якіх ім удосталь хапае для шчасця. Іншы радуецца, што яго на людзях прымаюць за багацея, хаця дома ён галадуе. Адзін імкнецца хутчэй праматаць сваё дабро, а другі праўдамі і няпраўдамі стараецца павялічыць сваю маетнасць. Той дамагаецца ганаровай пасады, а гэты ляжыць на печы і радуецца жыццю. Многія заняты бясконцымі судовымі звадамі і наўзахапкі рвуцца ўзбагаціць суддзю-валаводчыка і яго хаўрусніка адваката. Вунь якісь мудрагель хоча прапанаваць сваё ноўніцтва, а яшчэ якісь разумнік выношвае нешта грандыёзнае. Сёй-той, пакінуўшы дома жонку і дзяцей, выпраўляецца ў Ерусалім, або ў Рым, або у Сант'яга, дзе ў яго няма аніякіх спраў.

Словам, калі, як Меніп, глядзець з месяца на гэтую безупынную мітусяніну смяротных, то можна падумаць, што там, унізе, процьмы камароў ці мух, якія сварацца, ваююць, інтрыгуюць, рабуюць, ашукваюць, распусьнічаюць, нараджаюцца, гінуць, паміраюць. Нялёгка нават паверыць, што столькі заварушанняў і трагедый прыносяць гэтыя жывёлінкі за сваё вельмі кароткае жыццё. Некалькі выбухаў апраметлівай завірушнай вайны альбо эпідэміі нішчаць тысячы гэтых стварэнняў.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



49. Але я сама была б найдурнейшай і вартай шматлікіх насмешак Дэмакрыта, калі б захацела доўжыць пералік усіх дурнотаў і трызненняў простанароддзя. Лепш займуся тымі, хто ў асяроддзі смяротных лічыцца мудрым і дамагаецца сабе, так бы мовіць, залатога сучка. Сярод падобных індывідаў першае месца займаюць граматыкі. Гэтая парода людзей аказалася б самай бядачай, самай гаротнай ды яшчэ для багоў самай ненавіснай, калі б я не закрасіла горыч іх нікчэмнага рамяства слодыччу дурмянай прыправы. Граматыкаў праклялі не *пяццю праклёнамі*, як сказана ў эпіграме, а шасцюстамі. Галодныя, каравыя, працуюць яны ў сваіх вучэльнях — я сказала «вучэльнях»? – не, у *думарнях*, ці, дакладней, галаваломнях, або катоўнях. У атачэнні гурмаў дзятвы граматыкі хутка старэюць ад празмернай работы, глухнуць у дзіцячым гаме, чэзнуць і знемагаюць у смуродзе і тхлані. Разам з тым дзякуючы майму дабрачынству яны лічаць сябе бадай што найпершымі ва ўсім агуле смяротных. Ім вельмі падабаецца палохаць баязлівыя купкі дзяцей грозным аблiччам ды суровым голасам, пісяжыць гаротных вучняў дубцом, лазінай, бізуном. Кожны з іх люцее на свой разбэшчаны манер – зусім нібы той кумскі асёл. Гразь ім здаецца чысцінёй, смурод яны ўспрымаюць як водар майарана, а беспрасветнае рабства здаецца ім панаваннем, якое яны не памяняюць нават на тыранію Фаларыда ці імперыю Дыянісія.

Найболей шчасна граматыкі пачуваюць сябе ад якогась новага перла сваёй вучонасці. З вялікай пыхай разносяць яны ўсякага там Палемона або Даната, хоць самі забіваюць галовы дзяцей адною бязглуздзіцай. Не ведаю, праз якія іхнія чары маткі-дурніцы і бацькі-абэлтухі ўспрымаюць навучыцеляў такімі, якімі апошнія бачацца самі сабе. Дадайце сюды радасць, што апаноўвае граматыкаў, калі ў якойнебудзь спарахнелай грамаце яны знаходзяць імя радзіцелькі Анхіза, альбо нейкае малавядомае слоўца накшталт «валапас», «маруда», «чмут», альбо выкапаюць пракаветашні абломак, аздоблены знявечанымі літарамі. О, Юпітэр! Якое тады ўзрушэнне, колькі ўздыму, колькі пахвал! Можна па-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



думаць, што гэтыя людзі пакарылі Афрыку ці захапілі Вавілон. Выступаючы таксама са сваімі прэснымі халоднымі вершамі і знаходзячы паклоннікаў, некаторыя граматыкі вераць, што ў іхнія сэрцы перасялілася душа самога Вергілія. Надта пацешным з'яўляецца ўзаемапахваленне, узаемалюбаванне, аслінае ўзаемапачухванне. Але вось нехта зрабіў ляпсус на адно слоўца, і гэты ляпсус заўважыў самы зіркасты граматык. О Геракл, якія тады пачынаюцца трагедыі, якія баталіі, якія праклёны, якія мацюгі! Хай мяне граматыкі знялюбяць, калі хлушу.

Я знаю аднаго *эрудыта* – грэканіста, лацініста, матэматыка, філосафа, медыка, *карацей, цара навук усіх*, якому стукнуў шосты дзесятак. Закінуўшы астатняе, чалавек ужо дваццаць гадоў карпее і мардуецца над граматыкай і гатоў лічыць сябе шчасліўцам, абы толькі пашанцавала яму пражыць да таго часу, пакуль ён не вызначыць дакладна, як адрозніць кожную з васьмі часцін мовы. Ніхто з грэканістаў, ніхто з лацiністаў зрабіць гэта належным чынам покі не здолеў. Не іначай, як выбухне вайна, калі нехта злучнік пераблытае з прыслоўем. І ўсё таму, што граматык налічваецца столькі, колькі граматыкаў, ці, напэўна, і больш. Мой Альдус выдаў больш як пятнаццаць граматык. Сам ён не абмінае аніводнага граматычнага скрыпта, у тым ліку і самага бяздарнага, самага нікчэмнага. Кожны опус пераверне, ператрасе. Поўны нядобразычлівасці, ён старанна чытае граматычную лухту, бо заўсёды баіцца, што нейкі граматык перахопіць яго славу і загубіць яго шматгадовую працу. Хочаце, называйце такія ўчынкі трызненнем; хочаце, называйце іх дурасцю. Гэта не мае значэння. Галоўнае, каб вы ведалі: маё дабрадзейства ашчаслівіла нікчэмнейшую жывёлінку настолькі, што яна не памяняецца сваім лёсам нават з персідскімі царамі.

50. Менш абавязаны мне паэты, хаця паводле свайго занятку належаць усё ж такі да майго хаўрусу. Яны, як гаворыцца ў той прымаўцы, свабоднае кодла. Іх намаганні скіраваны ўвогуле на тое, каб смешнымі байкамі ды іншай лухтой цешыць вушы дурняў. Самае дзіўнае, што піїты абя-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



цаюць несмяротнасць і боскае жыццё не толькі сабе, але і тым, каго яны згадваюць у сваіх вершах. З гэтым саслоўем водзіць дружбу пераважна *Філаўтыя* і *Калакія*. Ніхто са смяротных не ўшаноўвае мяне з такой шчырасцю і з такім пастаянствам, як паэты.

Далей аб рытарах. Яны таксама належаць да нашай суполкі, хоць нямала слоаблудзяць і водзяць шашні с філосафамі. Пра гэта сведчыць многае. Апрача іншай бязглуздзіцы, яны старанна і шмат пішуць пра ўмельства жартаваць. Нездарма ж адзін з іх — не так ужо важна, хто — разважаючы аб красамоўстве ў сваім лісце да Герэнія, азначыў дурасць як від жарту. У Квінтыліяна, найкрасамоўнейшага сярод рытараў, главіца пра смех атрымалася большай, чым «Іліяда». Шмат чаго прыпісваецца дурасці. У прыватнасці, з дапамогаю зманлівага смеху можна дасягнуць злагады, якой не дамагчыся аніякімі аргументамі. Дый майстэрства смяшыць прысутных рознымі жартамі таксама належыць Дурасці.

З таго ж цеста зроблены і кнігавыдаўцы, якія прагнуць друкарствам здабыць сабе вечную славу. Яны ўсе павінны быць удзячны мне, асабліва грамацеі, што пэцкаюць паперу адной несусвеціцай. А вось эрудыты, якія пішуць вучоныя опусы дзеля апрабацыі з боку некалькіх знаўцаў, у тым ліку і такіх суддзяў, як Персій і Лелій, бачацца мне хутчэй няшчаснымі, чым шчаслівымі. То ж сапраўдныя пакуты: бедалагі няспынна штосьці дададаюць да свайго опуса, мяняюць, адымаюць, перастаўляюць, правяць, паказваюць іншым і гадоў праз дзевяць друкуюць, усё яшчэ незадаволеныя. І за тое, што карпелі над скрыптам начамі, за тое, што не спалі (а сон жа самае прыемнае на свеце), за тое, што самаахвярна гібелі, марнелі, атрымліваюць яны мізэрную ўзнагароду, менавіта пахвалу, выказаную да таго ж нямногімі. Дадайце сюды падарванае здароўе, страчаную прыгажосць, блізарукасць або нават слепату, беднасць, нянавісць, устрыманне ад асалод жыцця, раннюю старасць, заўчасную смерць і таму падобнае. Сам жа эрудыт лічыць, што гэтыя пакуты будуць недарэмнымі, калі яго пахваліць адзін або



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



другі такі ж падслепаваты дзівак. А мой пісака-дурань стакроць шчаслівейшы. Гэтаму не трэба карпець ночы за працай. Усё, што ўзбрыдзе яму ў галаву, усё, што акажацца на кончыку пяра ці прысніцца ў сне, ён адразу ж занатуе, нічым не ахвяруючы, акрамя хіба што папераў. Чалавек добра ведае: чым большую напіша ён бязглуздзіцу, тым большая частка людзей ці, дакладней, дурняў і невукаў, ухваляць бязглуздзіцу. І што з таго, калі якіх-небудзь трое эрудытаў прачытаюць і асудзяць тую лухту? Што могуць зрабіць галасы нямногіх разумнікаў у агромністым крыклівым натоўпе?

Яшчэ лепей кемяць тыя, хто чужое выдае за сваё і крадзе чыюсьці славу, набытую вялікай працай. Па меншай меры, славакрады разлічваюць на папулярнасць да таго часу, пакуль не выявіцца здзейсненае махлярства. Варта паглядзець на самадавольнае аблічча плагіятараў, калі нехта хваліць іх і, паказваючы пальцам, кажа: *вунь той проста унікум*; або калі ў кнігарнях выстаўлены для продажу іхнія кнігі, на кожнай старонцы якіх можна прачытаць найменне з трох замежных слоў, што гучаць, быццам вядзьмацкія заклінанні. Але, далібог, то ўсяго толькі імёны. Як мала яны вядомы ў вялікім, агромністым свеце. Якая мізэрная жменька людзей упадабае надпісы. Трэба прыняць таксама пад увагу, што нават у невукаў бываюць розныя густы. Дый імёны тыя альбо выдуманыя, альбо ўзятыя з антычных скрыптаў. Вось адзін фанабэрыста называе сябе Тэлемахам, другі — Стэленам ці Лаэртам, трэці – Палікратам, чацвёрты – Фрасімахам. На такой жа падставе можна было б назвацца Хамелеонам ці Гарбузом або ўслед за філосафамі абазначыць сваю асобу літарамі альфа, бэта і гэтак далей. Надзвычай пацешнымі выглядаюць пасланні, вершыкі, панегірыкі, поўныя ўзаемнай пахвалы. Дурні хваляць дурняў, невукі хваляць невукаў. Гэты во праз таго зрабіўся Алкеем, а той праз гэтага стаў Калімахам. Такім жа манерам адзін пераўзыходзіць Марка Тулія, другі аказваецца мудрэйшым за Платона. Некаторыя ўпарта шука-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



юць сабе праціўнікаў дзеля таго, каб у саперніцтве з імі набыць яшчэ большую славу.

"Так спанталычаны люд разрываюць канцэпцыяў іклы» да таго часу, пакуль ваяры не даб'юцца поспеху і з трыумфам не выйдуць пераможцамі. Мудрацы смяюцца з іх, як з непрыкаяных. Ды хто будзе аспрэчваць глупства дурняў? Але акурат праз маю дабрачыннасць гэтыя дурні жывуць сабе прыпяваючы і сваёю славаю не памяняюцца нават са Сцыпіёнамі. Дарэчы, многія вучоныя мужы, якія надта пасмейваюцца і пацяшаюцца з чужой дурноты, не ў меншым даўгу перада мною. Яны не могуць не прызнаць гэта, калі не хочуць аказацца самымі няўдзячнымі.

51. Сярод вучоных на першае месца прэтэндуюць юрысты. Ніхто іншы з такім задавальненнем не варочае Сізіфаў камень, як правазнаўцы. З аднаго дыху назавуць паўтысячы з гакам законаў. І не так ужо важна, ці маюць гэтыя нормы дачыненне да справы. Законнікі грувасцяць глосы на глосы, судовыя тлумачэнні на судовыя тлумачэнні, у выніку чаго іхняя праца выглядае вельмі складанай. А што нялёгка даецца, тое, маўляў, і высока цэніцца.

Сюды трэба аднесці таксама дыялектыкаў і сафістаў. Гэтае кодла сваім пустазвонствам пераразвоніць любую Дадонскую медзь. Кожны з іх перабалабоніць два дзесяткі самых балабоністых баб. Ды калі б дыялектыкі і сафісты заставаліся толькі гаваркімі, то былі б намнога шчаслівейшымі. Але яны яшчэ і сварлівыя, прытым настолькі, што ледзьве не з пенаю на губах сварацца з-за ўсялякай дробязі. У звадах нярэдка губляюць ісціну. Аднак *Філаўтыя* ашчаслівіла задзіраў, узброіўшы апошніх трыма сілагізмамі. Цяпер сілагісты гатовы змагацца з першым стрэчным праціўнікам. Галоўнае, каб знайшлася зачэпка. Калі нават супрацьпаставіць ім самога Стэнтара, дык і тады нахабы выйдуць усё ж пераможцамі.

52. З гэтымі суседзяць філосафы. Іх ушаноўваюць за бараду і шырокі плашч. Філосафы лічаць знаўцамі толькі саміх сябе. Усе астатнія – не больш чым здані, што сноўдаюць у мораку няведання. А як салодка трызняць барадатыя

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



знаўцы, калі ўзводзяць безліч сусветаў, калі вызначаюць памеры сонца, месяца, зорак, а таксама арбіт, прытым з такой дакладнасцю, быццам вымяралі іх уласнаю пядзяю або ніткаю. Без вагання назавуць і прычыны маланак, вятроў, зацьменняў і іншых непазнавальных з'яў. Можна падумаць, што філосафы служаць у маці-прыроды сакратарамі і толькі-толькі вярнуліся з Сойму Багоў. Прырода напоўніцу пацяшаецца з гэтых асобін, бо ў галаве апошніх няма нічога пэўнага і дакладнага. Яскравым сведчаннем такога бязладдзя з'яўляюцца іх сумбурныя звады ў сувязі з тымі ці іншымі рэчамі. Не маючы аніякіх ведаў, філосафы сцвярджаюць, што ведаюць усё. А ў сапраўднасці не ведаюць нават саміх сябе. Ды што там саміх сябе – ямчыны ці валуна перад сабою не ўгледзяць. Мо таму што многія з іх падслепаватыя, а мо й таму, што глузды іхнія дзесь далёка адсюль. Філосафы даводзяць, што акурат яны бачаць ідэі, універсаліі, голыя формы, першапачатковыя матэрыі, нештасці, гэтасці. Згаданыя існасці настолькі тонкія, што заўважыць іх не здолее, па-мойму, сам Лінцэй. З пагардаю пазіраючы на цёмны люд, усяведы месцяць адно на адно трохкутнікі, акружнасці, квадраты ды іншыя матэматычныя фігуры і атрымліваюць штосці накшталт лабірынта. Потым ставяць, быццам шарэнгі ваяроў на ратным полі, радкі літар і, паўтарыўшы свае штукі некалькі разоў, тумандяць глузды недасведчаным людзям. Тут ёсць таксама вешчуны, што па зорках прадказваюць будучае і абяцаюць звышвядзьмацкія цуды. І вось шанцуе ж прадракальнікам! Яны знаходзяць людзей, якія ўсяму вераць.

53. Тэолагаў мо лепей было б абысці маўчаннем *і не чапаць гэтага камарынага імшарышча* ды не датыкацца да гэтай ядавітай расліны. То кодла надзвычай пыхлівае і зласлівае. Узброеныя паасобку шасцю сотнямі канклюзіяў, чаго добрага накінуцца на мяне і стануць патрабаваць, каб я адмовілася ад сваіх перакананняў. Калі ж я не адмоўлюся, то адразу назавуць мяне ерэтычкай. Яны любяць страшыць гэтай бліскаўкай тых, да каго не маюць асаблівай прыхільнасці. Маё дабрадзейства прызнаюць, канешне, без ахвоты,

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



хоць абавязаны мне даволі многім. *Філаўтыя* ашчаслівіла іх, дык яны цяпер на трэцім небе. З пагардаю і нават з нейкім спачуваннем пазіраюць адтуль на астатніх смяротных, якія, бы нейкае быдла, поўзаюць па зямлі. У заснасніку магістральных дэфініцыяў, караларыяў, экспліцытных ды імпліцытных прэпазіцыяў багасловы ўдосталь нарабілі ўсялякіх схоўняў, так што не засіліць іх нават Вулканавым сіллем. З дапамогаю акцыі чляненння адусюль яны выслізнуць, паўсюдна разрубяць вузлы нават з большай лёгкасцю, чым гэта робіць Тэнэдоская двухбаковалёзная сякера. На свой капыл тлумачаць яны самыя глыбокія тайны. Адкажуць, паводле якога прынцыпу быў створаны і ўпарадкаваны сусвет; па якіх каналах перадаецца на патомства чума першароднага граху; якім спосабам, па якой мерцы і колькі часу зачынаўся ва ўлонні Дзевы Хрыстос; як у еўхарыстыі акцыдэнцыі існуюць без свайго котлішча. Праўда, сцяжынкі да гэтых таямніц ужо ўтупаныя. Але ёсць, на думку тэолагаў, праблемы, сапраўды вартыя вялікіх, асвечаных (як кажуць) мужоў. Багасловы адразу абуджаюцца, калі на абмеркаванне пастаўлены праблемы наступнага зместу: Ці было бязгрэшнае зачацце імгненным? Ці многа ёсць Хрыстовых філіяцыяў? Ці магчыма выказванне: «Бог узненавідзеў сына»? Ці можа Усявышні ператварыцца ў жанчыну, у чорта, у асла, у камень, у гарбуз? Ці мог бы той гарбуз казаць свае казанні, тварыць усялякія цуды, быць затым укрыжаваным? Калі б святы Пётра адслужыў абедню тады, калі цела Хрыста вісела на крыжы, дык што б ён тады асвяціў? Ці можна было б на той час усё ж такі назваць Хрыста чалавекам? Ці будзе дазволена пасля ўваскрасення есці і піць (зараней ужо клапоцяцца пра пітво і закусь на тым свеце)?

Існуе безліч іншых больш рафінаваных *тонкасцяў*, такіх, скажам, як імгненнасці, канцэптуальнасці, адноснасці, фармалітатнасці, нештасці, гэтасці. Іх ніхто не можа асягнуць вокам, за выключэннем хіба што Лінцэя, здольнага бачыць скрозь непраглядную цемру тое, чаго нідзе няма. Дадамо сюды *гномы*, якія з'уляюцца настолькі *недарэчны-*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



*мі*, што парадоксы стоікаў акажуцца тут зацяганым агульнавядомым прастарэканнем. Так, адна з гномаў сцвярджае, што зашыць бедняку чаравік у нядзелю – гэта злачынства куды большае, чым забіць тысячу смяротных. І лепей аддаць цэлы сусвет з ягоным усім, як той казаў, шалупіннем, чымся вымавіць слоўца няпраўды.

Розныя паводле накірунку схаласты робяць гэтыя вычварныя тонкасці яшчэ вычварнейшымі. Хутчэй знойдзеш выйсце з лабірынта, чым са схаластычнага сілля рэалістаў, наміналістаў, фамістаў, альбертыстаў, акамістаў, скатыстаў (тут пералічаны галоўныя). І столькі ў іх вучонасці, столькі мудрагельства, што самім апосталам спатрэбіўся б не святы дух, а нейкі іншы, калі б апосталаў змусілі паспрачацца з гэтай новай пародай тэолагаў. Павел змог даць узоры сапраўднай веры, аднак недастаткова акрэсліў яе ў магістральным сэнсе, калі гаварыў, што «вера — гэта існасць рэчаў, адносна якіх ёсць надзея і разважанні пра нябачнае». Святы прапаведнік вызначаўся міласэрнасцю, але не зусім дыялектычна раздзяляў і абмяжоўваў яе ў раздзеле трынаццатым свайго «Першага паслання да Карынфянаў». Досыць набожна дзейснілі апосталы еўхарыстыю. Ды і тут паўстаюць усё ж пытанні. У прыватнасці, як усё пачынаецца, і як яно там канчаецца? Як магчыма перастварэнне субстанцыі, і як гэта адно і тое ж цела можа быць у розных месцах? Якая розніца паміж целам Хрыста на нябёсах і ягоным целам на крыжы і ў таемстве еўхарыстыі? У які момант адбываецца перастварэнне субстанцыі, калі прыняць пад увагу, што маўленне ёсць плынню пэўнага дыскрэтнага мноства? Я думаю, што на гэтыя пытанні апосталы не далі б такіх адказаў, якія прапануюць скатысты ў сваіх дэфініцыях.

Апосталы зналі маці Хрыста. Аднак хто з іх на манер нашых тэолагаў сапраўды па-філасофску растлумачыў, якім чынам яе не запляміў Адамаў грэх? Пётра атрымаў ключы, і атрымаў іх ад таго, хто не ўручыў бы такое недастойнаму. Але ці разумеў апостал, як можна валодаць ключамі пазнання, не валодаючы ведамі? Гэтую тонкасць Пётра ніколі

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



не спасцігнуў. Апосталы паўсюдна хрысцілі, нідзе нікому не паясняючы, у чым менавіта сутнасць фармальнай, матэрыяльнай і канечнай прычыны хрышчэння. Ніхто не сказаў аніводнага слова аб яго мінучых і вечных уласцівасцях. Апосталы маліліся. Толькі ж маліліся духу святому, прытрымліваючыся выключна Евангельскага запавету: «Бог ёсць дух, і тыя, хто моліцца Богу, павінны яму пакланяцца ў духу і праўдзе». На апосталаў, мабыць, не находзіла адкравенне, што вобразу Хрыста, накрэсленаму вугольчыкам на сцяне, належыць пакланяцца так, як і самому Хрысту. Галоўнае, каб накрэслены Збаўца выцягнуў два пярсты, быў нястрыжаны, меў тры выступы на німбе, што акаляе галаву. Аднак хто гэта можа спасцігнуць, акрамя тэолага, які прасядзеў цэлых трыццаць шэсць гадоў над фізікай ды метафізікай Арыстоцеля і Дунса Скота. Прапаведуючы дабрадзейства, апосталы ніколі не адрознівалі дабрадзейства дабрачыннае ад дабрадзейства дабрадзейснага. Заклікаючы людзей на добрыя справы, яны не рабілі аніякай розніцы паміж дзействам дзеючым і дзействам здзейсненым. Паўсюдна прапаведуючы хрысціянскую любоў, прапаведнікі не адасобілі ўтоўпленую любоў ад набытай, а таксама не вызначылі, ці ёсць любоў акцыдэнцыя, ці субстанцыя; ці яна створана, ці застаецца нястворанай. Грэх апосталы асуджалі. Але не сысці мне з гэтага месца, калі яны далі дзенебудзь навуковыя дэфініцыі граху. Зрабіць гэта апосталы, напэўна, здолелі б, павучыўшыся, як след, у скатыстаў. І ніхто не пераканае мяне, што Павел, чыя эрудыцыя можа быць крытэрыем астатніх, стаў бы ганіць такое мноства пытанняў, спрэчак, радаводаў ды, як сам называе, *слоўных боек*.

Усе дыспуты вяліся ў той час даволі прымітыўна і нагадвалі хутчэй вясковыя звады, калі параўнаць іх з рознымі суперхрысіпавымі тонкасцямі нашых магістраў. А яны людзі сціплыя. Знайшоўшы ў выказваннях апосталаў штосьці недарэчнае або не надта вучонае, эрудыты выяўленыя заганы не ахайваюць, а па-свойму тлумачаць. Такім вось манерам інтэрпрэтатары аддаюць якуюсь пашану і старажытнас-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ці, і апостальскаму імені. Дый было б, клянуся Гераклам, несправядліва патрабаваць ад апосталаў тое, пра што яны аніводнага слова не чулі з вуснаў свайго настаўніка. А як трапляюцца такія выказванні ў Хрызастома, Васілія ці Гераніма, то магістры лічаць дастатковым толькі адзначыць: «Пад увагу не прымаць». Апосталы, а таксама айцы Хрыстовай царквы аспрэчвалі паганскіх філосафаў, а таксама іўдзеяў – кодла само па сабе надзвычай натурыстае. Аднак абвяргалі найбольш чыннасцямі свайго жыцця ды сваімі цудамі, чым сілагізмамі. Ніводзін з іхніх апанентаў не змог бы спасцігнуць нават «Кводлібетум» Скота. А які сучасны паганін, які шчэ ератык будзе стаяць на сваім пад націскам шматлікіх вычварных тонкасцяў? Хіба што абэлтух, няздольны ўцяміць сказанае; або нахабнік, гатовы асвістаць пачутае; або супраціўнік, узброены такім жа сіллем, каб змагацца на роўных. Апошні выступаў бы тады, быццам маг супраць мага, ці мечнік супроць мечніка, чые клінкі ў аднолькавай меры зачараваныя і чый паядынак нагадваў бы занятак Пенелопы, якая ўначы распускала тое, што наткала ўдзень. Мне ўяўляецца, што хрысціяне зрабілі б разумна, паслаўшы на вайну супраць туркаў і сарацынаў воінства крыклівых скатыстаў, упартых акамістаў, непераможных альбертыстаў ды ўсю брацію сафістаў замест нязграбных кагортаў, якія столькі ж цярпелі паразу, колькі перамагалі. Хрысціяне маглі б назіраць тады самую прыгожую бітву і быць сведкамі яшчэ не бачанай перамогі. Сапраўды, хто, скажыце, будзе настолькі халодным, каб не ўспалымнець ад вычварных сэнтэнцыяў? Хто будзе настолькі тупалобым, каб не ўзбудзіцца ад вастраслоўя? Хто мае такія зоркія вочы, што яго не ачмурыць глыбокая цемра найценкшых тонкасцяў?

Вы думаеце, пэўна, што я кажу пра ўсё гэта дзеля жарту. Можа быць і так. Сярод тэолагаў ёсць жа людзі больш адукаваныя. Дык вось іх, як самі сцвярджаюць, верне ад такога баламутнага тэалагічнага мудрагельства. Ёсць таксама тэолагі, якія ганяць падобнае вычварства і называюць яго святатацтвам. На іх погляд, найвялікшым святатацтвам

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



з'яўляюцца багахульныя разважанні аб таямніцах, якія належыць хутчэй ушаноўваць, чымся тлумачыць. Блюзнеры, карыстаючыся пошлай паганскай аргументацыяй, прапаноўваюць сваімі нячыстымі вуснамі нахабныя дэфініцыі і брыдкім славаблуддзем паганяць веліч боскай тэалогіі. А між тым шчаслівыя словаблуды пляскаюць самі сабе ў ладкі. Дзень і ноч яны занятыя салодкай бязглуздзіцай настолькі, што ім не хапае нават часу, каб хоць аднойчы разгарнуць і пачытаць Евангелле ці пасланні апостала Паўла. Пустасловячы ў школах, лухтабаі ўпэўнены, што без іх сілагістычных падпорак уся царква рухне. З дапамогаю ж сілагізмаў яны падтрымліваюць сусветную царкву амаль так, як у паэтаў Атлант падтрымлівае неба. А з якой асалодаю мудрадумы зыначваюць на свой капыл ды перайначваюць, бы нешта васковае, святыя псалмы і ставяць свае канклюзіі, падмацаваныя сэнтэнцыямі некалькіх схаластаў, нават вышэй законаў Салона або дэкрэтаў пантыфіка. Яны, нібы цэнзары ўсяе зямное кулі, патрабуюць адступіцца ад таго, што хоць на ёту не супадае з іх эксплiцытнымі ці імпліцытнымі канклюзіямі. З катэгарычнасцю аракула пранізлівыя ментары заяўляюць: «Гэтае выказванне спакуслівае, гэтае не надта пачцівае, гэтае – патыхае ерассю, гэтае – дрэнна гучыць». Так што ані хрышчэнне, ані Евангелле, ані Пётра, ані Павел, ані святы Геранім, ані Аўгусцін ці нават Фама *самы арыстоцелеўскі* не зробіць чалавека хрысціянінам, калі акцыю не ўхваляць бакалаўры. Такая вось тонкасць іхняга мыслення. Хто, акрамя згаданых мысляроў, мог бы сцвярджаць, што не з'яўляецца хрысціянінам індывід, які атаясамлівае выказванні «matula putes» і «matula putet» або «ollae fervere» і «ollam fervere»? Хто вывеў бы царкву з непрагляднага мораку заблудства, кнігі якой не знайшлі б чытача, калі б не было на іх груваcткіх пячатак? Дык ці ж не пачуваюць сябе найшчаслівейшымі асобы, што дзейсняць гэткія дзеі і ў дадатак яшчэ апісваюць апраметную з такой падрабязнасцю, быццам самі караталі ў тым гаспадарстве многія леты? Шчасліўцы майструюць новыя нябесныя сферы, у тым ліку і самую вялікую і самую пры-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



гожую, дзе душы блажэнных могуць спакойна прагульвацца, ладзіць бяседы ці нават гуляць у мяч. Ад гэтай ды іншай бязглуздзіцы галовы багасловаў распухлі і раздаліся настолькі, што цяжарная голаў Юпітэра, спарадзіўшага Паладу з дапамогай Вулкана, была, здаецца, меншаю. Таму не здзіўляйцеся, што на публічных выступах галовы багаведаў спавітыя павязкай ў некалькі столак. Не зрабі яны гэтага, трэснулі б іхнія чарапкі. Іншы раз і я смяюся з тэолагаў, якія лічаць сябе вялікімі, калі гавораць нячыстаю, паганскаю мовай і балабоняць так, што разумеюць іх толькі балабоны. А як просты люд нешта не спасцігае, то ўсё такое лічаць вяршыняй мыслення. Законы граматыкі, якіх тэолагі вымушаны часам прытрымлівацца, несумяшчальныя, маўляў, з годнасцю святой навукі. Выклікае здзіўленне веліч тэолагаў, якая дазваляе толькі ім гаварыць заганна. У іх шмат агульнага з неадукаванай чэрню. Тэолагі пачуваюць сябе амаль багамі, калі чалавек, які вітаецца з імі, яшчэ дадае: magister noster (настаўнік наш). Гэтае найменне значыць для тэолагаў тое, што для іудзеяў тэтраграма. І таму грэх пісаць MAGISTER NOSTER малымі літарамі. Трэба пісаць толькі вялікімі. А калі нехта памылкова скажа noster magister, то адразу ж пераверне дагары нагамі ўсю веліч тэалагічнага наймення.

54. Са шчасцем тэолагаў сутычыць не меншае шчасце асобаў, якія называюць сябе святымі пустэльнікамі або манахамі. Але гэтыя назовы з'яўляюцца наскрозь ілжывымі, бо значная частка манахаў вельмі далёкая ад святасці. Яны, як ніхто яшчэ, сустракаюцца часта ды паўсюдна. Мне думаецца, што манахі былі б самымі няшчаснымі, калі б я не падтрымлівала іх. Гэтае кодла ўсе праклінаюць. Бытуе павер'е, што і выпадковая сустрэча з манахам прыносіць бяду. Але самі манахі пачуваюць сябе анігадкі. Паводле іхніх меркаванняў, вяршыняў набожнасці дасягае той, каго адвярнула ад вучоных кніг так далёка, што ён не навучыўся нават чытаць. Яны таксама ўпэўнены, што нясуць вялікую асалоду вушам святых, калі, не ўсведамляючы сутнасці, аслiным галасам кантычаць у храмах некалькі псалмаў. Некаторыя

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



манахі, апранутыя ў каравае рыззё, гугнявым енкам пад чужымі дзвярыма патрабуюць хлеба. Плоймы гэтай крыклівай брацii запаўняюць гасцёўні, абозы, караблі, наносячы істотны ўрон іншым жабракам. Сваім брудам, невуцтвам, нахабствам ялейныя святошы хочуць, як сцвярджаюць самі, прыпадобіцца апосталам.

Вельмі цікавай з'яўляецца рэгламентацыя жыцця манахаў. Усё ў іх робіцца адпаведна прэскрыпту, якога яны прытрымліваюцца проста-такі з матэматычнай скрупулёзнасцю. Парушэнне прэскрыпту ёсць вялікі грэх. Загадзя прадугледжана, колькі вузлоў павінен мець чаравік, якога колеру павінна быць уласная апранаха і чым адрозніваецца ад аблачэння астатніх. Наперад вызначаецца матэрыял апраткі, памеры пояса, форма і стоўплівасць башлыка, шырыня танзуры. Устаноўлена і колькасць гадзін, адведзеных манаху на сон. Пры вялікай разнастайнасці целаскладаў і глуздоў адразу відаць уся несправядлівасць такой роўнасці. Але акурат гэтая несправядлівасць, гэтае глупства дае манахам падставу лічыць за нішто іншых людзей, а таксама ненавідзець адзін аднаго. Пакляўшыся ў апостальскай любові да бліжняга, крывадушныя святошы гатовы змяшаць з граззю таго, хто не так апаясаўся або надзеў рызу крыху цямнейшага колеру. Рэлігійнасць манахаў бывае надзвычай калянай. Так, адныя ўпарта носяць зверху толькі шарсцяную апратку. Споднее ў іх палатнянае. Другія наадварот: звонку палатняныя, а спадыспаду шарсцяныя. Некаторыя, быццам атруты, пудзяцца грошай. І ў той жа час нішто не ўтрымлівае іх ад віна і жанчын.

Найбольш імкнуцца святуны зберагчы самабытнасць свайго жыццёвага ладу. Ды клопат іх не аб тым, каб упадобіцца Хрысту, а каб унікнуць падабенства паміж сабой. Значную частку манаскай забавы складаюць найменні. Ёсць манахі, якія называюць сябе «шворканосцамі». Яны вельмі задаволены такім найменнем. У склад «шворканосцаў» уваходзяць «калеты», «мінарыты», «мінімуміты», а таксама «булісты». Ёсць яшчэ «бенедыктынцы», «брыгантынцы», «аўгустынцы», «вільгельміты», «якавіты» – нібыта зусім недастатко-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



ва называцца проста хрысціянамі. Многія манахі ўраслі ў свае цырымоніі ды людскія забабоны настолькі, што ўжо неба лічаць малой для сябе ўзнагародай за свае заслугі. Не думаюць яны пра тое, што Хрыстос, адкінуўшы ўсё астатняе, спытае аб выкананні толькі адной яго запаведзі, менавіта любові. Тады адзін выставіць сваё чэрава, раздутае ад усялякай рыбы; другі вываліць сто мерак псалмаў, а сам за адну трапезу нашпігуе сваё бруха так, што яно траха не лопне. Яшчэ адзін наваліць столькі абрадаў, што іх ледзь вывезуць сем караблёў. Гэты пачне выхваляцца, што на працягу шасцідзесяці гадоў не браў грошай інакш, як нацягнуўшы на руку двайную пальчатку. Той пакладзе перад сабою куколь настолькі каравы ды зашмальцаваны, што нават марак не згадзіўся б надзець яе. Хтосьці прыгадае, што пражыў, нібы губка, у адным і тым жа закутку пяцьдзесят пяць гадоў. Яшчэ нехта спашлецца на свой хрыпаты голас, надарваны ад працяглага песнаспеву. А гэты во заснуў ад адзіноты летаргічным сном, а ў таго адубеў язык ад працяглага маўчання.

Хрыстос прыпыніць іхняе бясконцае выхваленне і спытае: «Адкуль такое кодла новых жыдоў? Адзін толькі закон я прызнаю сваім, але аб ім я нічога не чую. Калісь я адкрыта, без усялякіх іншасказаў, абяцаў айцоўскую спадчыну не куколям, не заклінальнікам, а міласэрным. Я не ведаю тых, якія занадта ведаюць свае чыннасці. Хто прагне выглядаць болей святым, чым я, няхай зойме нябёсы абраксасіяў альбо загадае людзям, чые забабоны ён паставіў вышэй за мае запаведзі, пабудаваць сабе новае неба».

Падумайце, як скрывяцца аблічча манахаў, калі яны пачуюць і пабачаць, што людзі ахвотней водзяцца не з імі, а з матросамі ды рамізнікамі. А пакуль святулі, не без маёй, вядома, дапамогі, шчасліва пачуваюцца ва ўлонні ўласных надзей. Хоць манахаў аддалілі ад дзяржаўнае справы, аднак ніхто не адважыцца пагарджаць імі, і ў першую чаргу старцуючымі асобінамі. Апошнія з так званай споведзі ведаюць усе людскія тайны, выдаваць якія лічаць аднак дзействам грахоўным. Выключэннем з'яўляюцца абставіны, калі

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



манах на добрым падпітку хоча павесяліць кампанію забаўнымі гісторыямі. Дый тады імёнаў весялун не называе, а дае зразумець пра ўсё аднымі намёкамі. Кепска прыйдзецца таму, хто раззлуе гэтых шэршняў. У сваіх казаннях яны адпомсцяць чалавеку поўніцай. Праўда, і тут мсціўцы апісваюць сваіх ворагаў іншасказамі, прычым настолькі адмысловымі, што пачутае не зразумее толькі глузд, які нічога не разумее. І брахаць яны будуць да таго часу, пакуль не сунеш ім у зяпу смачны кус.

Пакажыце мне камедыянтаў і базарных крыкуноў болей здатных, чым гэтыя, што так смяхотна, але з такой асалодаю імітуюць красамоўства старажытных рытараў. Божа ты мой несмяротны! Як яны жэстыкулююць, як лоўка мяняюць голас, як звонка залліваюцца трэллю, як самаўпэўнена выхваляюцца, як часта мяняюць міну, як ашалела лямантуюць! І гэтыя штукі красамоўства, бы запаветныя таямніцы, перадаюцца ад аднаго брата-манаха другому. Мне не дадзена права знаць тыя штукі, аднак я буду расказваць, грунтуючыся на сваіх назіраннях. Найперш яны, услед за паэтамі, звяртаюцца да муз, пасля дудукаюць пра міласэрнасць, пачынаючы пры гэтым ад вытокаў Ніла – ракі, што ў Егіпце. Калі разважаюць пра таемства крыжа, то прыгадваюць спачатку даволі памысна вавілонскага дракона Бэла. Мерачыся спрачацца аб пастах, заводзяць наўперад размову аб дванаццаці сузор'ях Задыяка. На адным аўтарытэтным форуме я слухала неяк дурня – прабачце, я хацела сказаць «вучонага». Дык вось муж той, жадаючы паказаць сваю эрудыцыю і ўлагодзіць тэалагічныя вушы прысутных, рашыў пайсці зусім новай пуцявінай. Ён пачаў сваю прамову з таго, што стаў гаварыць пра сутнасць літар і складоў, затым пра дапасаванне назоўніка і дзеяслова. Аповед выклікаў у большасці слухачоў здзіўленне. Іншыя нават прыгадвалі радок з Гарацыя: «Дзеля чаго ты развёў занудзенную гэту размову». Нарэшце вучоны дайшоў да высновы, што правобраз Святой Тройцы заключаны ў граматычных элементах, аб якіх пісалі граматыкі. Даказаў ён усё настолькі пераканаўча, што ніводзін з матэматыкаў не змог бы зрабіць лепш.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Пры складанні прамовы *звыштэолаг* карпеў над ёй месяцаў восем. Праз гэта амаль аслеп і на сёння бачыць не болей, чымся крот. Усю вастрыню зроку ён скарыстаў для набыцця вастрыні глузду. Але чалавек у сваёй слепаце не раскайваецца. Больш таго, звыштэолаг лічыць, што славу набыў за цану зусім невялікую.

Слухала я таксама аднаго васьмідзесяцігадовага старца. Ён аказаўся настолькі заўзятым тэолагам, што здавалася, адрадзіўся ў ім сам Скот. Стары меў намер вытлумачыць таямніцу імені Ісуса. Са здзіўляючай тонкасцю мыслення прамоўца даказваў, што ў саміх літарах наймення тояцца ўсе магчымыя выказванні пра Хрыста. Імя Хрыстовае мае толькі тры склонавыя канчаткі, што з'яўляецца яскравым правобразам Боскае Траістасці. Пры скланенні першае слова IESUS мае канчатак S, другое слова IESUM – канчатак M, трэцяе слова IESU - канчатак U. І якраз тут хаваецца *глыбокая* таямніца. Менавіта гэтыя тры літары азначаюць, што Хрыстос ёсць summus, medius, ultimus (найвышшы, сярэдні і апошні). Існавала яшчэ і больш глыбокая тайна, раскрыць якую сталася магчыма з дапамогай матэматыкі. Тэолаг раздзяліў імя IESUS на дзве роўныя часткі, паміж якімі заставалася літара S. Потым ён паведаміў, што ў габрэяў літара S, пазначаная знакам ש называецца Syn. На мове шатландцаў Syn азначае «грэх». Адсюль вынікае, што Ісус ёсць той, хто вызваляе сусвет ад граху. Разявіўшы раты ад здзіўлення, усе прысутныя, асабліва тэолагі, слухалі гэта новае спавешчанне з такой цікавасцю, што іх ледзьве не спасцігнуў лёс акамянелай калісьці Ніобы. Што ж да мяне, то са мною мала не здарылася тое, што напаткала фігавага Прыапа, які на злыбедзь сабе назіраў тайніцы Канідыі і Сагашы. І гэта зусім зразумела. Ці ж такі *зачын* выдавалі калі-небудзь элін Дэмасфен альбо лацінянін Цыцэрон? Яны лічылі заганнымі ўводзіны, якія далёка адыходзяць ад прадмета самой прамовы. У такой жа манеры дзейнічаюць, дарэчы, свінапасы, навучаныя маціпрыродай. А гэтыя эрудыты ўпэўнены, што іх прэамбула (так яны мянуюць уводзіны) акажацца толькі тады краса-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



моўнай, калі яна нідзе і нічога не мае агульнага з астатняй часткай прамовы. Так што нават замілаваны слухач пачынае ў рэшце рэшт бурчаць: «Куды ж ты зараз памкнеш?»

У трэцяй частцы аповеду прыводзіцца нешта з Евангелля і даецца, як бы мімаходзь, вельмі павярхоўная інтэрпрэтацыя таго выслоўя, хоць тут якраз і трэба было засяродзіцца. Калі прамоўца даходзіць да чацвёртай часткі, ён прымае новае аблічча і задае пытанне, *якое не мае аніякага дачынення ні да зямлі, ні да неба.* Гэтага, на яго думку, патрабуюць законы красамоўства. І вось ён ужо на вяршыні тэалагічнай фанабэрыі, калі пачынае стоўпіць у вушы прысутных імёны ганаровых дактароў, імёны дактароў пранізлівых, дактароў звышпранізлівых, дактароў серафічных, дактароў святых, дактароў неаспрэчных ды іншыя найвыбітнейшыя імёны, а затым сыпле на галовы недасведчанага люду вядомыя і не вельмі вядомыя сілагізмы, канклюзіі, караларыі, найфрыгіднейшыя суппазіцыі, а таксама іншую суперсхаластычную лухту. Застаецца пятая дзея. Тут неабходна паказаць найвышэйшае майстэрства. І вучоны муж расказвае нейкую бязглуздую, ад навукі надзвычай далёкую байку, запазычаную з «Гістарыяльнай люстроўні» або з «Рымскіх чыннасцяў». Потым ён дае гэтай лухце алегарычную, трапалагічную ды анагагічную інтэрпрэтацыю і такім вось манерам заканчвае сваю хімеру. Падобнае не змог прыдумаць нават Гарацый, калі пісаў: «Галаве чалавечай ...» і г. д.

Не ведаю, ад каго тэолагі засвоілі, што прамову трэба пачынаць млявым, апалым голасам. Таму прамоўца пачынае гаварыць так, што не чуе самога сябе. Не варта, мабыць, казаць пра тое, чаго ніхто не разумее. Тэолагі ўсвядомілі таксама, што слухачоў можна ўзбуджаць павышэннем голасу. Таму красамоўца ў нейкі момант свайго сцятага маўчання ўздымае раптам голас і без дай прычыны раве, нібы ашалелы. Пэўна, чалавеку сапраўды патрэбна чамярыца. Нічога ж не вымагае вар'яцкага енку. Чулі тэолагі яшчэ, што прамова ў сваім развітку павінна ўсё больш захапляць прысутных сваёй палымянасцю. Дык прамаўляючы абыя-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



кава першыя сказы, красабаі напінаюць нечакана голас і з-за нейкай дробязі ўздымаюць лямант і перастаюць толькі тады, калі ім займае дух. Вучылі яны выказванні рытараў пра смех. Адсюль і самі стараюцца аздобіць прамову досціпамі. Але досціпы тыя, *о Афрадыта каханая!*, тыя досціпы такія нягеглыя, што, здаецца, слухаеш *асла, які спявае пад ліру*. Часам нават пакусваюць каго-небудзь. Але тое пакусванне казыча больш, чым раніць. Ніколі яны так не ліслівяць, як тады, калі робяць выгляд, што *гавораць прама і адкрыта*.

Высілкі гэтых аратараў сведчаць аб тым, што вучыліся яны ў базарных крыкуноў. Дый ад апошніх яшчэ далёка адстаюць. А ўвогуле розніца паміж аднымі і другімі невялікая. Ніхто не ўсумніцца, што навучанне красамоўству было ўзаемным. І ўсё ж не без майго, зразумела, патурання знаходзяцца людзі, якія слухаюць маіх прамоўцаў і думаюць, што перад імі Дэмасфены або Цыцэроны. Сярод слухачоў асабліва ж вылучаюцца перакупшчыкі і жанкі, чыім вушам ялейныя казнадзеі вельмі ўжо хочуць дагадзіць. Перакупшчыкі, калі гладзіць іх па шэрсці, ахвяруюць звычайна сваім дабразычліўцам якісь кавалачак ад няправедна ўзятай здабычы. Што ж датычыцца жанок, то яны пялегуюць кодла святухоў з многіх прычынаў. Але ў першую чаргу таму, што могуць выплакаць на грудзі манахаў крыўду на сваіх мужоў. Цяпер вы разумееце: манаства абавязана мне надзвычай многім. Пры дапамозе розных цырымоній ды смеху вартай лухты манахі дзейсняць у асяроддзі смяротных сапраўдную тыранію. А сябе яны бачаць святымі Паўламі ды Антоніямі.

55. Але ахвотна пакідаю няўдзячных скамарохаў, што так старанна замоўчваюць мае дабрачыннасці і так подла прыкідваюцца набожнымі. З прыемнасцю пагавару трохі аб каралях ды прыдворных. Яны (як і належыць высакародным асобам) адкрыта і шчыра песцяць мяне і шануюць. Мелі б яны клёку хоць на палову унцыі, то жыццё іх выглядала б куды больш сумным і непрывабным. Ніводзін з іх не дамагаўся б улады, не грэбуючы дзеля гэтага нават клятваадступніцтвам ці забойствам, калі б спярша паразва-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



жаў, які цяжар узвальвае на плечы кожны, хто хоча стацца ўладаром. Чалавек, узяўшы стырно дзяржавы ў свае рукі, павінен клапаціцца аб дзяржаўных справах, а не аб уласных. Ён павінен думаць толькі пра выгоды гаспадарства і ні на кіпаць не адступаць ад законаў, якіх сам з'яўляецца і творцам і выканаўцам. Дзяржаўны муж абавязаны сачыць за добрасумленнасцю магістратаў і чыноўнікаў. На яго заўсёды звернуты позіркі людзей, і ён, быццам уратавальная зорка, чыстая і цнатлівая, можа несці роду чалавечаму дабро альбо, нібы ліхая камета, можа чыніць вялікае зло і знішчэнне. Благія ўчынкі астатніх асоб закранаюць не ўсіх, і ўздзеянне такіх учынкаў далёка не сягае. Статус дзяржаўцы зусім інакшы. Калі ён дазваляе сабе нават нязначны адыход ад справядлівасці, то гэтая вада, быццам павальная чума, адразу ж распаўсюдзіцца на многіх. Дый багацце манархаў нясе шмат спакусы нейк збочыць з правільнай пуцявіны, апынуцца ў цянётах забаваў, распусты, падхалімства, раскошы. Неабходна прыкласці вялікія намаганні і выключную пільнасць, каб ва ўмовах, спрыяльных для ашукі, не адступіцца ад свайго абавязку. Я ўжо не кажу пра ўсялякія там інтрыгі, варажнечу, страх, небяспеку. Ёсць жа сапраўдны цар, перад якім крыху пазней прыйдзецца адказваць да малейшай дробязі. Чым большую ўладу меў дзяржаўца, тым больш строгі панясе ён адказ. Калі б манарх пра ўсё гэта і пра многае іншае паразважаў (пры ўмове, што ён умее разважаць), то, як мне бачыцца, ён не змог бы ні салодка паспаць, ні апетытна паесці. А пры маёй спамозе манархі перакладваюць усе клопаты на багоў, а самі дбаюць адно пра сваю раскошу. Каб унікнуць турботаў, нікога не падпускаюць да золата, апрача ўгоднікаў, якія ўмеюць гаварыць прыемнае. Дзяржаўцы ўпэўнены, што належным чынам выконваюць свае абавязкі, калі бавяцца паляваннем, разводзяць прыгожых скакуноў, прадаюць з выгодай для сябе магістраты і прэфектуры, вынаходзяць новыя спосабы рабунку маёмасці грамадзян дзеля павелічэння ўласнай казны. Для гэтага прыдумваюць хоць якую прычыну, каб нават самае несправядлівае набыло адценне справядлівасці.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Знарок падлашчваюцца трохі да сваіх падданых, каб прывабіць людскія душы.

Цяпер уявіце сабе чалавека, які (а такое сяды-тады сустракаецца) не ведае законаў, амаль варожа ставіцца да народнай шчаснасці, прагне выгодаў, апантана любіць асалоды, варагуе з навукай, ненавідзіць свабоду і праўду, не думае пра бяспеку гаспадарства, а ўсё вымярае сваёй пажаднасцю і сваёй карысцю. Начапіце на такога чалавека залаты ланцуг як сімвалічнае ўвасабленне дабрачыннасцяў; ускладзіце яму карону з самацветамі як напамін аб тым, што яе ўладальнік павінен пераўзыходзіць сваімі чыннасцямі астатніх; дайце чалавеку скіпетр як адметны знак справядлівасці, чэснасці; апраніце згаданую асобу ў пурпур, што сімвалізуе палымяную любоў да гаспадарства. А цяпер няхай дзяржаўца супаставіць гэтыя атрыбуты з рэаліямі свайго жыцця. На мой пагляд, яму будзе сорамна за сваё ўбранне, а таксама боязна, што раптам нейкі жартаўнік ператворыць усю гэтую ўрачыстасць у пасмешышча.

56. А што казаць пра вяльмож, якіх называюць прыдворнымі? Няма нічога больш халуйскага, больш рабскага, больш плюгкага, чымся яны. А вось жа хочуць выглядаць ва ўсіх справах першымі. У адным яны толькі вельмі сціплыя: ім дастаткова мець на сваім целе золата, жэмчуг, пурпур ды іншыя знакі мудрасці і дабрадзейнасці. Самую ж мудрасць і дабрадзейнасць яны пакідаюць іншым. Прыдворныя вяльможы лічаць сябе шчасліўцамі, калі могуць звярнуцца да караля і назваць яго сваім валадаром, вітаць караля трыма завучанымі раней слоўцамі, раз-пораз устаўляць такія напышлівыя тытулы, як «Ваша светласць», «Ваша высокасць», «Ваша вялікасць». Яны задаволены тым, што лоўка ўмеюць зганяць са свайго твару чырвань сораму, а таксама лісліва падлашчвацца да ўладцы. Гэтае ўмельства якраз пасуе знатным прыдворным. Калі прыглядзішся да іхняга ладу жыцця, то прыходзіш да высновы, што яны вылітыя феакі, рыхтык жаніхі Пенелопы. Астатняе вы прачытаеце ў паэме. Лепей, чым я, раскажа вам далей рэха. Спяць прыдворныя вяльможы да паўдня. Як нехта абудзіцца, то ля яго, шчэ

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



соннага, стаіць ужо наняты святар і пачынае хапатліва адпраўляць набажэнства. Затым адразу ж снеданне. Толькі-толькі паснедалі, а ўжо садзяцца абедаць. Па абедзе – гульні ў косці, шахматы, лёсаванне, камедыянты, скамарохі, палюбоўніцы, любошчы, плоскія досціпы. Потым зноў раз ці два перакусваюць. А тут ужо і вячэра. Пасля вячэры п'юць. П'юць, клянуся Юпітэрам, у некалькі заходаў. Такім вось манерам без усякай жыццёвай тускноты праходзяць гадзіны, дні, месяцы, гады, стагоддзі. Я сама, часам, баўлюся ў гэтым асяродку. Цікава назіраць за *хвастатымі* німфамі. Кожнай мроіцца, што яна тым бліжэй да багінь, чым даўжэйшы цягнецца за ёю хвост. А вунь сярод вяльмож адзін, каб упадобіцца Юпітэру, штурхае локцем другога. І кожны з іх падабаецца самому сабе тым больш, чым цяжэйшы ланцуг вісне на ягоным карку. Трэба ж, акрамя багацця, паказаць яшчэ і сілу.

57. З раскашуючымі каралямі ўжо даўно і ўпарта сапернічаюць і нават іх пераўзыходзяць пантыфікі, кардыналы і біскупы. Напэўна ніхто з гэтых асоб не прыгадвае, што ільнянoe, беласнежнае аблачэнне азначае бездакорнае ва ўсіх адносінах жыццё; што двухрогая мітра, абедзве макушы якой звязаны ў адзін вузел, сведчыць аб дасканалым веданні Старога і Новага запавету; што рукі ў пальчатках сімвалізуюць чыстае дзейсненне таемстваў, якое супрацьстаіць усякай зямной пошасці; што пастырскі посах – сімвал самага пільнага клопату пра паству; што крыж з'яўляецца ўвасабленнем перамогі над усімі чалавечымі вадамі. Калі б хто-небудзь паразважаў пра гэтыя і мноства іншых падобных рэчаў, дык ці не стаў бы ён весці жыццё, поўнае скрухі і турботаў.

Але пакуль яны жывуць анігадкі і пасуць саміх сябе. Клопаты ж пра авечак даручаюць Хрысту, або так званым манахам, ці сваім намеснікам. І ніводзін з іх не ўспамінае, што найменне «біскуп» азначае працу, клопат, апекаванне. Толькі ў сваіх памкненнях да грошай асобы гэтыя паводзяць сябе як біскупы і *зораць ва ўсе вочы*.

58. Калі б таксама і кардыналы паразважалі пра тое, што яны, заступіўшы месца апосталаў, абавязаны жыць паводле

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



апостальскага запавету. Калі б яны прыгадалі, што з'яўляюцца не ўладальнікамі, а толькі распарадчыкамі духоўных каштоўнасцяў і ў хуткім часе будуць несці за ўсё строгі адказ. Няхай бы падумалі крыху і над сваім убраннем. Што азначае белы колер аблачэння? Ці ж не выключную бездакорнасць уласнага жыцця? А што азначае пурпур? Ці ж не палымяную любоў да Бога? Што сімвалізуе мантыя з шырокімі хвалепадобнымі складкамі, якая цалкам ахутвае мулiцу яго правялебнасці ды яшчэ акрыла б і вярблюда? Не іначай, як шырока распасцёртую міласэрнасць у адносінах да кожнага чалавека. Гэта і гатоўнасць навучаць людзей, заахвочваць іх, падтрымліваць, угаворваць, садзейнічаць спыненню вайны, супрацiўляцца вераломным дзяржаўцам, не шкадаваць, ратуючы статак, сваёй крыві, а не толькі багаццяў. Навошта багацці тым, хто заступіў месца бедных апосталаў? Дык вось, кажу вам, калі б кардыналы пра ўсё такое памыслілі, то не трымаліся б за кардынальскае месца, а, наадварот, пакінулі б яго ці пачалі жыць конча жыццём, поўным цяжкай працы і клопату. Акурат гэтак жылі першыя апосталы.

59. Урэшце, намеснікі Хрыста – вярхоўныя пантыфікі. Не знайшлося б, мабыць, на зямлі нічога больш сумнага, чым іхняе жыццё, калі б яны захацелі жыць так, як жыў Хрыстос, і паспрабавалі пераймаць яго беднасць, працу, вучэнне, крыж, пагарду жыццём, а заадно паразважалі, што азначае найменне «папа», ці, інакш, айцец, а таксама падумалі, што значыць назоў «свяцейшы». Хто б тады любой цаной дамагаўся папскага месца і адстойваў яго мячом, атрутай ды іншымі сродкамі гвалту? Колькі б страцілі пантыфікі выгод, калі б хоць адзін раз да іх завітала Мудрасць? Я сказала: мудрасць. Навошта? Хапіла б і крупінкі той солі, якую прыгадвае Хрыстос. І не мелі б яны вялікага мноства багаццяў, пашанот, уладанняў, перамог, памесцяў, разграшэнняў, пабораў, індульгенцый, коней, мулаў, целаахоўнікаў. Нават гэтым кароткім пералікам я ахапіла цэлы базар, цэлы кірмаш, цэлае мора даброт. А іх месца маглі б заняць бяссонныя ночы, пасты, казанні, малітоўныя зборы, занят-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



кі навукамі, устхненні і тысяча іншых пакутлівых высілкаў. Нельга не ўлічваць і лёс, які напаткаў бы плоймы пісцоў, перапісчыкаў, натарыусаў, адвакатаў, памочнікаў, мулагонаў, конюхаў, скарбнікаў, зводніка – я дадала б яшчэ што-небудзь мацнейшае, але баюся ўразіць вашыя вушы. Уся гэтая зборня, што абцяжарвае Рымскі Пасад (памылачка: я хацела сказаць «аздобліваe Рымскі Пасад») засталася б без куска хлеба. Разам з тым, калі б нехта заклікаў найвышэйшых асоб царквы і сапраўдных свяцілаў свету да сумы і посаха, то, зразумела, падобны ўчынак быў бы яшчэ больш нялюдскім, подлым і брыдкім.

Уся цяжкая праца ускладваецца цяпер на Пётру і Паўла. А тое, што зіхаціць і нясе асалоду, папы забіраюць сабе. Пры маім садзействе ніводнае, бадай, людства не жыве так раскошна і бестурботна, як яны. Самі пантыфікі лічаць, што напоўніцу выконваюць свае абавязкі перад Хрыстом, калі ў містычным, амаль тэатральным аблачэнні, пад гучанне тытулаў «блажэннейшы», «правялебнейшы», «найсвяцейшы» наладжваюць цырымоніі, раздаюць блаславенні, выракаюць праклёны і такім вось чынам іграюць ролю вярхоўных біскупаў. Тварыць жа ўсялякія цуды – гэта, на іх пагляд, застарэлы, пракаветашні занятак і для нашага веку не падыходзіць. Вучыць народ – занадта цяжкая праца. Тлумачыць Святое Пісанне – схаластыка. Маліцца – марная справа. Праліваць слёзы – для жанчын і плюгавых мужчын. Жыць у нэндзы – паскудства. Быць пераможаным – ганебна, не дастойна таго, хто не дазваляе нават каралям цалаваць свой свяшчэнны ступак. Паміраць – адна непрыемнасць. Быць укрыжаваным – бясчэсце. Застаюцца згаданыя ўжо сродкі ды ялейныя блаславенні, пра якія гаворыць апостал Павел і на якія пантыфікі вельмі шчодрыя, а таксама інтэрдыкты, часовыя адлучэнні ад бенефіцыяў, паўторныя адлучэнні, анафемы, помста грэшнікам праз малюнкі; жахлівыя маланкі, з дапамогай якіх пантыфікі аднымківам пасылаюць душы смяротных у прадонне Тартара. Найсвяцейшыя ў Хрысце айцы і намеснікі Хрыста на зямлі асабліва моцна пляжаць тых пад'юджаных д'яблам асоб, якія ім-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



кнуцца абгрызці і паменшыць спадчыну Пётры. Але ж сам Пётра ў Евангеллі гаворыць: «Мы пакінулі ўсё і пайшлі за табою». А пантыфікі лічаць Пётравай спадчынай палі, гарады, мыту, падаткі, уладанні. У сваёй палымянай любові да Хрыста яны агнём і жалезам адстойваюць гэтае дабро, праліваючы мора крыві. Папы вераць, што па-апостальску абароняць Хрыстову нявесту, гэта значыць царкву, калі да апошняга знішчаць сваіх ворагаў. Быццам ёсць у царквы больш небяспечныя ворагі, чым пантыфікі, якія сваім замоўчваннем Хрыста аддаюць яго забыццю. Яны звязваюць Хрыста сваімі карыслівымі законамі, фальсіфікуюць надуманымі тлумачэннямі і нішчаць чумным жыццём. Паколькі Хрысціянская царква на крыві заснавана, крывёю замацавана і праз кроў узвялічылася, то пантыфікі і цяпер пускаюць у ход свой меч, нібыта няма ўжо Хрыста, які па-свойму бароніць вернікаў. Між тым вайна – справа настолькі жахлівая, што прыстоіць толькі драпежным звярам; настолькі вар'яцкая, што і паэты лічаць яе насланнём фурыяў; настолькі шкодная, што нясе з сабой пагалоўнае псаванне чалавечых нораваў; настолькі несправядлівая, што служаць ёй, звычайна, зацятыя бандыты; настолькі бязбожная, што не мае нічога агульнага з Хрыстом. Тым не менш пантыфікі, грэбуючы ўсім астатнім, займаюцца аднымі войнамі. Сярод іх можна ўбачыць і спарахнелых дзядоў, душа якіх палымнее проста-такі юначым запалам. Яны не спыняюцца ні перад тратамі, ні перад цяжкасцямі, ні перад небяспекай, калі ім трэба перавярнуць законы, веру, мір, увесь плён чалавечай дзейнасці. Трапляюцца вучоныя падхалімы, якія гэтае відавочнае вар'яцтва называюць парываннем, набожнасцю, храбрасцю. Яны выдумваюць розныя канцэпцыі, паводле якіх чалавек можа ўсадзіць смертаносны меч у жывот брата, захоўваючы адначасова тую вышэйшую любоў, якою хрысціянін павінен любіць свайго бліжняга згодна запавету Хрыста.

60. Я і дагэтуль не ведаю дакладна, ці некаторыя біскупы Нямеччыны самі падалі ўзоры такога дзейства, ці яны запазычылі многае ў пантыфікаў, абы затым паводзіць сябе

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



яшчэ больш проста. Адкінуўшы біскупскае ўбранне, адмовіўшыся ад блаславенняў ды цырымоній, духоўныя айцы настолькі ўвайшлі ў ролю сатрапаў, што лічаць для сябе малапрыстойным і ганебным аддаць Богу сваю харобрую душу не на ратным полі, а дзе-небудзь у іншым месцы. А стоўпішчы святароў? Сваё нават нязначнае адступленне ад прыкладаў святасці вышэйшых духоўных асоб яны ўспрымаюць як вялікі грэх і таму надзвычай ваяўніча адстойваюць уласныя дзесяціны, пускаючы ў ход мячы, дзіды, каменні ды іншыя сродкі гвалту. Духоўныя служкі прагна ўпіваюцца вачыма ў старадаўнія граматы, калі могуць вылавіць адтуль сентэнцыі, каб застрашыць просты люд і прымусіць яго аддаваць болей, чым дзесяціну ўраджаю. І не прыходзіць ім да галавы, што ў старадаўніх скрыптах шмат гаворыцца пра абавязкі духоўных асоб у дачыненні да народа. Нічога не значыць для іх голеная макуш галавы – сімвал таго, што свяшчэннадзей павінен быць свабодным ад свецкіх жаданняў і думаць толькі пра нябеснае. Але святулі ўпэўненыя, што належным чынам правяць набажэнствы, калі няўцямна гугнявяць малітвы, якія, клянуся Гераклам, наўрад ці пачуе і зразумее хоць які-небудзь бог. Дый самі яны не чуюць і не разумеюць таго, што мармычуць сваімі вуснамі. Асобы духоўнага і свецкага звання маюць адметную агульнасць: як адны, так і другія пільна сочаць за плёнам свайго жніва і добра ведаюць адпаведныя законы. Калі ёсць нейкая ноша, дык яны стараюцца ўскласці яе на чужыя плечы ці перадаваць з рук у рукі, быццам мячык. Падобна таму як свецкія прынцэпсы даручаюць кіраванне пэўнымі рэгіёнамі намеснікам, а намеснікі – сваім намеснікам, так і духавенства па прычыне ўласнай сціпласці пакідае выхаванне набожнасці простаму люду. А той спіхвае гэтае выхаванне так званым «эклезыястыкам», нібыта няма ў яго нічога агульнага з царквой і над ім не дзейсніўся абрад хрышчэння. Зноў жа, святары, якія мянуюцца свецкімі – быццам прысвяцілі сябе зямным рэчам, а не Хрысту, – перакладваюць сваю ношу на рэгулярных свяшчэннадзеяў. Рэгулярныя грувасцяць усё на манахаў. Манахі больш свабоднай кангрэга-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



цыі ладуюць сваё бярэмя на манахаў больш строгай кангрэгацыі, а гэтыя ўзвальваюць паклажу на манахаў-жабракоў, жабракі – на картэзіянцаў. У асяродку ж картэзіянцаў набожнасць хаваецца настолькі глыбока, што яе ніколі не ўбачыш. Таксама і пантыфікі, вялікія рупліўцы у справе грашовага жніва, гэтую цяжкую, звышапостальскую працу перадаручаюць біскупам, біскупы – парафіяльным святарам, парафіяльныя святары – вікарыям, вікарыі – жабруючай брацііі, жабруючая брацiя – тым, хто стрыжэ авечак.

Я не збіраюся ўдавацца ў падрабязнасці жыцця пантыфікаў. Яшчэ скажа нехта, што я даю сатыру, а не пахвальнае слова. І няхай ніхто не думае, што, хвалячы дрэнных дзяржаўцаў, я ганьбую добрых. Паўсюдна хачу паказаць адно: ніводзін смяротны не будзе мець салодкага жыцця, калі я не пасвяціла яго ў мае таемствы і не атуліла яго сваім дабрадзействам.

61. Ды як жа іначай? Сама Рамнузія, носьбітка чалавечага шчасця, цалкам пагаджаецца са мною. Больш таго, яна ставіцца да ўсіх мудрацоў надзвычай варожа, а дурняў, нават калі яны спяць, адорвае ўсялякімі дабротамі. Мо прыгадаеце Цімафея, празванага «шчасліўчыкам». Гэтага Цімафея і прымаўкамі аздобілі: *сам спіць, а невад яму рыбу ловіць,* або *сава Мінервы яму на шчасце ляціць.* Пра мудрацоў жа гавораць, што яны *родзяцца на ўшчэрбе месяца*, конь у іх Сеевы, а золата тулузскае. Але не буду болей *гаварыць прымаўкамі*, каб часам не падумалі, што я сплагіяціла іх у майго сябра Эразма. Пярэйдзем цяпер да справы. Фартуна пялегуе не столькі разважных, колькі адважных, якім да спадобы зухаватае «Было ні было». А мудрасць робіць людзей баязлівымі. Вы бачыце паўсюдна, што мудрацы жывуць у беднасці, галечы, куродыме. Яны не ведаюць славы. Іх не любяць, іх адвяргаюць. Да абэлтухаў жа грошы цякуць самі сабой. Абэлтухам давяраюць стырно дзяржавы. Яны жывуць сабе анігадкі.

Калі шчасліўцамі лічацца асобы, здольныя дагаджаць уладарам і завіхацца ў асяроддзі маіх самацветных багоў, то што, адкажыце, з'яўляецца для гэтых людзей больш непа-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



трэбным ды згубным, чым мудрасць? Які прыбытак атрымае купец, калі ён жадае разбагацець, але выконвае парады мудрасці і не дапускае клятваадступніцтва? Падловяць купца на хлусні, то ён адразу пачырванее, калі будзе хоць крыху прытрымлівацца вымучаных скрупулёзнасцяў мудрацоў наконт ліхвярства і крадзяжу. Таксама, царкоўных пашанот і багаццяў даможацца лягчэй асёл ці бык, чым мудрэц. А як узбунтуе цябе юрлівасць? Тут май на ўвазе, што дзяўчаты, якім належыць у гэтым акце галоўная роля, усім сваім целам аддаюцца дурням. Мудрацоў жа яны пудзяцца і ўцякаюць ад іх, нібы ад скарпіёнаў. Нарэшце, аматары пажыць весела і прыгожа са сваёй кампаніі выганяюць мудраца, а на яго месца ахвотней пусцяць любую жывёліну, чым нейкага разумніка. І яшчэ. Куды б ты ні звярнуўся, паўсюдна, у тым ліку і ў пантыфікаў, манархаў, суддзяў, чыноўнікаў, сяброў, непрыяцеляў, паноў вялікіх, паноў малых, усё робіцца за грошы. Мудрэц жа ставіцца да грошай з пагардай, і за гэта яго старанна пазбягаюць.

Хваліць мяне можна беспярэстанку і на розныя лады. Аднак мой аповед павінен мець і завяршэнне. Таму я заканчваю. Вось толькі сцісла адзначу, што ёсць даволі знакамітыя аўтары, якія праславілі мяне і творамі і чыннасцямі. Інакш вы падумаеце, чаго добрага, што я, бы тая дурнічка, толькі і любуюся ўласнаю асобай.

<...>

**Пераклаў з лацінскай мовы**
**Уладзімір ШАТОН.**

## Замест пасляслоўя

Эразм Ратэрдамскі займае цэнтральнае месца ў сузор'і гуманістаў эпохі Адраджэння. Тэолаг, папраўшчык кніг Святога Пісання, кніг айцоў хрысціянскай царквы, іх каментатар, бліскучы знаўца лацінскай і грэцкай мовы, а таксама антычнай літаратуры, ён быў адным з тых эрудытаў, якім дадзена было глыбока пазнаць рэаліі свайго часу.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Нарадзіўся Эразм Ратэрдамскі 28 кастрычніка 1469 года ў горадзе Амстэрдаме. Універсітэцкую адукацыю атрымаў у Парыжы (1495–1499). У 1499 годзе наведаў Англію, дзе пазнаёміўся з гуманістамі. Яго блізкімі сябрамі сталі Джон Колет і Томас Мор. Для Эразма гэтае сяброўства было надзвычай важным. У коле ангельскіх гуманістаў кшталціліся яго этычныя і тэалагічныя погляды. Прабыўшы ў Англіі крыху больш за паўгода, Эразм вярнуўся ў Парыж, але ненадоўга, бо яго ўвесь час вабіў вялікі свет. Яму карцела ўбачыць іншыя краіны, набрацца розуму, авалодаць навукамі. Пра сябе Эразм сказаў аднойчы: "Я хачу быць грамадзянінам свету, ці, хутчэй, паўсюдным яго падарожным". Дэзідэрыус (ёсць і такое найменне) большую частку свайго жыцця правёў у дарозе. Акрамя згаданых вышэй краін, грамадзянін свету жыў у Германіі, Італіі, Швейцарыі. Апошні год свайго жыцця правёў у Базелі. Памёр 12 ліпеня 1536 года ў доме Гераніма Фробена – сына вядомага друкара Ёгана Фробена.

Эразм Ратэрдамскі пакінуў нашчадкам вялікую літаратурную спадчыну. Геранім Фробен і Мікалай Эпіскопій дбайна паклапаціліся аб тым, каб гэтая спадчына была выдадзена як збор твораў. Першае дзевяцітомнае выданне твораў Эразма было надрукавана ў 1540–1541 г. у Базелі. Праз паўтараста гадоў у Лейдэне ўбачыла свет другое выданне літаратурнай спадчыны Эразма. Гэты збор быў перавыдадзены ў 60-х гадах XX стагоддзя ў Германіі – дзесяць вялізных тамоў.

Усе творы Эразма напісаны на лацінскай мове. У краінах Заходняй Еўропы лаціна была тады міжнароднай мовай. Цудоўна ведаючы лаціну, ён не толькі пісаў на гэтай мове, але і размаўляў на ёй большую частку свайго жыцця. Мова Эразма вызначаецца лёгкасцю, прыгажосцю, багаццем моўных сродкаў.

Сярод шматлікіх прац гуманіста асаблівай увагі заслугоўвае найперш яго твор пад назовам "Кінжал хрысціянскага воіна" (1504 г.). Даследчыкі лічаць, што гэта, бадай, галоўная праца, у якой знайшла сваё адлюстраванне сістэма поглядаў Эразма. Гуманіст заклікае вярнуцца да чысціні ранняга хрысціянства. Ён выступае супроць ідалапаклонства, імкнецца рассеяць заблудства большасці вернікаў, для якіх рэлігія зводзіцца да абрадавасці і захавання фармальных правіл.

Філасофскі прынцып "Назад да крыніц!" Эразм прымяніў да Бібліі. У 1516 годзе ён выдаў старажытнагрэцкі арыгінал Новага Запавету са сваім лацінскім перакладам і сваімі ж каментарамі. Тым самым каментар стаў зачынцам гістарычнага тлумачэння святых тэкстаў і падарваў давер да традыцыйнай інтэрпрэтацыі хрысціянства.

Шырокую вядомасць набыла Эразмава кніга прымавак. Першы раз твор быў выдадзены ў 1500 годзе і меў назву "Зборнік прымавак". У ім былі сабраны прымаў-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



кі, афарызмы, ідыяматычныя выказванні антычных аўтараў. Усяго 818 выслоўяў. Праз сем гадоў выйшла новае выданне кнігі, у тры разы большае за папярэдняе. Называлася яно "Хіліяды (тысячы) прымавак", або па-лацінску "Adagia". Збор гэты ўключаў не толькі новыя прымаўкі, але і каментары да іх. "Adagia" вытрымалі мноства выданняў і заставаліся папулярнымі аж да XVIII стагоддзя. Аднак цяпер твор гэты з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю.

Улюбёнай кнігай многіх чытачоў былі і ёсць "Colloquia familiaria", або "Сяброўскія размовы". Эразм задумаў такія размовы яшчэ ў студэнцкія гады, калі даваў прыватныя урокі лаціны, каб мець хоць нейкі прыробак да сваёй мізэрнай стыпендыі. Для сваіх вучняў ён складаў падручнікі, а таксама размоўнікі на бытавыя тэмы. У 1518 годзе была надрукавана невялічкая кніжка пад назвай "Эразм Ратэрдамскі. Формулы размоваў штодзённага ўжытку". Кніжку выдалі без ведама аўтара. Гэта былі запісы яго колішніх вучняў, нярэдка з памылкамі. У 1519 годзе з'явілася новае выданне размоваў, ужо выпраўленае самім Эразмам. Паколькі попыт на кнігу не змяншаўся, яе надрукавалі зноў, уключыўшы ў падручнік дадатковыя дыялогі. Наступнае выданне, што мела месца праз два гады, папоўнілася новымі дыялогамі на іншыя тэмы. Кніга стала называцца "Colloquia familiaria" ("Сяброўскія размовы"). Да 1553 года "Colloquia" павялічыліся больш чым у два разы. Гэта не проста размоўнік у нашым цяперашнім разуменні, а бытавая сатыра. З вялікай цікавасцю чыталі кнігу і вучнёўская моладзь, і дарослыя.

Але з усіх твораў Эразма найбольшую славу набыла яго невялічкая кніжка "Stultitiae laus" ("Пахвала дурасці"). І, напэўна, для многіх сучасных чытачоў Эразм ёсць аўтар толькі аднаго гэтага твора. Упершыню кніга была надрукавана ў 1511 годзе. Пахвала дурасці дзейсніцца самой Дурасцю ў форме жартаўлівай палемікі са стоікамі, для якіх мудрасць – гэта розум, а чалавечыя пачуцці – гэта дурасць. Морыя (грэцкая назва Дурасці) усяляк развенчвае мудрасць мудраца стоікаў і даказвае сваю перавагу. Пры гэтым, як таго зусім натуральна чакаць ад дурасці, яна не грэбуе і прыёмамі сафістычнага штукарства. Паводле Морыі, славуты мудрэц стоікаў мудры толькі ў сваім уяўленні. Яму аднаму мроіцца, што ён наскрозь бачыць бачнае, што ён багаты, здаровы, свабодны, што ён і цар і... словам, УСЁ. А на самой справе мудрэц гэты – проста дзівак. Запрошаны, скажам, на пір, ён або маўчыць, або сваімі недарэчнымі пытаннямі ставіць бяседнікаў у нейкі дурнотны стан. У жыцці гэты разумнік нічога не варты. Калі трэба нешта купіць або прадаць, дык ён не мудрэц, а доўбень. Чалавек не ведае самых простых рэчаў і вельмі далёкі ад прынятых нораваў і звычак. Бедалага не мае сяброў, бо з ім ніхто не хоча сябраваць. Ён заў-

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



сёды змрочны, хмуры, глухі да ўсякіх душэўных узрушанняў, абыякавы да любові і страты. Ён уяўляе сабой нейкую тупагаловую статую. Яму ўсё чалавечае бачыцца далёкім і чужым. Гэты педантычны аскет з'яўляецца ворагам чалавечай прыроды.

Пад вобразам антычнага мудраца багіня Дурасць падае, фактычна, тып схаласта, вучонасць якога не стасуецца з жыццём. Дрымучая мудрасць – гэта псеўдарацыяналізм сярэднявечча.

А між тым чалавек ёсць не абстрактны розум, а дзейсная асоба, якая складаецца найперш з плоці, жывых чалавечых пачуццяў, імпэтаў, парыванняў, карацей, з таго, што стоікі называюць дурасцю. Паказваючы недарэчнасць мудрасці мудраца, багіня Дурасць даводзіць, што акурат яна спрычынілася да ўсяго, што мае дачыненне да чалавечага жыцця. Дурасць сцвярджае, што яна пануе над усім і ва ўсім. Ад яе сыходзяць на людзей жыццёвыя даброты. Дурасці людзі абавязаны не толькі сваім паяўленнем на свет, але і сваім далейшым існаваннем, сваімі радасцямі, сваімі ўцехамі. Морыя шчодра адорвае смяротных дарамі дурасці і робіць чалавека забаўным, вясёлым, вабным, шчаслівым. Усё прыемнае ў жыцці – гэта плён яе чыннасці. Маці-прырода дбайна паклапацілася аб тым, каб жыццё было прыпраўлена ладным дамешкам дурасці. І таму чалавечая істота мае ў сабе больш пачуццёвасці, чым разумовасці. Пачуцці адыгрываюць галоўную ролю ў жыцці людзей. Чалавечыя памкненні, жаданні аказваюцца першаснымі адносна розуму. Адсюль вынікае, што не мудрасць, а розум, які супрацьпастаўляе сябе прыродзе чалавека, усёй прыродзе наогул, ёсць сапраўдная дурасць. Мудраца з такім розумам Морыя называе найдурнейшым мудрацом.

Пералічыўшы ўласныя заслугі, спадарыня Дурасць прыступае затым да апісання сваіх паслядоўнікаў і прыхільнікаў. Сярод іх асаблівай дурнотай вызначаюцца тыпы, у якіх пэўны дамешак дурасці пачынае раптам павялічвацца і расці. У выніку разбухлая дурасць становіцца прычынай розных маніякальных дзівацтваў. Не палюе ўжо, а дзівачыць паляўнічы, для якога няма на свеце большай асалоды, чым яхканне выжлякоў, спеў паляўнічых рагоў, лямант і крык загоншчыкаў. Тое ж трэба сказаць пра людзей, якіх апаноўвае сверб будовы і перабудовы. Сюды ж неабходна аднесці розных алхімікаў, апантаных ігракоў, паломнікаў. Паступова Дурасць пераходзіць да высмейвання невуцтва, адсталасці, коснасці, сквапнасці ды іншых чалавечых вадаў. Тут ужо дастаецца шмат каму. Бізун Эразмавай сатыры пярэсціць купцоў, граматыкаў, паэтаў, юрыстаў, філосафаў, тэолагаў, манахаў, высокіх асоб духоўнага і свецкага звання. У заключнай частцы Дурасць выступае ўжо як містычнае аддаленне ад усякай зямной мудрасці, якое вядзе да вышэйшых спасціжэнняў.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



Першае выданне "Пахвалы" пазначана 1511 годам. На гэты ж год прыпадае таксама яшчэ адно выданне кнігі. У наступным 1512 годзе кніга перавыдавалася аж тры разы: у Страсбургу, Антверпене і Парыжы. За кароткі час колькасць экземпляраў "Пахвалы" дасягнула многіх тысяч. Кнігу чыталі ва ўсіх краінах Еўропы. Ведалі яе, канешне, і ў Вялікім Княстве Літоўскім. У бібліятэках магнатаў і шляхты тадышняй Літвы было шмат лацінамоўных твораў, у тым ліку і твораў еўрапейскіх гуманістаў. Між іншым, на аўтара "Пахвалы" неаднаразова спасылаецца ў сваіх палемічных творах беларускі рэфарматар XVI стагоддзя Андрэй Волян, які, падобна да Эразма, пісаў свае трактаты выключна на лацінскай мове.

Большасць чытачоў "Stultitiae laudis" успрынялі твор з захапленнем. Толькі некаторыя, пераважна з ліку манахаў, папракалі Эразма за празмерную вольнасць і з'едлівасць. Баронячы свой твор ад нападу зласліўцаў, Эразм у лісце да Томаса Мора пісаў: "Вельмі здзіўляе мяне далікатнасць натуры сягачасных вушэй, здольнасць выслухоўваць адныя ўрачыстыя тытулаванні. Сёй-той дайшоў да такой заблуднай рэлігійнасці, што гатоў хутчэй сцярпець самую брыдкую лаянку на Хрыста, чым дазволіць хоць бы лёгкі досціп над папом альбо над свецкім уладцам, асабліва там, дзе яны маюць дачыненне да ягонай кармушкі". У лісце галандскаму вучонаму Марціну ван Дорпу Эразм падкрэслівае, што ў "Пахвале" "мы хацелі ўразуміць, а не ўразіць, дапамагчы, а не пакрыўдзіць, выправіць чалавечыя норавы, а не сапсаваць іх". У гэтай сувязі трэба адзначыць, што многія старонкі твора актуальныя і для нашага часу.

На беларускую мову поўны пераклад кнігі "Пахвала Дурасці" зроблены ўпершыню. На жаль, аб'ём часопіса "Крыніца" не дазваляе надрукаваць увесь пераклад. Аднак чытачам прапануецца ўсё ж значная частка твора, які трывала ўвайшоў у залаты фонд еўрапейскай літаратуры.

**Уладзімір ШАТОН**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015





## Анатоль ТРАФІМЧЫК

***

*Я шмат чаго мог уявіць, але*
*толькі не беларускую прастытутку.*
**Зміцер Бартосік**
("Народная Воля",
13 кастрычніка, 1998 г.)

Я хачу цябе тамака, я хачу цябе тутака,
Пан'юрліваю смагаю перасохлі мазгі,
Патрыёткай адданаю ты прыйдзі,
прастытутка,
Беларускаю моваю мо пазбавіш тугі.

Праспяваеш народную,
ці "Раманс" Багдановіча,
Ці раскажаш гісторыю пра часы БНР,
Я ж паведаю, любая, аб Вялікіх Круговічах,
Аб Вялікіх Круговічах, скуль пішу я цяпер.

І якое прывабнае, і якое прыгожае
Наваколле палескае ад зямлі да нябёс,
Не стае толькі гурыі – замяніць яе зможа
Беларуская грацыя – для цябе такі лёс.

Я хачу цябе тутака, у Вялікіх Круговічах,
На прыродзе разложыстай
ад душы *разлажыць*
І пад зоркай любімаю песняра Багдановіча
Буду жыць з табой, мілая,
пяць хвілін буду жыць.

Але ж дзе патрыётачка
з вельмі смелаю знешнасцю,
За якою стаілася падазронае "бел."? –
Падалася цнатлівая, толькі вонкава грэшная,
У пару фантастычнаю, у сваё ВКЛ.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## Шаноўны чытач!

Калі ты, прачытаўшы наш часопіс, упэўніўся, што ён ***твой***, то, як бы ні было цяжка, дапамажы нам і сабе – падпішыся на яго, каб быць з намі адным непарыўным цэлым у кантэксце гістарычнага і сучаснага нацыянальнага жыцця беларусаў.

Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на ~~газету~~ / часопіс **74824**
індэкс выдання

**КРЫНІЦА**
(назва выдання) Колькасць камплектаў

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

---

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| | | |
|---|---|---|
| ПВ | месца | літар |

на ~~газету~~ / часопіс **74824**
індэкс выдання

**КРЫНІЦА**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб.___кап. | |

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## Шаноўны чытач!

Калі ты, прачытаўшы наш часопіс, упэўніўся, што ён ***твой***, то, як бы ні было цяжка, дапамажы нам і сабе – падпішыся на яго, каб быць з намі адным непарыўным цэлым у кантэксце гістарычнага і сучаснага нацыянальнага жыцця беларусаў.

Шчыра дзякуем за разуменне і падтрымку.

# ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

**Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).**

**Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з картачкай дастаўкі запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015